


КАМУНІСТЫЧНЫ УНІВЭРСЫТЭТ БЕЛАРУСІ
ІМЯ Ў. І ЛЕНІНА

# ЗАВОЧНЫ КАМВУЗАВЕЦ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ЗАВОЧНА-КУРСАВОГА СЭКТАРУ

КУРС ПЕРШЫ

№ 2

ВЫДАНЬНЕ КАМ. УНІВЭРСЫТЭТУ БЕЛАРУСІ імя Ў. І. ЛЕНІНА
МЕНСК 1931



КАМУНІСТЫЧНЫ УНІВЭРСЫТЭТ БЕЛАРУСІ імя Ў. І. ЛЕНІНА



# ЗАВОЧНЫ КАМВУЗАВЕЦ

КУРС ПЕРШЫ

№ 2

ВЫДАНЬНЕ КАМУНІСТЫЧНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ БЕЛАРУСІ імя Ў. І. ЛЕНІНА
МЕНСК 1931



тах *(варожыя, крывавыя, няведамым)*, ці аб дзеяньнях *(выюць, гнятуць, прывядуць)* і розных акалічнасьцях *(злосна)*. Ёсьць-жа тут словы, якія ніякага вобразу нам не даюць і ня маюць самі па сабе ніякага значэньня *(над, у, к)*. А тым часам і гэта словы, бо бяз іх абыйціся ў мове нельга. У гэтым лёгка ўпэўніцца, прачываўшы папярэднія сказы бяз гэтых слоў:

Буры варожыя выюць намі.
Нашы пуціны бойцы крывавай лёсам няведамым
нас прывядуць.

Тэкст згубіў свой сэнс, стаў проста бяссэнсіцай.

**Заўважце:**

1, Сказы складаюцца з паасобных слоў, якія на пісьме аддзяляюцца адно ад аднаго невялікім прамежкам, пішуцца, як гавораць, асобна.

2. Адны з слоў сказу, узятыя самі па сабе, маюць пэўнае значэньне, даюць нам пэўнае ўяўленьне аб чым-небудзь: аб прадметах, зьявах, розных адцягненых паняцьцях, аб прыметах, дзеяньнях, акалічнасьцях. Другія-ж словы, узятыя самі па сабе, бяз сувязі з іншымі словамі, ніякага вобразу нам не даюць *(над, у, к)*, ніякага значэньня самі па сабе ня маюць.

Першыя з гэтых слоў ёсьць словы *называльныя*, ці *поўныя*, другія словы—*дапаможныя*, ці *няпоўныя*.

3. Кожнае з называльных слоў, уключаючыся ў сказ, становіцца яго *членам, ці часьцінаю* сказу; дапаможныя-ж словы членамі сказу ня лічацца.

4. Да дапаможных слоў адносяцца такія словы: у, на к, да, па, для, ад, з, бёз (бяз), цераз, пра, пад, за, з-за, з-пад, пры, на, аб, і, але, да, дык, ды і інш.

5. Усе дапаможныя словы служаць сувязьзю паміж паасобных называльных слоў і сувязьзю між паасобных сказаў.

6. Дапаможныя словы адыгрываюць толькі ім уласьцівую роль ў сказе, чаму і пішуцца асобна, як і словы называльныя.

## ЗАДАЧА 13-я.

*Сьпісаць артыкул і дапаможныя словы падкрэсьліць.*

Слова „індустрыялізацыя“ сьвідравала ў Марфы мозг. А пераварыць гэта слова яе галава адмаўлялася. І вось у абедзены перапынак Марфа з групкаю ткачых выклікала жанарганізатара Зосю проста ў цэх.

— Растлумач нам, Зоська, пра гэту самую „індустрыялізацыю“ —гаварыла Марфа,—а то, забі мяне на месцы, не разумею“.

Упрашваць доўга ня прышлося. Размова сама пайшла, як па маслу. Зося тлумачыла, а ўсе слухалі ды давалі пытаньні там, дзе было няясна.

— Мы закончваем пуск старых фабрык, але яны не здавальняюць патрэбы насельніцтва ў таварах. Патрэба ў таварах расьце з кожным месяцам. Яна штурхае нас да пабудовы новых фабрык і заводаў. А дзе браць машыны для іх? Чым абсталяваць фабрыкі, заводы і электрастанцыі? Капіталістыя не клапаціліся аб вырабу машын, а куплялі іх за межамі.

Прыгледзьцеся, чым мы працуем? Ткацкі станок з Ангельшчыны, брошная машына—з Германіі. Але, выпісваючы машыны з-за межаў, мы павінны плаціць за іх золатам, якога ў нас мала, ці везьці туды за бясцэнак сыравіну і другія прадукты, якія нам самім патрэбны.

Нам патрэбна многа машын, ды яшчэ такіх, каб яны па сваёй дасканаласьці былі вышэй замежных. Дзеля гэтага патрэбна будаваць заводы, якія-б выраблялі нам патрэбныя машыны. Вось што значыць індустрыялізацыя. На гэты шлях стала савецкая ўлада і стала грунтоўна.

(З падручніка Усьцінава).

## ЗАДАЧА 15-я

*Сьпісаць верш, устаўляючы ў адпаведных мясцох тэксту дапаможныя словы.*

### ГРЭШНІК.

Мой бацька шчыра верыў богу.
Ды ... сахой аддаў душу.
Я—грэшнік. вышаў ... дарогу
... бога ... сэрцы не нашу.
Жыву нішто сабе, паволі,
... разумнею ... году ... год.
Даўно забыўся ... трохпольле,
Люблю лубін ... караньплод.
Мае суседзі—Янка, Цімка—
... сьвята рэжуць ... „ачко“,
... я сяджу ... той час ... кніжкай
... Міколам-сынам... дачкой.
Я хціва п'ю апавяданьні,
... кажуць чорныя радкі,
Што людзі працы ... змаганьня
Жывуць ня так, як іх бацькі,
І горад ... вёскай год ... годам
Саюз мацуюць — брат ... сястрой
Будуюць фабрыкі, заводы
... родны наш Асінстрой.
... намі новая дарога
... ёй ідзем ... барацьбе.
І ... пралятарскай дапамогай
... кіраўніцтвам КПБ,
Бядняцка-серадняцкай масай,
Магутным шэрагам калён
Ідзем бадзёра ..., калгасы,
Стары пакінуўшы загон.
... хутка, хутка (то ня мары)
Загіне цемра, што той сон,
... беларускія абшары
Рупліва узарэ Фордзон.

*(М. Горны).*

## ЗАДАЧА 16-я.

*Адказаць на пытаньні:*

1. З якіх частак складаецца наша мова?
2. З якіх элемэнтаў складаюцца сказы?

3. На якія дзьве групы падзяляюцца паміж сабою словы сказу?
4. Што могуць абазначаць словы называльныя?
5. Якое значэньне маюць у мове словы дапаможныя?
6. Якія з слоў зьяўляюцца членамі сказу, а якія не?

### § 8. Як з слоў будуецца сказ.

*1. Прачытайце*:

З камандзіры асяродзьдзя і чырвоныя нашы рабочых вышлі сялян.

Ці можна што-небудзь зразумець з гэтага раду слоў?

Разумеецца, не, бо ўсе словы тут у поўным беспарадку.

Прачытайце тыя-ж самыя словы далей:

Нашы чырвоныя камандзіры вышлі з асяродзьдзя рабочых і сялян.

Тыя-ж самыя словы, што і ў першым тэксьце, а сэнс сказу выразны і ясны.

У чым жа тут справа? А ў тым выключна, што ў беспарадку раскіданыя па радку словы мы прывялі ў належны парадак: паставілі кожнае з іх на належным месцы.

**Вывад 1.**

Каб пабудаваць з слоў сказ, патрэбна даныя словы выказаць у пэўным парадку. Адгэтуль выцякае, што сэнс сказу залежыць ад парадку слоў, з якіх ён складзены.

## ЗАДАЧА 16-я

*Сьпішэце і пастаўце ў наступных сказах словы на свае месцы. Узор у першым прыкладзе.*

1. Станку працаваў майстэрні ў такарным я на. (Узор: Я працаваў у майстэрні на такарным станку).

2. Асьветы моладзь вёскі вельмі нашае да імкнецца.

3. Меў індустрыялізацыі посьпех другі працоўных заём вялікі сярод.

4. Прамысловасьці з павялічваецца разьвіцьцём склад і пролетарыяту колькасны.

5. Тэхніка для патрэбна поўнай соцыялізму перамогі разьвітая высока.

6. Родзіцца з навука патрэбнасьцяў барацьбы жыцьцёвае чалавека з прыродаю.

## ЗАДАЧА 17-я.

*Сьпішэце тэкст, правільна пабудаваўшы сказы.* (Работа не абавязковая).

ЗА ХЛЕБАМ.

Хмара і навярнулася аграмадная сонца заляпіла. Цягнік ходам перад пашоў астаноўкаю ціхім. Міхась сядзелі на нярухома паравозе з Трафімам.

Хмара на разарвалася шматкі над дробныя папаўзьла і стэпам.

Абазначылася маленькая плямаю станцыя крошачнаю ўперадзі.

Бліжняю прайшлі вярблюды далінаю над і дымок бугарком закурыўся.

## ЗАДАЧА 18-я.

*Сьпішэце сказы, разьмеркаваўшы словы так, каб атрымаўся іншы сэнс.*

1. Спачатку паабедаць, а потым пачытаць кнігу. 2. Днём вецер крапчэй, чым уначы. 3. Ня месца аздабляе чалавека, а чалавек месца. 4. Маці любіць дачку. 5. Палі акружаюць сады.

*Прачытайце:*

Будаўніцтвам абвастрыць рост барацьбою социялістычным клясавая.

Зноў нічога не зразумела. Відавочна, і тут словы разьмеркаваны неналежным чынам, ужыты не ў належным парадку. Зробім патрэбную перастаноўку:

Рост социялістычным будаўніцтвам абвастрыць клясавая барацьбою.

У гэтай фразе словы расстаўлены правільна, а сэнсу няма. Чаму? (падумайце). Прачытайце далей:

Рост социялістычн*ага* будаўніцтв**а** абвастр*ае* клясав**ую** барацьб**у**.

Чаму сказ стаў ясным, зразумелым? (падумайце).

Таму, па-першае, што словы, якія ў яго ўключаны, мы прывялі ў патрэбны парадак, і таму, па-другое, што канчаткі слоў мы зьмянілі так, як таго вымагаюць законы мовы, ці, як гавораць у граматыцы, *надалі словам уласьцівую ім у гэтым выпадку форму.*

**Вывад 2:**

Каб пабудаваць правільны сказ, патрэбна ня толькі разьмеркаваць словы ў належным парадку, але-ж і надаць

кожнаму з іх пэўную форму, зьмяняючы канчаткі слоў так, як таго вымагаюць законы мовы.

Адгэтуль, калі слова ўвязваецца ў сказ, дык далёка ня ўсё роўна, з якім канчаткам яно ўжыта, бо адно слова, уваходзячы ў сувязь з другімі, вымагае, каб гэтае другое слова мела пэўны канчатак, ці пэўную форму (стаіць жар*а*. Няма жар*ы* і г. д.).

## ЗАДАЧА 19-я.

*Няправільна пабудаваныя сказы пабудаваць правільна, паставіўшы кожнае слова на належным месцы і прыдаўшы кожнаму слову належную форму.* (Можна абмежавацца выкананьнем 5—6 прыкладаў).

1. Год вясна спазьніцца гэты у чамусь. 2. Молат герб савецкі і серп Саюз. 3. Цягнік адбыўся па машыніст неасьцярожнасьць крушэньне. 4. Сьвірапець Чарнаморскае пабярэжжа на шторм сільны. 5. Радыёпрыемнік паставіць многі сялянскі у хата. 6. Разьвівацца у гарадзкой Менск прыкметна будаўніцтва. 7. Адсталы ажыўляць сялянскі моладзь сьвядомы вёска. 8. Новы дабіцца пралетарыят арганізаваны жыцьцё лепшы. 9. Краіна росквіт ад навука дабрабыт залежыць. 10. Шырокі вучыцца магчымасьць цяпер атрымаць рабочы. 11. Адкрыць сьветлы будучына к рэвалюцыі шлях.

### НА ФРОНЦЕ.

Было раку нам перапраўіцца дано цераз заданьне. Ноччу на першы раз белых кінуліся мы. Цераз другую папытку дзён мы некалькі зрабілі. Не ўдалося. Нарэшце атрымалі той бераг ні перапраўіцца стала на загад мы ўва што-б то. Ударым зноў ноччу. Цераз перакінуліся раку. Зноў з завеса кулямётнага агню. Такі мы а ўсё прадзіраемся. З суседнімі брыгадамі флангах на трымаем сувязь. То валавяны прыгвожджвае другога, аднаго то дождж. Падаюць. Стогнуць. Сьвідруе волава цела. Крывёю гараць і дымяцца раны. Нібы кулю рукамі абдымаюць растапыранымі зямную... А мы рады перабягаем і ўсё нашы радзеюць радамі. Штыкі, здаецца, і ў некалькі крокаў мы ўдарым. *(Аросеў).*

## ЗАДАЧА 20-я.

*Сьпішэце і на месца шматкроп'я пастаўце слова „экскурсія“ з адпаведным канчаткам.*

У чацьвер мы арганізавалі ... у друкарню. У час ... мы азнаёміліся з усёю тэхнікаю друкарскае справы. Аб ... мы раней апавясьцілі друкарню. ... мы засталіся здаволенымі.

### § 9. Асноўныя члены сказу.

Калі мы думаем, дык заўсёды *аб кім* ці *аб чым-небудзь* думаем, напрыклад, аб чалавеку, жывёле, расьлінах, аб дабры, радасьці і г. д., а потым яшчэ *што-небудзь думаем,* напрыклад, што чалавек *гаворыць,* жывёла *гадуецца,* расьліны *зеляненюць* і т. п.

Такім чынам, наша думка, як правіла, складаецца звычайна з дзьвёх частак: з таго, па-першае, *аб кім* ці *аб чым* мы думаем, і, па-другое, з таго, *што* іменна мы думаем.

Адгэтуль і ўсякі сказ, які ёсьць выражэньне нашае думкі, складаецца звычайна з дзьвёх частак: 1) з таго, *аб кім* ці *аб чым* гаворыцца і 2) з таго, *што* іменна гаворыцца.

Возьмем шэраг сказаў і прасачым, якой катэгорыяй слоў выражаецца першая частка і якой—другая частка сказаў.

УВАГА: 1) Першая частка сказу будзе далей друкавацца рассунутым шрыфтам—разрадкаю, а другая рукапісным—курсывам

2) Першая частка не заўсёды можа стаяць у сказе на першым месцы, а і на другім.

I. Касар *косіць. Жне* жняя. Мора *бушуе. Граюць* хвалі. Рэвалюцыя *жыве*. Яна *шырыцца*. Чырвонаармейцы *будуць маршыраваць*. Музыка *стала граць*.

II. Ноч *ціха*. Вораг *дуж*. Абяцанкі *танны*.

III. Паўстаньне *ёсьць мастацтва* (Ленін). Ленін—*правадыр*. Масква—*сталіца*.

Аналізуючы словы першае часткі ўсіх сказаў, мы прыходзім да вываду, што ўсе яны без выключэньня адказваюць на пытаньне — хто-што?

Хто?—*касец, жняя, Ленін*—усё жывыя прадметы.

Што?—*мора, хвалі, ноч, рэвалюцыя* — усё няжывыя прадметы ці розныя прадметныя паняцьці.

Словы-ж другое часткі сказу ня ўсе адказваюць на адно і тое-ж пытаньне. Так, словы другога парадку, зьмешчаныя ў сказах пад цыфраю I, адказваюць на такія пытаньні:

1) Што рабіў?—Касіў.
2) Што робіць?—Жне.
3) Што будуць рабіць?—Будуць маршыраваць,

Словы гэтага-ж парадку пад цыфраю II адказваюць на пытаньні:

Якоў? якава? якаво? — *дуж, ціха, танны.*

Нарэшце, словы таго-ж парадку над цыфраю III адказваюць на пытаньні:

1) Хто ёсьць?—*Правадыр.*
2) Што ёсьць—*Сталіца.*



**Заўважце:**

1) Усе словы першае часткі сказу, што адказваюць на пытаньні хто-што, называюцца ў граматыцы **дзейнікам.** Дзейнікам гэтыя словы названы таму, што яны найчасьцей азначаюць прадмет, які нешта дзее, робіць або з якім нешта дзеецца, робіцца:

Мора шалее. Хвалі пеняцца.

2. Усе словы другое часткі сказу хоць і адказваюць на розныя пытаньні, — называюцца **выказьнікам,** бо імі мы выказваем самую існасьць свае думкі (*косіць, бушуе, ціха, цёпел, ёсьць правадыр* і г. д.).

3. **Выказьнік,** як відаць з вышэйпаданых прыкладаў, можа складацца з аднаго слова *(бушуе. косіць, жыве, шырыцца),* і з двух слоў *(будуць маршыраваць, стала граць, ёсьць мастацтва).*

4. Слова *ёсьць* у двухслоўным выказьніку часьцей выпадае з сказу. Тады на яго месцы адчуваецца ў інтонацыі паўза, чаму пры пісьме тут звычайна ставіцца працяжнік:

*Ленін—правадыр. Пушкін—пісьменьнік, Хвоя—расьліна.*

5. Дзейнік і выказьнік называюцца **асноўнымі** членамі сказу, бо яны сапраўды складаюць аснову і нашае мысьлі і нашага выказваньня.

6. Часам гэтых двух членаў досыць, каб выказаць усю нашу думку (Дом *будуецца.* Сонца *сьвеціць*), Бываюць выпадкі, калі сказ складаецца нават з аднаго выказьніка (*Раздажджылася. Марозіць. Сьвітае),* ці з аднаго толькі дзейніка (*Пажар! Агонь!)* Часьцей жа, аднак, для больш поўнага выражэньня сваіх думак мы дадаём да асноўных членаў яшчэ іншыя словы, якія так і называюцца даданымі членамі сказу.

Бязьбярэжнае мора страшна *разбушавалася.*

Тут дзейнік—мора, выказьнік—разбушавалася, а астатнія словы—даданыя.

7. Сказ, які складаецца толькі з дзейніка і выказьніка, называецца кароткім сказам: *Ня ціхне* бура. *Стогне* лес. (Чарот).

Калі-ж у сказе ёсьць яшчэ і даданыя часьціны, дык ён называецца разьвітым: Людзі ў новую краіну сёньня *робяць* пералёт (Чарот).

## ЗАДАЧА 21-я.

*Сьпішэце сказы і падбярэце да іх па сэнсу выказьнікі.*

Раней рабочыя ... сямнаццаць гадзін у суткі. Выбары ў сельсавет ... пасьпяхоўна. Я ... у гуртку па сельскай гаспадарцы. У нас ... школа калгаснае моладзі. Сапраўднае равенства ... толькі ў зьнішчэньні клясаў.

## ЗАДАЧА 22-я.

*Сьпішэце сказы і ўстаўце ў іх патрэбныя дзейнікі.*

Цяжкі ... павольна каціўся па рэйках. Каля хаты сабраліся ... і горача спрачаліся. Толькі што закончыўся ... саветаў. У капіталістычнай грамадзе жанчына ... у цяжкіх умовах На нашым прадпрыемстве энэргічна ... з прагуламі рабочых.

## ЗАДАЧА 23-я

*Сьпісаць тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку і падкрэсьліваючы дзейнік простаю рыскаю, а выказьнік падвойнаю.* (Узор у першым сказе).

1. Час *мінуў* сялянскія хаты слова „Ленін" *зрабілі* сьвятым (Чарот) Надыходзіць час заход струхнелы ляжа пад капытом чырвонага каня па ўсёй зямлі ўзор з бліскучай пражы ткаць будзе раніца надыходзячага дня (Чарот).

2. Было сонца затуманена дымам на людзей гарматы глядзелі сьмерцю дзікаю а мільёны нявольных нястрымана ішлі паміраць паходам вялікім (Чарот).

3. Над зямлёю драмала паўноч за куп'ямі ціха гаманіла рэчка дарогі зусім спалі ў мокрых палёх а пры дарозе дыбалі людзі зусім зьліліся іх аблезлыя кажушкі з зямлёю (К. Чорны).

4. Варожы фронт быў пахіснут ініцыятыва была ўжо выхаплена паваротны момант быў прыкмецен ужо неаднаму празарлівамv воку прыбавілася сіла наступленьне суліла перамогу (Фурманаў).

5. Савецкі саюз з аграрнае краіны ператвараецца ў краіну індустрыяльную шалёным тэмпам разьвівае СССР сваю цяжкую прамысловасьць гэтым самым парываюцца ніці эканамічнае залежнасьці нашае ад капіталізму (С. Б.).

6. Работа камуністых на капіталістычных прадпрыемствах пастаўлена цяпер у выключна цяжкія ўмовы буржуазія ня спыняецца ні перад якімі перасьледваньнямі рэвалюцыйных рабочых соцыял-фашыстыя зьяўляюцца актыўнымі памоцнікамі буржуазіі ў іх шалёных рэпрэсіях супроць камуністых аб гэтым лішні раз напамінаюць апошнія выбары фабзаўкомаў у Германіі („Правда", Молатаў).

## ЗАДАЧА 24-я.

*Сьпісаць тэкст, выказьнік падкрэсьліць; дзе можна ўставіць слова „ёсьць", паставіць працяжнік.*

1. Камсамольцы люд вясёлы.
Смутак вораг злосны наш.
Праца радасьць камсамольца,
Бязупынны левы марш.
І стазвонна, неўгамонна
Йдзем з задорам маладым.
Серп і молат наша школа
Ў барацьбе за КІМ.

2. Я бядняк. Ці траплю стаць на ногі?
У калякты ўвядуць мае дарогі.
Я сіла там!
Зьбяруцца нас мільёны ў калякты вы,
Рабочых і сялян.
А наш саюз паток бурлівы;
Ён неперам ожны стан.
Будаўнікі савецкае краіны,
Ратаі, кавалі,
Мы створым новы сьвет і новыя пуціны
Праложым на зямлі. *(Колас).*

3. Агонь і кроў вось наша кара
Няхай дрыжыць і гіне кат!
Наш час ня сон, наш час ня мара:
Ня будзе пан і сонцу рад. *(Маркоўка).*

4. Я араты вольнай нівы,
Я рабочы фабрык, шахт.
Мы свабадны, мы шчасьлівы,
Нам цяпер сам чорт ня брат. *(М. Чарот).*

5. Чырвоная армія баявы атрад працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Камуністычная партыя авангард рабочае клясы. Савецкі Саюз краіна соцыялістычнага будаўніцтва. Масква чырвоная сталіца Саюзнае пролетарскае дзяржавы. Колектывізацыя сельскай гаспадаркі гіганцкі крок па шляху да соцыялізму.

**Пытаньні да §§ 8 і 9.**

1. Як будуюцца сказ з пэўных слоў?
2. Якія члены ў сказе называюцца асноўнымі і чаму?
3. На якія пытаньні ў сказе адказвае дзейнік? выказьнік?
4. Якое слова ў выказьніку можа адсутнічаць і што замест яго ставіцца пры пісьме?
5. Якія словы, акрамя дзейніка і выказьніка, могуць быць у сказе
6. Якія бываюць сказы ў залежнасьці ад слоўнага іх складу? (Глядзі § 9, Заўвага, п. 6 і 7).

**§ 10. Як будуюцца разьвітыя сказы.**

Возьмем сказ: *Ідзе змаганьне.*

Гэты сказ кароткі, бо ён складаецца з дзейніка „змаганьне“ і выказьніка „ідзе“. Як было адзначана ў § 9 (гл. Заўвага, п. п. 6, 7), часта кароткага, нават аднаслоўнага сказу досыць, каб выказаць думку. *(Сьвітае. Захаладнела. Бусел—птушка. Чалавек сьпіць).* Але-ж часьцей мы такімі кароткімі сказамі не здавальняемся, бо яны часта не даюць нам усёй паўнаты прадстаўленьня аб тым, аб чым мы хочам сказаць.

Так і ў даным выпадку. Нам мала ведаць, што *„ідзе змаганьне“*. Нам вельмі патрэбна даведацца, па-першае, дзе ідзе змаганьне і, па-другое, якое ідзе змаганьне. Гэта значыць, нам патрэбна ўдасканаліць і дзейнік (*змаганьне*) і выказьнік *(ідзе)*, як кажуць, разьвіць іх шляхам дабаўленьня слоў, з якіх каб адно адказвала на пытаньне *„дзе“* (ідзе), а другое на пытаньне *„якое“* (змаганьне).

Дабавім да выказьніка словы *„у Саюзе“* (дзе?), а да дзейніка слова *„клясавае“* (якое?). Атрымаецца сказ:

*У Саюзе* (дзе?) *ідзе клясавае* (якое?) *змаганьне.*

Сказ пашыраны, разьвіты. Але і гэтым разьвітым сказам мы можам не здаволіцца. У нас могуць узьнікнуць такія новыя пытаньні: 1) *у якім* Саюзе ідзе змаганьне? і 2) *за што* ідзе змаганьне?

На першае пытаньне мы можам адказаць словам *„савецкім“*, прылучыўшы яго ў сказе да слова „Саюзе“, а на другое — словам *„за перабудову“*, прылучыўшы гэтае слова да дзейніка „змаганьне“. Атрымаецца сказ такога зьместу:

*У саве.цкім Саюзе ідзе клясавае змаганьне за перабудову.*

Сказ яшчэ больш пашыраны, яшчэ больш разьвіты, але-ж відавочна не закончаны. Нам тут абавязкова патрэбна дадаць, за *перабудову чаго ідзе змаганьне?* Гэта—раз, а па-другое—мы можам зацікавіцца і тым, *калі ідзе змаганьне?* І вось, каб задаволіць і гэтыя нашы пытаньні, мы павінны будзем яшчэ пашырыць наш сказ новымі даданымі словамі, а іменна: на першае запытаньне да слоў *„за перабудову“* дадаць словы *„сельскае гаспадаркі„*, а на другое—да слова *„ідзе“* дадаць слова *„зараз“*. І мы атрымаем такі сказ:

*У савецкім Саюзе зараз ідзе клясавае змаганьне*
*за перабудову сельскае гаспадаркі.*

Сказ досыць такі разьвіты, хоць ён можа быць пашыраны і значна больш.

Якім-жа парадкам з кароткага сказу—„Ідзе змаганьне“—атрымаўся такі разьвіты сказ?

А такім, што мы да асноўных часьцін сказу—да дзейніка і выказьніка—дадавалі ўсё новыя словы, увязваючы іх па пэўных пытаньнях *(лёгічна)* то з дзейнікам, то з выказьнікам, то з іншымі даданымі словамі, прыстасоўваючы адпаведным чынам і канчаткі зноў уведзеных слоў, *(увязка граматычная).*

Процэс пабудовы разьвітога сказу і ўзаемную сувязь слоў у ім можна прадставіць такою схэмаю:




**Заўважце:**

1) У аснове разьвітога сказу ляжаць яго асноўныя члены —дзейнік і выказьнік, лёгічна (па пытаньнях) і граматычна (канчаткамі) між сабою ўзвязаныя.

2) Усе дадания словы групуюцца вакол аснаўных членаў, утвараючы два словазлучэньні: адно з дзейнікам, а другое з выказьнікам (глядзі правую і левую частку схэмы).

3) Злучаньне слоў у сказе па-парнае. Але-ж кожнае слова можа ўключацца аднячасова ў злучэньне не з адным а з некалькімі словамі:

1 Ідзе змаганьне.
2 Ідзе зараз.
3 Ідзе ў Саюзе.

1 Змаганьне клясавае.
2 змаганьне за перабудову і г. д.

4) Злучэньне адбываецца ня толькі дадания слоў з дзейнікам і выказьнікам непасрэдна, а і дадания слоў з дададанымі:

1. У Саюзе савецкім.
2. За перабудову гаспадаркі.
3. Гаспадаркі сельскае.

5) Злучэньне адбываецца ў строгай лёгічнай пасьлядоўнасьці, па пэўных пытаньнях, якія вымагаюцца словамі, што патрабуюць разьвіцьця даданым да яго словам:

1. Ідзе (што?) змаганьне.
2. Ідзе (дзе?) у Саюзе.
3. У Саюзе (якім?) савецкім.
4. Змаганьне (якое?) клясавае.
5. Змаганьне (за што?) за перабудову.

6) Злучэньне адбываецца толькі паміж называльнымі словамі, бо толькі яны могуць мець патрэбную дзеля злучэньня форму *(г. з. канчаткі)* прычым злучэньне адбываецца ці непасрэдна, ці цераз устаўку паміж злучальнымі словамі дапаможных слоў, праз якія была размова ў § 7, (гл. „заўвага“ п. п. 4, 5, 6, 7).

Ідзе змаганьне *(злучэньне непасрэднае).*

Ідзе ў Саюзе *(злучэньне пасрэднае).*

Змаганьне за перабудову *(пасрэднае).*

Сельскае гаспадаркі *(непасрэднае).*

## ЗАДАЧА 25-я

*Сьпішэце артыкул. Асноўныя члены сказаў падкрэсьліць: дзейнік простаю рыскаю, а выказьнік пакручастаю; пасьля кожнага даданага слова паставіць у дужках пытаньне, на якое гэта слова адказвае ў сказе.*

### КОНАРМІЯ Ў ПОЛЬШЧЫ.

Мы *біліся* пад польскім (чым?) мястэчкам (дзе?). Сьцяна акрыяўшае (якое?) польскае (чые?) кавалерыі (чаго?) *зьяўлялася* ўсюды (дзе?). Нас (каго?) *ціснулі.* Фронт трымала пяхота. Уздоўж крыва накапаных ямак сланяліся бялясыя валынскія сяляне. Пяхоту гэтую ўзялі ўчора ад сахі. Неабходна было ўтварыць пры Конарміі пяхотную рэзэрву. Сяляне пайшлі ахвотна. Яны біліся з найвялікшаю стараннасьцю. Іх мужычая лютасьць зьдзіўляла нават будзёнаўцаў. Нянавісьць іх да польскага памешчыка была пабудавана з нябачнага, але дабротнага матар‘ялу.

Кулі густа ляцелі ў наш бок. Штаб брыгады папаў у паласу кулямётняга абстрэлу. Мы кінуліся ў лес і сталі прабірацца скрозь кустарнік. Нарэшце, мы выбраліся з кустоў. Казакоў ужо ня было на ранейшым месцы. Толькі сяляне агрызаліся з сваіх акопаў рэдкімі ружэйнымі стрэламі. (К. Я.).

## ЗАДАЧА 26-я.

*Складзеце схэму залежнасьці слоў у наступных разьвітых сказах.* (Глядзі ўзор на стар. 14).

Інтарэсы сялянскае беднаты многім супадаюць з інтарэсамі пролетарыяту. 2. Пасьля Кастрычніцкае рэвалюцыі эканамічныя ўмовы сялянскае гаспадаркі істотна зьмяніліся. 3. З ходам часу кваліфікацыя коопэрацыйных працаўнікоў у шырокай сетцы провінцыяльных устаноў паступова павышаецца. 4. Атручваньне ўдушнымі газамі на тэатры ваенных чыннасьцяй выклікала сьмерць многіх харобрых воінаў. 5. Аматарскі спэктакль у дачным пасёлку быў адменены перад самым пачаткам з-за глуму электрычных правадоў.

## ЗАДАЧА 27-я.

*Разьвіць простыя сказы, прыбаўляючы да дзейніка і выказьніка даданыя словы па пытаньнях, пастаўленых у дужкак. Даданыя словы можна ставіць перад і пасьля асноўных членаў, гледзячы на тое, як выйдзе складней.*

1. Няпісьменнасьць (якая? каго?) ліквідавана (як? кім?)
2. Патрэбна (каму? як?) кіраўніцтва (каго? ў чым?).
3. Злачынства (чыё? якое?) выкрыта (кім? як? калі?)
4. Дэманстрацыя (чыя? дзе?) адменена (калі? кім? з-за чаго?).
5. Доктор (па чым? якіх?) аб'явіць (у чым? аб чым? як?).
6. Будуецца (дзе? кім? як?) школа (якая? для каго?)
7. Сход (каго? які? дзе?) адсрочан (кім? чаму? да якога часу?).
8. Вядзецца (кім? калі?) змаганьне (якое? з кім? за што?).
9. Падпіска (на што? каго?) перавысіла (чые? што? якія?)
10. Артыкул (чый? аб чым?) спадабаўся (як? каму? чым?).

### § 11. Падзел даданых слоў.

Усе даданыя словы ўвязваюцца з іншымі словамі сказу, як мы ўжо бачылі, па пэўных пытаньнях, з аднаго боку, і з пэўнымі канчаткамі—з другога. Па характару гэтых сувязяй усе даданыя словы падзяляюцца на тры групы. Кожная група мае ў граматыцы сваю асабістую назву.

**Заўважце:**

Першая група даданых слоў адказвае на адно з такіх пытаньняў: *які*, якая, якое? *чый*, чыя, чыё? *каторы*, каторая, каторае?

1. Перад намі расьсьцілаўся шырокі (*які?*) луг.
2. Наша *(чыя?)* савецкая *(якая)* краіна непераможна.
3. Ідзе чатырнаццатая *(каторая?)* гадавіна кастрычніцкая (*якое?*) рэвалюцыі.

Такія даданыя словы, якія адказваюць на пытаньні: які? чыі? каторы? называюцца **азначальным** словамі, ці проста **азначэньнямі**.

## ЗАДАЧА 28-я.

*Сьпішэце артыкул, азначэньні падкрэсьліце і пастаўце пасьля кожнага з іх пытаньне.* (Узор у першым сказе).

На балоце ліпеньская *(якая?)* сьлякота. У маленькіх зялёных пялёнках спавіта маладое аўсянае зярнятка. Жыватворчыя прамені

сонца купаюць яго. Яно з кожным днём расьце, паўнее, сьпее. Залацістымі робяцца аўсяныя прасторы.

На дварэ жнівень. З вострава вышла жняярка. Яна ўрэзалася сваімі вострымі зубамі ў залацісты аўсяны лес. Узмахнула машына сваім крылом і выкінула першы сноп. Гэта быў вялікі, ростам з чалавека, сноп з купчастымі каласамі і з поўным буйным зернем.

Ня верылася, бо гэта нова, нязвычайна. *(Сташэўскі).*

**Заўважце:**

Другая група даданых слоў адказвае ў сказе на пытаньні:

**Каго-што?**—*Люблю* чалавека, кнігу, навукі.

**Каго-чаго?**—*Няма* чалавека, кнігі, навук.

**Каму-чаму?**—*Рад* чалавеку, кнізе, навукам.

**Кім-чым**—*Ганаруся* чалавекам, кнігаю, навукамі.

(Пры) **Кім-чым?**—*Жыву* пры чалавеку, пры кнізе, пры навуках.

УВАГА: Пытальныя словы—**каго? каму? кім?** пры **кім?**—дадаюцца да слоў, што абазначаюць назву жывых прадметаў, а пытаньні—**што? чаго? чаму?** пры **чым?**—да слоў, што зьяўляюцца назваю няжывых прадметаў.

Гэтыя даданыя словы называюцца **дапаўняльнымі** словамі, ці проста **дапаўненьнем**.

## ЗАДАЧА 29-я

*Сьпісаць артыкул, дапаўненьні падкрэсьліць, паставіўшы пасьля кожнага з іх у дужках адпаведнае пытаньне.* (Узор у першым сказе.

Я дакладваю Леніну *(каму?)* аб стане *(аб чым?)* на фронце *(на чым? дзе?)*. У Керанскага сіл нямнога. Казацкая дывізія генэрала Краснова. Пяхоты ня бачна. Па чутках, ударнікі пасоўваюцца цераз станцыю Дно. З паўднёва-заходняга фронту Керанскім зьнята дывізія пяхоты, але затрымана на дарозе. На паўночным фронце латышы і сібіракі разагналі згодніцкія камітэты. З Фынляндыі к нам прыбыў зводны атрад казакоў—тысячы паўтары. Адборны нарад. Выбаржцы дакляруюць атрад з артылерыяй. Ім пашчасьлівілася затрымаць на месцы Кубанскую казацкую дывізію. Наш правы фланг зусім трывалы. Цэнтр замацаваны. Керанскі пагражае Царскаму Сялу, Паўлаўску, Пулкаву. Пагроза сур'ёзная, бо ў нас слаба з артылерыяй. У казакоў артылерыя найлепшая. Арудуе таксама з імі магутны броняцягнік.

(В. Антонаў-Аўсеенка).

Заўважце 3:

Трэцяя група даданых слоў адказвае на адно з такіх пытаньняў: *як? колькі? дзе? куды? адкуль? якім способам?*

Глуха (*як?*) лес гамоніць. Многа (*колькі?*) цяжкасьцяй на шляху да сацыялізму. Ён жыве далёка (*дзе?*). Я заўтра (*калі?*) буду вельмі (*як?*) цябе чакаць.

Усе яны, як відаць з прыкладаў, абазначаюць якую-небудзь акалічнасьць (якасную, часоўную, месную, способу дзеяньня і г. д.) чаму і называюцца **акалічнасьцямі.**

## ЗАДАЧА 30-я.

*Сьпісаць урывак, акалічнасьці падкрэсьліць, паставіўшы пасьля кожнага з іх адпаведнае пытаньне.* (Узор у прыкладах).

Мы на шырокай канаве. Абапал зялёнакудрыя аўсы. Ціха, ураўчыста ідзе вада. Спакойна стаяць аўсы. Цішыня. Балотная цішыня. Яна зусім адрозьніваецца ад лясное цішыні. Ад цішыні лясных нетраў часам павявае нейкім непакоем, нават трывогаю, а тут нейкая лагодная цішыня. А сонца пячэ неміласэрна. Праходзім дзесяткі кілёмэтраў. Крыху аднастайна. Нейкая стэпавая роўнядзь, роўнядзь ня так ужо вялікая. Воддаль перад вачыма лес. Зялёнае аўсянае поле прыемна песьціць вока. *(В. Сташэўскі).*

## ЗАДАЧА 31-я.

*Сьпісаць артыкул і адзначыць усе члены сказу так: дзейнік падкрэсьліць простаю рысаю, выказьнік падвойнаю, даданыя словы назваць у дужках іх імямі.* (Узор у першым сказе).

Ортографія патрабуе многа *(акал.)* практыкаваньня *(дап.)* у пісьме *(дап.).* Вазьму сябе, напрыклад: ня браў асадкі толькі паўгода і зусім разучыўся граматна пісаць. Вельмі часта ў мяне зноў сталі зьяўляцца памылкі. Прыдзецца паняволі пачынаць спачатку. Замест складаных прыкладаў буду браць настолькі простыя, што знайдуся і сам у іх разабрацца. Пакуль жа прыдзецца аднавіць правілы, якія я раней знаў напамяць. Ведаючы іх, можна ўжо сябе лягчэй кантраляваць. Веданьне правіл, па-мойму, шмат палягчае засваеньне правапісу. Пры частых практыкаваньнях яны ўсвойваюцца назаўсёды. Спачатку правапіс даецца цяжка, потым здаецца зусім даступным і, нарэшце, робіцца прывычным. З няпісьменнасьцю цяпер усюды змагаюцца. Таму патрэбна старацца апанаваць граматным пісьмом у час школьнага навучаньня. Потым на грамадзкай працы кожны ўпэўніцца ў значымасьці гэтага навыку.

### § 12. Парадак слоў у сказе.

Аб тым, што парадак слоў у сказе мае выключнае значэньне, мы ўжо гаварылі ў § 8 гэтага-ж заданьня. Цяпер прыпынімся на тым, якога-ж парадку патрэбна трымацца, будуючы сказ?

У спакойнай апавядальнай мове словы ў адносінах адно да другога звычайна распалагаюцца ў сказе так:

1. Азначэньне звычайна стаіць непасрэдна перад тым словам, ад якога яно залежыць, г. з. з якім яно і лёгічна і граматычна зьвязана: *Чырвоная* (якая?) армія. *Жалезны* (які?) закон рэвалюцыі. У *камуністычнай* грамадзе няма ўласнасьці.

2. **Дапаўненьне,** наадварот, стаіць пасьля таго слова, з якім злучаецца ў сказе: Мы ўпарта праводзім (што?) *індустрыялізацыю* (чаго?) *краіны.*

3. **Акалічнасьці** становяцца па-магчымасьці бліжэй да таго слова, з якім злучаны: Прыгожае дрэва *пышна* (як?) расьце ў садзе.

4. **Дзейнік** папярэджвае выказьнік: Дом *будуецца.* Лес трывожна *шуміць,* Група беднаты *зьяўляецца* апораю савецкае ўлады на вёсцы.

5. **Азначэньне** стаіць поруч з азначальным словам (з словам, да якога яно належыць), дапаўненьне з дапаўняльным словам, а дзейнік, па-магчымасьці, блізка да выказьніка.

Вось такое разьмеркаваньне слоў у сказе спакойна апавядальным і ёсьць разьмеркаваньне звычайнае.

Алеж дзеля прыданьня мове асобнай выразьлівасьці мы часта прыбягаем да сваеасаблівага, нязвычайнага разьмеркаваньня слоў у сказе. Сьвядома ставячы тое ці іншае слова на нязвычным дзеля яго месцы, сьвядома парушаючы прывычны парадак слоў у сказе, мы мяняем інтонацыю ўсяго сказу і інтонацыю паасобных слов у сказе. Перамена-ж інтонацыі прымушае нас з большай увагай прыпыніцца на нязвычайным сказе; словы, што стаяць на нязвычным месцы, выдзяляюцца і набываюць цераз гэта большую сілу, асабліва, калі яны стаяць з пачатку ці ў канцы сказу. Так, па правілах звычайнага разьмеркаваньня слоў у сказе, мы маглі-б сказаць:

*Я прывык праводзіць думай кожны дзень, кожную гадзіну.*

Тут усё ў парадку, усё згодна нормы. Тут стаіць спачатку дзейнік, а потым выказьнік і стаяць яны поруч адзін з адным; тут дапаўненьні *(думай, дзень, гадзіну)* стаяць пасьля тых слоў, з якімі лёгічна і граматычна зьвязаны, а азначэньні *(кожны, кожную)* як-раз наадварот—стаяць перад азначальным словам і непасрэдна пры ім.

Але-ж можам мы парушыць гэты звычайны парадак слоў і сказаць так: *Дзень кожны, кожную гадзіну прывык я думай правадзіць* (Пушкін).

Якую-ж пeратурбацыю мы ўнесьлі ў сказ?

1. Усе дапаўненьні *(дзень, гадзіну, думай)* паставілі перад дапаўняльнымі словамі „*прывык праводзіць*“.

2. Азначэньне „кожны“ паставілі пасьля азначальнага слова „*дзень*“.

3, Учынілі разрыў падвойнага выказьніка, паставіўшы паміж словамі „*прывык*“ і „*праводзіць*“ словы „*я думаю*“.



А якія-ж ад гэтага рэзультаты? А тыя, што не на прывычным месцы пастаўленыя словы пры вымаўленьні выдзеліліся найвыпуклей, бо на іх іменна прыпаў лёгічны націск, і ўвесь сказ набыў іншую інтонацыю і нязвычайна яркую выразнасьць. Прачытайце яшчэ раз абодвы варыянты сказу, і вы лёгка самі гэта заўважыце.

**Парушэньне звычайнага парадку слоў у сказе называюцца інвэрсыяй.**

Трэба аднак, мець на ўвазе, што інвэрсыя ня ёсьць абыякавы набор слоў у сказе. Пры інвэрсіі, як і заўсёды, словы ў сказе павінны мець сваё пэўнае месца, бо інакш не пабудуеш сказу, не прыдасі яму належны сэнс (гл. § 8). Інвэрсыйныя прыёмы пабудову сказу у вагуле зводзяцца да наступнага:

а) **Азначэньне ставіцца пасьля азначальнага слова:**

Засмуцілася, зажурылася даль *шырокая, неаглядная.* Думкай *чорнаю, невясёлаю* зьвіс туман *сівы* над балотамі. А ў палёх даўно жыта зьвезена; коска, серп *крывы* працу скончылі (Колас).

б) **Дапаўненьне перад дапаўняльным словам:**

*Над зямлёю драмала* поўнач. *За куп'ямі* ціха гаманіла рэчка. А *па дарозе* дыбала *людзей* двое (Чорны).

в) **Выказьнік перад дзейнікам:**

*Заклубяцца* хмары ў горах, *папаўзуць* яны над стэпам, *пальлюць* дажджы, *нап'ецца* прагная зямля, затым *пачне працаваць* шалёнае сонца. і *засыпаецца* краіна нязвычайным ураджаем.

г) **Адрыў азначэньня ад азначальнага слова:**

*Жахлівая* была *пара.* Зараз напружныя дні: *творчыя* сьвецяць *агні.* Рабочыя адважныя на фабрыку ідуць — хутчэй пазбыць *сярмяжную* нам *спадчыну,* бяду (Александровіч).

д) **Разрыў між дапаўненьнем і дапаўняльным словам:**

Ціхім *голасам,* баючыся разбудзіць сваю боль, што дрэмле глыбока ў гартані, *пачаў* ен *гаварыць.* Ціхаю *гутаркаю* возера *шэпча* ў бары (Александровіч).

е) **Разрыў паміж дзейнікам і выказьнікам.**

Знаёмым шумам *шорах* іх верхавін мяне *вітаў*. *Падалі* за платамі ў садох сьпелыя *яблыкі* (Чорны). *Душанькі* сьветлыя усьмешкаю ветлаю вейна *віюцца, ткуць* радасьці узор (Александровіч).

ж) **Адрыў акалічнасьці ад свайго слова:**

*Спачатку* ўсе к яму *езьдзілі.* *Вясною* сястра мая кветкі *сеяла.* *Цяпер* перад вокнамі на круглых градках *цьвітуць* увосень настурцыі і белыя астры (Чорны).

## ЗАДАЧА 32--я.

*Перапісаць урывак і вызначыць выпадкі інвэрсыі па ўзору першага радка.* (Пісьмова абазначыць толькі ў 5 радкох).

### ЧЫРВОНЫ ШТАНДАР

*Кроў нашу п'юць даўно ўжо каты*

1. Выказьнік перад дзейнікам *(п'юць каты).*
2. Азначэньне пасьля азначальн. слова *(кроў нашу)*
3. Дапаўненьне перад дапаўняльн. сл *(кроў п'юць).*
4. Разрыў між дзейнікам і выказьнік *(п'юць* даўно ўжо *каты).*

Льле горкі сьлёзы кожны з нас.
Надыдзе хутка час заплаты:
Паны! Судзіць мы будзем вас.
Браты! Хай кожны пасьпяшае
Грудзямі новы шлях прабіць.
Хто рэчку быструю стрымае?
Скуль сілы гэтакай здабыць?
Нас злосьць тыранаў ня пужае,
Мацнее нашай працы ніць.
Старое зло навек сканае,
Дабро заўсёды будзе жыць.

Ганебны ўціск, тупы, халодны,
Загінуць мусіць наўсягды!
Мы працай дружнай і свабоднай
Сатром няволі злой сьляды.

Гэй, далей рвіся ўвысь, волі гімн!
Над сьветам кліч чырвоны ўецца.
Ён нясе барацьбы новы ўздым;
Шлях наш пажары асьвяцяць.
Са сьцягу кроў агнём ліецца,..
То наша кроў у тым агні,
То кроў работнікаў над ім!

(З комсамольск. сьпеўніку).

### § 13. Віды простых сказаў.

1. Усе разгледжаныя намі сказы называюцца сказамі *протымі* ў адзнаку ад сказаў складаных, аб якіх гутарка будзе ў далейшых заданьнях.

2. Сярод простых сказаў мы ўжо адзначалі сказы *кароткія,* калі яны складаюцца толькі з дзейніка і выказьніка, і сказы *разьвітыя* калі ў іх ёсьць яшчэ і даданыя члены (гл. § 9, заўвага, п. п. 6, 7).

3. Сярод кароткіх і разьвітых сказаў трэба адрозьніваць сказы **поўныя** і сказы **няпоўныя.**

**Поўнымі** сказамі называюцца такія, у якіх відавочан дзейнік і выказьнік:

*Час мінуў. Сялянскія хаты слова Леніна зрабілі сьвятым* (Чарот).

**Няпоўнымі** сказамі называюцца такія, у якіх няма навочна аднаго з асноўных членаў, а то і двух разам, але калі іх можна лёгка падабраць і ўставіць у сказ.

Бэнзыну гаручага пах *(няпоўн.* чаму?*)*. Машына запела (*поўны,* чаму?). Завярцеўся віхрам *пропэлер* (*поўны,*чаму?). Панёсься! Панёсься! Панёсься! (*Тры няпоўныя сказы*—чаму?).

Тут першы і апошні сказы няпоўныя. У першым няма выказьніка, але яго можна падставіць „*пачуўся*"; у апошнім няма дзейніка—„*аэроплян*", які таксама можна ўставіць у сказ.

**Заўважце яшчэ,** што сярод няпоўных сказаў часта пападаюцца такія, якія выражаны адным толькі словам: ці дзейнікам *(Ноч. Адліга. Цішыня...),* ці выказьнікам *(Стой! Глядзі! Што бачыш?),* ці нават адным даданым словам *(Адкуль?* а*З дому).* Кожны з гэтых нязвычайна кароткіх сказаў зьяўляецца ск зам пастольку, паколькі да яго можна прыдаць той ці іншы асноўны член: ці дзейнік, ці выказьнік, ці той і другі разам.

Ноч... Адліга... Цішыня... — Ноч настала. Адчулася адліга. Агарнула цішыня. Адкуль? —Адкуль ты ідзеш? З дому. — Я іду з дому.

4. Вызначаюць яшчэ сказы **асабовыя** і **безасабовыя.**

**Асабовыя** сказы такія, у якіх можна вызначыць асобу, гэта значыць той прадмет ці зьяву, аб якой гаворыцца ў сказе. Адгэтуль асабовымі скязамі будуць ня толькі ўсе поўныя сказы, але і няпоўныя, бо і ў іх заўсёды можна знайсьці **асобу—дзейнік.**

**Безасабовыя-ж** сказы такія, якія ня маюць дзейніка—асобы; яго нават разумець нельга.

На вогнішчы *стала пячы* (хто-што пячы?—невядома). Няўжо-ж гэтак і *будзе?* (хто- што будзе?—невядома). *Жыць стала* пагана (хто-што жыць стала?—невядома). Трэба *ўцячы...* (хто-што ўцячы?—невядома) (Чарот).

Усе тут сказы безасабовыя, бо пры няўнасьці выказьнікаў у іх няма і быць ня можа дзейніка.

**Безасабовыя** сказы, як і сказы няпоўныя, могуць быць нязвычайна кароткімі і складацца толькі з аднаго выказьніка *(Днее. Марозіць. Хочацца спаць).* Яны, разумеецца, могуць быць і разьвітымі *(Ветрам сарвала дах. Мне ў душу павеяла бадзёрым жыцьцём).*

У разьвітым *безасабовым* сказе ўсе даданыя словы будуць групавацца вакол выказьніка, і ўвесь сказ будзе мець ня два словазлучэньні, а адно—выказьнікавае. У схэме безасабовы сказ будзе мець такі выгляд:

„На марскім беразе адчуваецца надзвычайна лёгка".

**Адчуваецца** *(выказьнік)*

*на чым? дзе?* | *як?*

на беразе — лёгка

*якім?* | *як лёгка?*

марскім — надзвычайна

Дзейніка ў безасабовым сказе няма, чаму няма і дзеинікавага слова—злучэньня.

## ЗАДАЧА 33-я.

*Адказаць на пытаньні і да кожнага адказу даць прыклады.*

1. Якія сказы называюцца кароткімі, а якія разьвітымі?
2. Якія сказы поўныя, а якія сказы няпоўныя?
3. Ці можа быць няпоўны сказ разьвітым сказам?
4. Як найкарацей можна пабудаваць няпоўны сказ?
5. Якія сказы называюцца асабовымі і якія безасабовымі?
6. Ці можа быць асабовым сказам сказ няпоўны?
7. Ці можа быць безасабовым сказам сказ разьвіты?
8. Як каротак можа быць безасабовы сказ?

## ЗАДАЧА 34-я.

*Сьпісаць сказы, падкрэсьліваньнем адзначаючы ў няпоўных сказах наяўныя аснаўныя члены па ўзору першых двух сказаў.*

1. *Адцураемся* старага сьвету. Аб адным цябе *малю*: не глядзі з журбой бясьсільнай на ўсходнюю зару. — Спадабалася табе кніга? —Вельмі. —Возьмеш яшчэ? — З ахвотаю. Вось ідзе ён к сіняму! мору. На моры чорная бура. Сходка. Спрачаюцца з запалам. Гучней сьпявайце песьні! Усьцілайце чырвоны шлях кветкамі вясны Сёньня першага мая! (Ч.) Не здавайце пазыцый! Выканаем абяцаньні! Далей рухаймася наперад! Уздымем савгасы і калгасы! Узорнаю работаю ў калгасах пакажам перавагу соцыялістычнае гаспадаркі.

2. Каля калодзіжу—хата. За хатаю—поле. Мы ў школе, а бацька на сходцы. Наша сіла—ў яднаньні. Бальшавіком пралятарскае сталіцы—наша прывітаньне! Перадавыя рабочыя — на чале соцыялістычнага земляробства.

УВАГА. У няпоўных, разьвітых сказах (гл. задачу 34, прыклады 2) на месцы магчымага выказьніка часта пішацца працяжнік, як і пры сустаўным выказьніку, у якім адсутнічае слова „ёсьць“ (гл. § 9, заўвага, п. 4 і задачу 24-ю).

## ЗАДАЧА 36-я.

*Сьпішэце, падкрэсьліваючы безасабовыя сказы* (Узор—першы сказ)

*На нашым двары цёмна.* Наш двор цёмен. Нафта заліла чыгуначную лінію. Нафтаю заліло чыгуначную лінію. Сонца спаліла хлеб. Сонцам спаліла хлеб. Яго аглушыў гром. Яго аглушыла громам. Хвалямі панесла судно ў адкрытае мора. Хвалі панясьлі судно ў адкрытае мора. Сьнег засыпаў усю вуліцу. Сьнегам засыпала ўсю вуліцу.

## ЗАДАЧА 36-я.

*Замянеце наступныя асабовыя сказы безасабовымі па ўзору першага сказу.*

Машына адарвала ў рабочага руку. *(Машынаю адарвала ў рабочага рукў).* Мне пясок засыпае вочы. Пажаўцеўшае асеньняе лісьце

занесла ўсе дарожкі. Ніжнія паверхі залівае вада. Вецер сарваў сьцяг. Дождж змыў з тратувараў гразь. Мне брат падарыў кнігу (*Шапіра).*

УВАГА. Зьмяніць асабовыя сказы безасабовымі магчыма толькі тады, калі дзеяньне выконваецца прадметам няжывым. Вось чаму апошні сказ нельга замяніць безасабовым, бо нельга сказаць: *Мне братам падарыла кнігу.*

## ЗАДАЧА 37-я.

*Выкажэце ніжэйпаданыя думкі ў форме асабовых сказаў;* дзейнік і выказьнік падкрэсьліць (гл. узор у канцы).

Нам жывецца добра. Бераг падмыла вадою. Маланкаю спаліла дрэва. Старшынёю заўкому абвешчана аб падпісцы на пазыку індустрыялізацыі. Вырашана рацыяналізаваць нашу вытворчасьць.

Узор: *Мы жывем* добра.

### § 24. Зьлітыя сказы.

1. Сярод сказаў, як кароткіх, так і разьвітых, як поўных, так і няпоўных, як асабовых, так і безасабовых спатыкаюцца сказы з *паўторнымі аднароднымі членамі.*

Аднароднымі членамі называюцца: некалькі дзейнікаў пры адным выказьніку, некалькі выказьнікаў пры адным дзейніку, а таксама некалькі аднародных даданых членаў, што залежаць ад аднаго і таго-ж слова ў сказе.

**Прыклады:**

а) *Склады, элеватары, станцыі* і *вагоны* былі завалены збожжам (чатыры дзейнікі пры адным выказьніку — „былі завалены“.

б) Бура *плача, стогне* і *галосіць.* (тры выказьнікі пры адным дзейніку—„бура“.

в) Усім *целам,* усім *сэрцам,* усім *разуменьнем* слухайце рэволюцыю (тры дапаўненьні, залежныя ад аднаго слова—„слухалі“.

г) Толькі ў СССР забясьпечана *палітычнае, эканамічнае, культурнае* разьвіцьцё ўсіх працоўных (тры азначэньні, залежныя ад слова—„разьвіцьцё“.

д) Восень *халодная, чорная, хмурная* сунецца *ціха, нячутна, штодня* (тры азначэньні, залежныя ад „восень“ і тры акалічнасьці, залежныя ад слова „сунецца“.

2. Зьлітыя сказы лёгка вызначыць па іх інтонацыі—па *інтонацыі пералічэньня* паўторных аднародных членаў з кароткімі, выразнымі паўзамі паміж імі і з выразным павышэньнем голасу перад кожнаю паўзаю.

Магазыны˘, / склады˘, / майстэрні˘, / школы˘
пераходзілі ў рукі саветаў.

3. Пры аднародных паўторных членах зьлітага сказу могуць быць свае даданыя члены, г. зн. што кожны паўторны член можа складаць асобнае словазлучэньне; напрыклад:

*Стукае* молат паўднёвымі ўдарамі,
*суліць растацца* з мукай, з цяжарамі,
*будзіць* палёў пачуцьця (Гурло).

Тут адзін зьліты сказ з трыма выказьнікамі — *стукае, суліць растацца, будзіць.* Пры кожным з іх ёсьць даданыя члены, а пры выказьніку „*суліць растацца*“ нават два паўторных члены. Такім чынам, даны зьліты сказ складаецца з трох паўторных словазлучэньняў:

Стукае паўднёвымі ўдарамі *(адно),*
суліць растацца з мукамі, з цяжарамі *(другое),*
будзіць палёў пачуцьця *(трэцяе).*

4. Аднародныя члены сказу і іх словазлучэньні могуць зьвязвацца адзін з другім злучальнымі словамі—*злучнікамі: і, ды, а, але, да, ці, або* і інш. Злучнікі могуць азначаць:

а) Простае *злучэньне*: і, ды (у *значэньні* і).

Бліснулі долы і ўзгоркі. Яны працуюць ды жартуюць.

б) *Супроцьстаўленьне;* а, але, да (у *значеньні* але).

Месяц сьвеціць, а ня грэе. Ён здольны, але гультаяваты.
Мал залатнік, да дораг.

в) *Адмаўленьне пры пералічэньні*: ні-ні.

Ні ўцяць, ні ўзяць. Ні мукі пылінкі, ні солі драбінкі,
ні пітва расінкі.

г) *Разьмеркавальнае пералічэньне:* ці-ці, або-або, то-то.

Мы едзем на экскурсію ці ў Маскву, ці ў Ленінград,
ці на Данбас. Будзем сеяць або авёс, або грэчку.
Сонца то выйдзе з-за хмар, то зноў схаваецца.

Касцы ідуць то грамадою, то шнурам цягнуць, чарадою,
то паасобку, то па пары; ідуць касцы, ідуць як хмары.
*(Колас).*

5. Злучнікі могуць стаяць ці пры кожным паўторным аднародным члене (*Ні* зброі, *ні* грошай, *ні* старых ўстаноў ня было ў новае ўлады), ці толькі паміж двух членаў, часьцей апошніх (Віднеліся лугі, лясы і горы), а можа іх і зусім ня быць у зьлітым сказе (Усім целам, усім сэрцам, усім разуменьнем слухай рэволюцыю).

### § 15. Пунктуацыя ў зьлітых сказах.

**Заўважце 1.**

1. Пры пісьме паміж аднароднымі паўторнымі членамі і іх словазлучэньнямі, дзеля вызначэньня невялікіх паўз і павышэньня ў голасе, абавязкова ставіцца коска:

Шум, гоман, гаворкі наганялі дрымотную песьню, баюкалі, хілілі к трывожнаму сну (Каваль).

Жыцьцё абняла навокала раніца,
Будзіць прачнуцца, будзіць ахаяцца,
З *песьняю к працы заве. (Гурло).*

2. Коска ня ставіцца ў тым выпадку, калі паміж двума аднароднымі членамі стаіць злучнік *і, ці, ды, або*—усе ў значэньні *і*:

Мароз крапчаў ды шчыпаў вушы, твар і рукі.
Млыны бываюць ветраныя, вадзяныя або паравыя.
Жывёлу кормяць сенам, трушанкою ці нават саломаю.

3. Азначэньні ня лічацца аднароднымі, калі яны характарызуюць прадмет з рознага пункту гледжаньня:

У вокны льле *яркі сонечны* сьвет.

Паміж такімі азначэньнямі ня чуецца інтонацыі пералічэньня, паміж імі нельга паставіць злучніка і. Паміж такімі азначэньнямі коска таксама ня ставіцца:

Гарэў *вялізарны драўляны двухпавярховы* будынак.

## ЗАДАЧА 38-я

*Сьпісаць сказы, аднородныя паўторныя члены падкрэсьліць, у канцы напісаць іх граматычную назву.* (Глядзі ўзор пры першых трох сказах).

Бліснулі *ўзгоркі, даліны, нівы* (дзейнік). А ўсход ўсё *гарыць, разгараецца* (выказьнік). *Урачыта* і *ціха* пачыналася раніца (акалічнасьць). Паўсталі чырвоныя заводы, аколіцы, кварталы, казармы флёт, гнеўнабунтоўныя каманды і палкі. Вясною ўсё цьвіце, пяе і радуецца. Цягнік імчыцца міма лясоў, палёў, вёсак. Увесь луг пакрыўся, чырвонымі, сінімі, блакітнымі, белымі і жоўтымі кветкамі. Патрэбна навучыцца чытаць бегла, лёгка, свабодна, без натугі і запінак. Нядарма згіблі сотні жыцьцяў на пласе, у турмах і на сьнягох. Скрозь холад, змрок, туман і хмары мы ліхтар чырвоны панясём.

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў
І грушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.
Калышацца жыта,
Радамі бяжыць
Плыве беспрастанку
І ціха шуміць... (*Колас.*)

## ЗАДАЧА 39-я.

*Сьпісаць прыклады, расставіць знакі прыпынку, аднародныя члены падкрэсьліць.*

УГАГА: Перш чым сьпісваць, неабходна прачытаць увесь урывак, уясьніць яго агульны сэнс, і мысьлена зазначыць усе знакі прыпынку, якія ня вызначаны.

1. У два рады між палёў роўна рэйкі ляглі рэжуць нэтры лясоў точаць грудзі зямлі. Дзе стралою ляцяць а дзе дужкай бягуць цераз

горы і гладзь сьмела рэчкі цякуць. Мчыцца ноччу і ў дзень, толькі поле дрыжыць. Так ні конь ні алень ні арол не ляціць. (Колас).

2) Усё старое вымятаецца і выкідаецца, як сьмецце, расчышчаецца дарога новаму нябываламу сьветламу паўстае новае сьвежае магутнае жыцьцё яно ўсміхаецца ядранай прыгожай руньню прыдзе час, і закрасуецца яно краскамі многацьветнымі абаўе зямельку дзіўным казачным хараством тады ўжо ня будзе адскёпкаў пажоўклых лістоў старога гнілога забураннага навальніцаю дрэва пацямнеюць пагніюць спарахнеюць зьнікнуць яны пад павевам сьвежых вятроў (Зарэцкі).

3. Жылі ў дні дзяцінства ў хатах мы сырых ня мелі гульняў цацак ня ведалі пра іх (З песьні).

4. Жыў ён думкамі і надзеямі сьмела ў бой ісьці з ліхадзеямі з ноччу цёмнаю беспрасьветнаю з доляй горкаю няпрыветнаю (Колас).

5. Люблю яе за погляд смутны за моц у руках яе мазольных за ўздым грудзей яе магутных за рух у працы яе здольны (Гурло),

6. Хто тварэц жыцьця людзкога волі шчасьця пекнаты хто кладзе к жыцьцю дарогу ведай, моладзь, гэта ты. (Чарот).

7. Галоўнае ў наступе соцыялізму *пры нашых сучасных умовах* складаецца з узмацненьня тэмпаў разьвіцьця нашае прамысловасьці з узмацненьня разьвіцьця саўгасаў і калгасаў з узмацненьня тэмпаў эканамічнага выцясьненьня капіталістычных элементаў гораду і вёскі з мабілізацыі мас супроць капіталізму. (Сталін).

**Заўважце 2.**

1. Аднародныя члены сказаў, што вымаўляюцца з інтонацыяй пералічэньня, *разьдзяляюцца коскамі* і ў тым выпадку, калі ўсе яны злучаны паўторнымі злучнікамі: і, ці-ці, або-або. У такіх разох коска пачынае ставіцца толькі перад другім паўторным злучнікам.

а) Люблю зіму, каня і сані,
і лес, і поле, і сады *(Глебка).*

б) А мы ішлі,
А мы ішлі
З нечалавечаю адвагай,—
*Ці стаць ахвяраю зямлі,*
*ці зьдзейсьніць з гонарам прыяў (Кляшторны).*

в) Пайдзем мы з чырвоным сьцягам
па ўсім сьвеце з краю ў край,—
*аба мёртвымі паляжам,*
*або ўсюды зробім рай.*

2. Аднародныя члены сказу аддзяляюцца коскамі і ў тым выпадку, калі „і“ стаіць не перад кожным аднарадным членам, а ўсё-ж спатыкаецца ня менш двух раз.

Вакол дамоў рашоткі вінаграду, сяленьні, гарады
і мора шум, і говар вадаспаду, і неабсяжныя сады.

3. Коска можа ня ставіцца, калі аднародных членаў, зьвязаных злучнікамі „і“, толькі два:

Сымон быў вясёлы, гаварлівы і дома і ўлюдзях.

## ЗАДАЧА 40-я

*Сьпісаць, раставіць знакі прыпынку, аднародныя члены падкрэсьліць:*

1. Я бачу сады і сяленьні прыгожых свабодных людзей; ім чужды і злоба і помста і звоны крывавых мячэй. Мы бачым і ў Кітаі і ў Пэрсыі і ў Індыі і ў іншых краінах прабуджэньне нацыянальнага жыцьця дзясяткаў і соцень мільёнаў людзей. Некалі ні піць ні есьці ні нават духу перавесьці. Ён увесь у сукне і ў скуры і ў жалезе. І далёка і нібы блізка дрыжджэла каламажка няроўным стукам. Ці-ж я ня быў і вялік і волен і шчасьліў? У яго шырока адкрытых вачох сьвяцілася недаверлівасьць ка мне і жаласьлівасьць к людзям. Сьмерць Уладзіміра Ільліча Леніна была вялікай утратай і для рабочых і для сялян. У яры мысьліліся і разбойнікі і ваўкі і розныя іншыя злыя істоты.

2. Макар успомніў раптам усё сваё жыцьцё да апошніх дробязей успомніў кожны свой крок і кожны ўдар тапара і кожнае сьсечанае дрэва і кожны абман і кожную чарку выпітае гарэлкі і яму стала сорамна і страшна ён стаў пералічваць свае работы хоць ён помніў кожны ўзмах тапара і кожную сьсечаную жэрдку і кожную баразну але ён прыбаўляў цэлыя тысячы жэрдак і сотні вазоў дроў і сотні дзеравяк і сотні пудоў пасеву. (*Караленка*).

**Заўважце 3.**

1. Аднародныя члены сказу разьдзяляюцца коскамі, калі яны зьвязаны злучнікавымі словамі—*а, але, да* (у значэньні „але).

2. Калі-ж „да“ можна замяніць злучнікам „і“, дык перад ім *коска ня ставіцца.*

Я жыў ня год, ня два, *а* сотні год.

Ён прыпыніўся, павярнуўся, нагнуў галаву, *але* нічога ня ўбачыў.

Усе рабочыя ўважліва слухалі прамоўцу, *да* не маглі зразумець яго запутанае прамовы.

На дварэ стаялі мужчыны, кабеты *да* той-сёй з дзетвары.

У апошнім сказе перад „да“ не стаіць коска, бо „да“ тут ужыта ў значэньні „і“.

## ЗАДАЧА 41-я.

*Сьпісаць, паставіць коскі, аднародныя члены ў сказе падкрэсьліць.*

Царства трэба будаваць на зямлі а не на небе. Вяліка Хвядора да дура. Зямля ўжо прыкметна засохла але ўсё яшчэ таіла сьляды аднаўленьня і хутка пакрывалася далікатнаю зеленьню. Ён увесь дзень жартаваў сьмяяўся але зараз быў задумёны. Ехаць было ня зусім зручна да весела. Ты толькі жарэш ды адзежу дзярэш. Вялік целам да мал дзелам. Над лесам бліснула яркая борздая маланка ды

накрыж перасекла хмару. Круглы месяц запаліў ліхтарык ды ціха сьвяціў над чорнаю зямлёю. Коопэрацыя павінна ня толькі разьмяркоўваць але і ўсур'ёз заняцца наладжваньнем вытворчасьці і пераапрацоўкі шэрагу сельска-гаспадарчых прадуктаў.

Мы ўмеем чэсна ваяваць
Мы ўмеем плакаць і сьмяяцца
а ня ўмеем слабых катаваць
і законам моцных закрывацца.
(*Кляшторны*).

**Заўважце 4.**

Часта спатыкаюцца зьлітыя сказы, у якіх аднародныя паўторныя члены абаагульняюцца адным якім-небудзь словам: *ўсё, вось, гэта, наступнае і т. п.*

1. Раптам *усё* ажыла: і лес, і травы, і дальнія вёскі.

2. І лес, і трава, і дальнія вёскі — *усё* ахінулася туманам.

І вось, калі пералічэньне стаіць *пасьля абагульняючага* слова (гл. прыклад І), дык перад пералічэньнем заўсёды ставіцца двукроп'е. Калі-ж пералічэньне стаіць *перад абагульняючым* словам, дык пасьля яго ставіцца працяжнік (гл. прыклад 2).

Без абагульняючага слова перад пералічэньнем звычайна ня прынята ставіць двукроп'е. але-ж у так званай дзелавой мове, у такіх выпадках двукроп'е часта ставіцца.

**Прыклад:**

1. Слухаючы прамову абвінавачанага, нібы акамянелі і *судзьдзі*, і *жандары*, і *публіка* (няма абагуленьня, няма і двукроп'я).

2. На суд зьявіліся абвінавачаныя: *Марэўскі, Калесьнікаў, Балазін, Іваненка* і *я*. (абагуленьня няма, а двукроп'е ёсьць).

3. Тав. Дзяржынскі, я згодзен Дагаварэцеся канчаткова з Якавам Міхайлавічам. Неабходна: 1) прарабіць усю апэрацыю ў карацейшы тэрмін, 2) аб дэталях умовіцца з ваенным кіраўніцтвам, 3) правесьці гэта заўтра на Палітбюро. З камуністычным прывітаньнем. Ленін.

Пасьля слова „неабходна" перад пералічэньнем двукроп'е ёсьць, а абагульняючага слова няма.

## ЗАДАЧА 42-я

*Сьпісаць, расставіць знакі прыпынку, абагульняючае слова падкрэсьліць. Узор у першым сказе.*

1. Ніхто ня дасьць самохаць волі: ні бог, ні цар і не герой. Усё зьнікла з вачэй і коні і фурман і дарога. Будынкі платы вароты ўсё

навальвалася адно на другое. У лесе растуць вось якія грыбы баравікі падасінавікі бярозавікі сыраежкі таўстушкі рыжыкі грузьдзікі і шмат іншых. Пры пабудове дома працавалі каменшчыкі цесьляры тынкоўшчыкі маляры бляхары сталяры шкляры пячнікі. Шуміць лес і днём і ноччу і зімою і летам.

2. Рускія і ўкраінцы башкіры і беларусы узьбекі і туркмены грузіны і азербайджанцы армяне і дагестанцы татары і кіргізы ўсе яны аднолькава зацікаўлены ў умацаваньні дыктатуры пролетарыяту. Рабочыя на заводах вырабляюць для сельскай гаспадаркі такія рэчы плугі бораны лапаты малацілкі трактары веялкі цьвікі тапары. Тры жаночыя постаці стаялі каля станкоў бабулька дзяўчына гадоў васемнаццаці і дзяўчынка гадоў трынаццаці. Я на ўсе рукі майстар і сьлесар і шкляр і агароднік і маляр.

3. Беларуская акадэмія навук навукова-дасьледчы інстытут Камвуз унівэрсытэт сельска-гаспадарчая акадэмія БТНУ будаўніцтва хэміка-тэхнолёгічнага, ляснога заатэхнічнага інстытутаў і многіх дзесяткаў тэхнікумаў вось паказальнікі нашага культурнага росту. На месцы саматужных і паўсаматужных прадпрыемстваў у нас вырасьлі і перакантруяваны такія індустрыяльныя гіганты Асінбуд Бабруйскі камбінат шоўкавая фабрыка ў Магілеве Сельмашбуд у Гомелі заводы „Энергія“ „Камунар“ і „Бальшавік„ у Менску (Сав. Бел.).

4. Вясковыя партарганізацыі ўступілі ў паласу надзвычайна адказнае і аграмаднае работы забясьпечыць сваячасовую уборку ураджаю правесьці хлебазагатоўкі падняць новую хвалю колектывізацыі сельскае гаспадаркі рэалізаваць „Пяцігодка у чатыры гады“ і правільна правесьці сельгаспадатак такі пералік толькі важнейшых кампаній, што стаяць перад вясковымі арганізацыямі на бліжэйшы пэрыяд. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ўнутры гаспадарчая работа правільныя ўзаемаадносіны з аднаасобнікамі такая неабходная ўмова для ўзмацненьня калгасаў і далейшага разгортваньня колектывізацыі („Правда“).

Пад‘ем прадукцыйнасьці працы патрабуе перш за ўсё забесьпячэньня матэрыяльнае асновы буйное індустрыялізацыі разьвіцьця вытворчасьці апалу жалеза машынабудаўніцтва хэмічнае прамысловасьці (Ленін).

---

## РАЗЬДЗЕЛ II.

### (РАЗЬВІЦЬЦЁ МОЎНЫХ НАВЫКАЎ).

### § 16. Што трэба рабіць, каб разумець чытанае?

У разьдзеле другім заданьня першага ўжо гаварылася, што для разуменьня чытанага патрэбна ў першую чаргу набыць правільную тэхніку чытаньня, якая складаецца: з належнага тэмпу, з правільнага вымаўленьня слоў і дасканалага іх разуменьня, з поўнага аўладаньня інтонацыяй, нарэшце, з навыку правільна знаходзіць і вымаўляць лёгічны націск.

Але-ж гэта толькі першы крок у працы над словам, такі крок, без якога прыступіць да сур‘ёзнага чытаньня нельга. Далейшы крок —гэта работа над самым тэкстам у сэнсе непасрэднага і дасканалага

яго разуменьня. Тут да дасканалае тэхнікі чытаньня трэба дадаць нешта іншае, што здольна выкрыць перад чытачом усю глыбіню думак і *пачуцьцяў, якія часта тояцца ў чорных радкох друкаванага слова*. Вось пра гэтае „нешта“ мы і маем тут пагаварыць.

---

Мова складаецца з слоў. Словы, уступаючы ва ўзаемную лёгічную сувязь, утвараюць сказ, які строга адпавядае аднэй закончанай думцы. Далей, з шэрагу строга ўвязаных паміж сабою сказаў складаюцца так званыя асноўныя палажэньні, ці асноўныя думкі, на якіх грунтуецца твор. Сума-ж вось гэтых асноўных палажэньняў дае нам тое, што называецца зьместам твору. Нарэшце, увесь зьмест, усе асноўныя палажэньні аб'яднаюцца аднэю асноўнаю думкаю, якая носіць назву асноўнае ідэі твору.

Зразумець дасканала ўсю глыбіню чытанага—гэта значыць выкрыць усе элемэнты, з якіх складаецца твор, і даць ім належнае і правільнае тлумачэньне.

З чаго-ж тут пачаць?

Зразумела, з самага простага і самага неабходнага:

1. **З агульнае тэхнікі чытаньня,** аб якой была ў нас размова.

2. **З поўнага разуменьня паасобных слоў,** аб чым таксама ўжо гаварылася.

3. **Далей трэба асмысьліць паасобныя сказы.**

Здавалася-б, раз разумееш усе словы, з якіх утвараецца сказ, дык ня цяжка зразумець і самы сказ. Гэта справядліва, калі мець на ўвазе звычайныя сказы, у якіх усе члены разьмеркаваны звычайна (гл. § 12). Але-ж простымі хоць-бы і разьвітымі сказамі рэдка пішуцца творы, асабліва навукова-публіцыстычныя. Часьцей мы спатыкаем складаныя і вельмі складаныя сказы, доўгія, грамадзкія, досыць заблытаныя. У некаторых з іх часта цяжка адшукаць сэнсу, цяжка вызначыць якое слова да якога адносіцца, якая частка гэтага складанага сказу з якою зьвязваецца. І вось бяз уменьня дэтальна і правільна разабрацца ў пабудове такіх складаных сынтаксычных канструкцый, цяжка бывае ўразумець і тыя думкі, якія выражаюцца гэтымі канструкцыямі.

Тут няўхільна трэба ведаць законы пабудовы сказаў, як простых, так і складаных, аб чым гаворыцца ў сынтаксысе—трэцяй частцы граматыкі. Вось чаму на вучэньне аб сказах, якое мае месца ў разьдзеле першым нашага курсу, патрэбна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу. Вывучаючы рознага роду дзейнікі і выказьнікі з дадзенымі іх членамі, вывучаючы віды сказаў і іх злучэньні, трэба мець на ўвазе, што ўсё гэта карысна ведаць ня толькі дзеля расстаноўкі знакаў прыпынку пры пісьме, а і дзеля таго, каб належным чынам разьбірацца ў складаных сынтаксычных пабудовах любога пісанага тэксту, каб дасканала яго разумець (гл. § 4 „Інтонацыя і знакі прыпынку“).

Разам з гэтым ня лішне будзе яшчэ раз напомніць пра чытаньне знакаў прыпынку, ці пра інтонацыю і пра лёгічныя націскі ў ска-

зах. I тое і другое, поруч з ведамі законаў аб пабудове сказаў, дае нам ключ да належнага разуменьня любых сказаў, любых сынтаксычных канструкцый.

**4. Трэба выкрыць і ўясьніць асноўныя палажэньні, на якіх угрунтаваны твор.**

Прыпусьцім, што ўсе словы ў сказах і ўсе сказы ў творы сталі зразумелымі. Але-ж гэта яшчэ далёка ня значыць, што мы разумеем і ўвесь твор.

Справа ў тым, што ня толькі словы, а і сказы, як мы ўжо адзначылі, увязваюцца паміж сабою, ўтвараюць адно лёгічнае цэлае, аб'яднанае адным асноўным палажэньнем, аднэю асноўнаю думкаю, вакол якое і групуецца часта цэлы комплекс сказаў. Зразумела, ня ўсе думкі і сказы, што выкрышталізоўваюць адно аснаўное палажэньне, зьяўляюцца роўназначнымі. Адны з іх будуць больш каштоўнымі, больш грунтоўнымі, другія-ж могуць быць ужыты толькі як лішні довад, ці як ілюстрацыя, ці прыклад, ці што падобнае.

I вось, чытаючы тэкст, трэба строга сачыць за тым, каб другарадных сказаў, другарадных думак ня прызнаць за галоўныя, а галоўных—за доўгарадныя, што вельмі часта здараецца з неспрактыкаванымі чытачамі.

Дзеля таго-ж, каб ухіліцца ад падобных памылак, патрэбна пры чытаньні сконцэнтроўваць увагу ня толькі на паасобных словах і сказах, а часта і на цэлых комплексах сказаў, аб'яднаных агульнасьцю асноўнае думкі—адным асноўным палажэньнем. Часьцей увесь гэты комплекс сказаў складае тое, што называецца ў кнізе абзацам.

Абзаць—тэкст ад аднаго чырвонага радка да другога. Чырвоны радок такі, што пачынаецца ў тэксьце некалькі правей ад левага краю, чым іншыя радкі.

I вось, прачытаўшы абзац, мы павінны прыпыніцца і задаць сабе пытаньне: Аб чым жа гаворыцца ў прачытаным абзацы? Якая яго асноўная думка? Што ў ім складае аснову, грунт? Пры цяжкасьці адказаў на гэтыя пытаньні абавязкова вярнуцца да пачатку абзаца, уважлівейшым чынам яшчэ раз прачытаць увесь абзац, разьбіраючыся і ў ім і ў яго паасобных сказах да таго моманту, пакуль зусім слушныя адказы ня будуць цьвёрда ўстаноўлены. Гэтымі адказамі і выявіцца асноўнае ядро абзаца—асноўнае яго палажэньне.

Тут жа патрэбна вызначыць і ўсё тое, без чаго можна было-б абыйсьціся, не парушаючы сэнсу асноўнага палажэньня, інакш гаворачы, патрэбна вызначыць тыя думкі, тыя сказы, якія толькі дапаўняюць, пашыраюць і паглыбляюць асноўнае палажэньне, ці асноўную думку. Гэтымі даданымі думкамі могуць быць *ілюстрацыі* і *справачны матар'ял, прадпасылкі, довады* і г. д. Адкінуць пабочнае, часта дробнае, вылучыць істотнае, каштоўнае,—гэта і значыць правільна ўлавіць думкі, а адгэтуль і правільна ўразумець чытанае.

Да рэчы будзе тут вызначыць і падкрэсьліць, што вылучэньне асноўных палажэньняў тэксту, іх асмысьленьне ёсьць самая адказная работа над слоўным матэрыялам. Не асіліўшы гэтае работы, не набыўшы навыку беспамылкова вылучаць асноўныя палажэньні ў тэксьце, нельга ісьці далей па шляху аўладаньня ўсімі іншымі формамі

прапрацоўкі кніжнага матэрыялу, аб якіх будзе размова ў далейшым. Вось чаму на гэтым відзе працы нам прыдзецца больш усяго прыпыніцца ў сваёй рабоце над кнігаю.

5. **Трэба зразумець твор у цэлым.**

Разабраўшыся ў незразумелых словах і ў сказах, вылучыўшы і сформуляваўшы шэраг асноўных палажэньняў, трэба пераходзіць і да наступнае работы—да абхвату твору ў цэлым.

Гэтая работа ў значнай меры палягчаецца папярэдняю—вылучэньнем і афармленьнем шэрагу асноўных палажэньняў—і цалкам на ёй грунтуецца. Тут застаецца толькі ўмела злучыць ўсе паасобныя палажэньні, лёгічна іх увязаць і даць адно агульнае сьціслае ўкладаньне аб усім прачытаным.

Але-ж сьцісла перадаць уласнымі словамі сутнасьць больш-менш значнага твору—задача таксама ня лёгкая, і вырашаецца яна таксама толькі доўгаю і ўпартаю працаю над усім тым, што прыходзіцца чытаць і вывучаць. Гэтая праца будзе займаць віднае месца ў далейшых заданьнях. Цяпер-жа на ёй мы прыпыняемся пастолькі, паколькі патрэбна адказаць на пытаньне: „Што трэба рабіць, каб разумець чытанае?“.

6. **Трэба выкрыць асноўную думку, усяго твору, асноўную яго ідэю.**

Часта, асабліва ў навукова-публіцыстычных творах, асноўная ідэя выкрываецца загалоўкам твору. Так, загалоўкі — „Стыль у рабоце“, „Мастацтва, як пазнаньне жыцьця“, „Гісторыя Кастрычнікавага перавароту“ і г. д.—самі па сабе гавораць, на што будуць накіраваны развражаньні даных твораў, інакш кажучы, якая іх асноўная ідэя. Але-ж часта гэтая асноўная думка— ідэя выкрываецца толькі агульным зьместам твору. І зразумела, калі чытач разьбярэцца ў аснаўных палажэньнях твору, калі ён абхваціць твор ува ўсім яго абсягу, дык для яго асноўная ідэя твору сама сабою выплыве, выявіцца. Яму толькі застанецца ўсебакова асазнаць яе, сформуляваць і выказаць. Апошняе-ж, як і ўсё папярэдняе, патрабуе доўгае ўпартае працы і належных навыкаў.

Вось і ўсё, што патрэбна, каб разумець чытанае. Як падыходзіць да ўсяго гэтага практычна, будзе паказана ў наступным §.

## § 17. Практычная праца над тэкстам.

### 1. Чытаньне тэксту.

СТЫЛЬ У РАБОЦЕ.*). *І. Сталін.*

Справа ідзе не аб літаратурным стылі. Я маю на ўвазе стыль у рабоце, тое асобнае і сваеасаблівае ў практыцы ленінізму, якое стварае асобны тып ленінца-працаўніка. Ленінізм ёсьць тэорэтычная і практычная школа, якая выхоўвае асобны тып партыйнага і дзяржаўнага працаўніка, якая вытварае асобны ленінскі стыль у рабоце. З чаго складаюцца характэрныя рысы гэтага стылю? Якія яго асаблівасьці? Гэтых асаблівасьцяй дзьве: а) рускі рэвалюцыйны размах і б) амэрыканская дзелавітасьць. Стыль ленінізму складаецца з аб'яднаньня гэтых дзьвёх асаблівасьцяй у партыйнай і дзяржаўнай рабоце.

*) Артыкул і некаторыя віды распрацоўкі яго ўзяты з „Развитие речи“ Устинова.

Рускі рэвалюцыйны размах зьяўляецца проціатрутаю супроць закаранеласьці, рутыны, консэрватызму, застою думкі, нявольнцкі адносін да дзядоўскіх традыцый. Рускі рэвалюцыйны размах гэта тая жыватворчая сіла, якая будзіць думку, рухае наперад, ломіць мінулае, дае пэрспэктыву. Без яго немагчым ніякі рух наперад. Але ён мае ўжо шансы выраджэцца на практыцы ў пустую „рэвалюцыйную“ манілаўшчыну, калі не аб'яднаць яго з амэрыканскаю спраўнасьцю ў працы. Прыкладаў таго выраджэньня—хоць адбаўляй. Каму не вядома хвароба „рэвалюцыйнага“ аўтарства і рэвалюцыйнае плянатворчасьці, якая мае сваёю крыніцаю веру ў сілу дэкрэту, які можа ўсё наладзіць і ўсе перарабіць. Адзін з рускіх пісьменьнікаў І. Эрэнбург у апавяданьні „Удкамчал“ (удасканалены камуністычны чалавек) вывеў тып ахопленага гэтай хваробаю „бальшавіка“, які задаўся мэтаю накідаць схэму ідэяльна-ўдасканаленага челавека і... „утоп“ у гэтай „рабоце“. У апавяданьні ёсьць вялікае пераўвялічэньне, але што яно правільна выкрывае хваробу—гэта бязумоўна.

Але ніхто, здаецца, ня кпіў над такімі хворымі так зло і бязьлітасьна, як Ленін. „Камуністычнае чванства“ — так трэтыраваў ён гэтую хваравітую веру ў гэтае аўтарства і дэкрэта - творчасьць. „Камуністычная пыха — значыць тое,—гаворыць Ленін,—што чалавек, знаходзячыся ў камуністычнай партыі і ня будучы яшчэ адтуль вычышчаным, ваабражае, што ўсе задачы свае ён можа вырашыць камуністычным дэкрэтаваньнем (гл. „Прамова на зьезьдзе палітпрасьветаў“). „Рэвалюцыйнаму“ пустазвонству Ленін звычайна супроцьставіў простыя штодзённыя справы, падкрэсьліваючы гэтым, што „рэвалюцыйная“ творчасьць праціўна і духу і букве сапраўднага ленінізму. „Паменш пышных фраз,—гаварыў Ленін, — пабольш простае штодзённае справы... Паменш палітычнае траскатні, пабольш увагі да самых простых, але жывых фактаў камуністычнага будаўніцтва“... (гл. „Вялікі пачын“).

Амэрыканская дзелавітасьць зьяўляецца, наадварот, проціатруцьцем супроць „рэвалюцыйнай“ манілаўшчыны і фантастычнай творчасьці. Амэрыканская дзелавітасьць — гэта няўстрымная сіла, якая ня ведае і ня прызнае перашкод, якая размывае сваёю настойліваю ўпартасьцю ўсё і ўсялякія перашкоды, якая ня можа не давесьці да канца раз пачатае справы, калі гэта нават невялікая справа, і без якое нямысьліма сур'ёзная будаўнічая праца. Але амэрыканская дзелавітасьць мае ўсе шансы выраджэцца ў вузкае і бяспрынцыпнае дзяляцтва, калі яе не аб'яднаць з рускім рэвалюцыйным размахам. Каму невядомы твар вузкага практыцызму і бяспрынцыпнага дзяляцтва, што прыводзіць часта некаторых „бальшавікоў“ да перараджэньня і да адходу іх ад справы рэвалюцыі. Гэтая сваясаблівая хвароба атрымала сваё адлюстраваньне у апавяданьні Б. Пільняка „Голы год“, дзе намаляваны тыпы рускіх бальшавікоў, поўных волі і практычнае рашучасьці, „фукцыруючых“ вельмі „энэгрычна“, але пазбаўленых пэрспэктывы, якія ня ведаюць „што да чаго“ і якія зьбіваюцца, у сілу гэтага, з шляху рэвалюцыйнае працы. Ніхто так едка ня выкпіваў над гэтай дзяляцкай хваробаю, як Ленін. „Вузкалобы практыцызм“, „бесталковае дзяляцтва“—так трэтыраваў гэтую хваробу Ленін. Ён супрацьставіў ёй звычайную жывую рэвалюцыйную справу і няўхільнасьць рэвалюцыйных пэрспэктыў ува ўсіх справах нашае штодзённае працы, падкрэсьліваючы тым самым, што бяспрынцып-

нае дзяляцтва настолькі прыкра сапраўднаму ленінізму, наколькі прыкра „рэвалюцыйнае“ аўтарства.

Аб'яднаньне рускага рэвалюцыйнага размаху з амэрыканскаю дзелавітасьцю—у гэтым істота ленінізму ў партыйнай і дзяржаўнай рабоце. Толькі такое аб'яднаньне дае нам закончаны тып працаўніка-ленінца, стыль ленінізму ў працы.

### 2. Разуменьне слоў і паасобных тэрмінаў.

У артыкуле ёсьць шэраг незразумелых слоў. Выпісаць гэтыя словы ў слоўнік-сшытак і знайсьці іх значэньне. У групу незразумелых слоў аднясем наступныя (зараз выпісваюцца такія словы толькі з двух абзацаў).

1. **Стыль**—уласьцівая чалавеку манера пісаць, выкладаць свае думкі як вусна, так і пісьмова. **Літаратурны стыль** — злучнасьць прыёмаў, якімі карыстаецца аўтар пры пабудове свайго твору. У артыкуле слова „стыль“ ужыта ў больш шырокім сэнсе.

2. **Ленінізм** — баявое вучэньне аб клясавай барацьбе пролетарыяту ў эпоху імпэрыялізму і сусьветнай рэвалюцыі, створанае У. І. Леніным. У даным артыкуле гэтае слова ўжыта ў некалькі пашыраным значэньні.

3, **Тып** — вобраз, у якім адлюстроўваюцца агульныя рысы, уласьцівыя якой-небудзь групе асоб, клясе і г, д.

4. **Рутына** — нахіл чалавека сьледаваць раз устаноўленаму парадку, правілам; адсталасьць.

5. **Консэрватызм** — адмоўныя адносіны да ўсяго новага; аддanасьць старому.

6. **Традыцыі** — звычаі, заведзены парадак, што перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне.

7. **Пэрспэктывы** — віды будучага.

8. **Шансы** — ступень магчымага посьпеху.

9. **Манілаўшчына** — панскае дабрадушша, сытае гультайства, злучанае з бязвольлем і бязгрунтоўнымі марамі.

10. **Дэкрэт** — закон, указ вярхоўнае ўлады.

11. **Схэма** — агульны кароткі накід; аснова, плян, шкілет твору.

12. **Ідэальны** — найдасканалейшы, недасяжны ў сваёй дасканаласьці.

13, **Трэтыраваць** — абразьліва-няўважлівыя адносіны да каго ці чаго-небудзь.

## ЗАДАЧА 42-я.

*Выпісаць незразумелыя словы з астатняе часткі гэтага-ж артыкулу і даць ім тлумачэньне па ўзору папярэдняга.*

### 3. Разуменьне словазлучэньняў—сказаў.

Дзеля паказу, як разьбіраецца ў сказах, возьмем другі складаны сказ з 4-га абзацу.

Амэрыканская *дзелавітасьць* — гэта нястрымная *сіла,* якая *ня ведае* і *не прызнае* перашкод, якая *размывае* сваёю настойліваю ўпартасьцю *ўсё* і *ўсялякія* перашкоды, якая *ня можа* не дацягануць да канца *раз* пачатае справы, калі гэта нават *невялікая* справа, і без якое *нямысьліма* сур'ёзная *будаўнічая праца.*

а) Перад намі складаны сказ, які складаецца з аснаўнога„*—амэрыканская спраўднасьць—гэта неўгамонная сіла*“, а астатнія 5 сказаў залежныя, з іх 4, што пачынаюцца з слова „*якая*“, залежаць ад асноўнага і разьвіваюць слова „сіла“, а пяты „*калі гэта нават не вялікая справа*“, залежаць ад трэцяга залежнага і разьвівае слова „справа“.

У злучэньні данага складанага сказу можна дапусьціць памылку, палічыўшы ацошні сказ залежным ад 4-га ў разьвіцьці слова „справа“. І тады атрымаецца такая думка, што без невялікае справы нямысьліма сур'ёзная будаўнічая праца. Зразумела—абсурд.

б) Выдзеленыя падкрэсьліваньнем словы ў сказе такія, на якія прыпадае лёгічны націск.

Такі разгляд павінен спадарожнічаць чытаньню ўсякага сказу, які выклікае ці можа выклікаць тое ці іншае непаразуменьне.

УВАГА: Вывучэньне складаных сказаў будзе мець месцы, пачынаючы з 4-га заданьня.

### 4. Вылучэньне асноўных палажэньняў.

Асноўных палажэньняў, якія складаюць нібы шкілет твору, можа быць адно, можа быць два, тры і многа—усё залежыць ад аб'ёму і характару твору. Звычайна аўтар імкнецца сам вылучыць апорныя пункты—асноўныя палажэньні свае пісьмовае працы. Дзеля гэтага ён зьмяшчае адно асноўнае палажэньне ў асобны абзац—частку твору, якая пачынаецца, як мы ўжо сказалі, чырвоным радком. Такім чынам часта бывае, што ў творы столькі асноўных палажэньняў, колькі ў ім абзацаў*). У кожным-жа абзацы, апрача асноўнае яго думкі, могуць быць другарадныя палажэньні, якія часам затушоўваюць галоўнае і асноўнае ў ім. Уменьне разабрацца ў абзацы, уменьне вылучыць галоўнае і другараднае ў ім ёсьць тая асноўная праца, якая прыводзіць да дасканалага ўразуменьня ўсяго твору.

Тэхнічнае вылучэньне розных палажэньняў абзацу, раз яны ў ім ёсьць, бывае рознае. Можна, напрыклад, рабіць даслоўныя выпіскі ўсяго таго, што нас так ці інакш цікавіць. Гэта будзе называцца цытаваньнем—выпіска палажэньняў, цытат, Можна патрэбную нам думку выпісаць у выглядзе вольнага ўкладаньня, калі мы хочам перадаць толькі зьмест думкі. Можна, нарэшце, у самым артыкуле вызначаць розныя палажэньні, ужываючы для кожнага з іх пэўную ўмоўную адзнаку: адкрэсьліваньне, падкрэсьліваньне, крыжыкі і др. Усе гэтыя прыёмы—рэч, разумеецца, важная і патрэбная пры рабоце над

---

*) Так бывае часьцей. Але-ж часта каштоўныя дапаможныя палажэньні таксама зьмяшчаюцца ў самастойных абзацах. Тады, разумеецца, асноўнае палажэньне будзе ахватваць не адзін, а некалькі абзацаў.

тэкстам, але-ж ня ў ёй сэнс работы, а ў тым, каб не пераблытаць *палажэньняў*, каб ня прыняць дробязі за галоўнае, а галоўнае за дробязь.

Дзеля паказу таго, як практычна разбірацца ў урыўку—абзацы, які аб'яднаецца адным асноўным палажэньнем, разгледзім другі абзац нашага артыкулу. Умовімся, што асноўнае палажэньне мы будзем падкрэсьліваць тлустаю рысаю, довад—дзьвюма, ілюстрацыйны і справачны матар'ял—тонкаю лініяй, прадпасылкі—пунктырам і г. д.

**Абзац:**

Рускі рэвалюцыйны размах зьяўляецца проціатрутаю супроць закаранеласьці, рутыны, консэрватызму, застою мысьлі, нявольніцкіх адносін да дзядоўскіх традыцый. Рускі рэвалюцыйны размах—гэта тая жыватворчая сіла, якая будзіць мысьль, рухае наперад, ломіць мінулае, дае пэрспэктывы. Без яго немагчымы ніякі рух наперад. Але ён мае ўсе шансы вырадзіцца на практыцы ў пустую „рэвалюцыйную" маніла ўшчыну, калі не аб'яднаць яго з амэрыканскаю дзелавітасьцю ў працы. Узораў такога выраджэньня хоць адбаўляй. Каму невядома хвароба рэвалюцыйнага аўтарства і рэвалюцыйнае плянатворчасьці, якая мае сваёю крыніцаю веру ў сілу дэкрэту, які можа ўсё наладзіць і ўсё перарабіць. Адзін з рускіх пісьменьнікаў І. Эрэнбург у апавяданьні „Удкамчал" (удасканалены камуністычны чалавек) вывеў тып ахопленага гэтай хваробаю „бальшавіка", які задаўся мэтаю накідаць схэму ідэальна-удасканаленага чалавека і... „утоп" у гэтай „рабоце". У апавяданьні ёсьць вялікае пераўвялічэньне, але што яно правільна ўскрывае хваробу—гэта бязумоўна".

Такім чынам, даны абзац мае чатыры катэгорыі палажэньняў 1) палажэньне — аснаўное, 2) палажэньне — прадпасылка, 3) палажэньне — *довад* і 4) *ілюстрацыйны матар'ял*.

Першае з гэтых палажэньняў ёсьць грунт, аснова ўсяго абзацу; астатнія—другарадныя палажэньні, каштоўныя ў даным выпадку пастолькі, паколькі яны падмацоўваюць асноўнае палажэньне, ці, як кажуць, асноўны тэз.

## ЗАДАЧА 43.

Выпісаць у сшытак чацьверты абзац „Амэрыканская спраўнасьць..." і вылучыць у ім рознага роду палажэньні па ўзору папярэдняй работы.

### 5. Абагульненьне ўсяго прачытанага.

Абагуліць усё прачытанае—гэта значыць перадаць сьціслы зьмест усяго твору (гл. п. 5 агульнае часткі). Перадаць-жа зьмест можна ці сваімі ўласнымі словамі ці словамі самога аўтара — словамі твору. Першы спосаб найбольш цяжкі, асабліва, калі твор значны па свайму

аб'ёму і складанасьці. Пачынаць, такім чынам, рэкамендуецца з другога спосабу—з спосабу тэкстуальных выпісак палажэньняў, аб якіх толькі што гаварылася. У сваім агуле яны даюць яснае ўяўленьне аб тым, пра што гаворыць артыкул ці твор. Гэтыя выпіскі павінны зьявіцца простымі адказамі на пытаньні, якія мы можам паставіць да кожнага абзацу, маючы на ўвазе выкрыць асноўнае яго палажэньне.

Па артыкулу „Стыль у рабоце" праца можа быць выканана напрыклад, так:

| ПЫТАНЬНІ: | Сутнасьць прачытанага артыкулу ў выглядзе тэкстуальных выпісак: |
|---|---|
| 1. Аб якім стылі ідзе справа і якімі асаблівасьцямі вызначаецца ленінскі стыль у рабоце? *(Пытаньне да першага абзацу).* | 1. „Справа ідзе не аб літаратурн. стылі. Я маю на ўвазе стыль у рабоце". 2. Гэтых асаблівасьцяй дзьве: а) „рускі рэвалюцыйны размах і б) амэрыканская дзелавітасьць". |
| 2. Што значыць „рускі рэвалюцыйны размах" і ў чым ён можа выражацца? *(Пытаньне да другога абзацу).* | 1. ........ 2. ........ |
| 3. Што такое камуністычная пыха і што Ленін супроцьставіў рэвалюцыйнаму аўтарству? *(Пытаньне да трэцяга абзацу).* | 1. ........ 2. ........ |
| 4. Што такое амэрыканская дзелавітасьць і ў што яна можа выраздзіцца? *(Пытаньне да чацьвертага абзацу).* | 1. ........ 2. ........ |
| 5. Што дае нам аб'яднаньне рускага рэвалюцыйнага размаху і амэрыканская дзелавітасьць? *(Пытаньне да пятага абзацу).* | 1. ........ 2. ........ |

І вось, усе адказы на пастаўленыя пытаньні ў выглядзе паасобных цытат і дадуць нам агульны сьціслы зьмест усяго артыкулу т. Сталіна „Стыль у рабоце".

## ЗАДАЧА 44.

*Працягнуць работу па вылучэньні і выпісцы цытат да пастаўленых пытаньняў.*

### 6. Вывад асноўнае ідэі твору.

У разгледжаным артыкуле „Стыль у рабоце" ідэя твору, як мы адзначылі, бачна з загалоўка. Тав. Сталін сваім артыкулам меўся сказаць, сказаў і паказаў, які бывае стыль у рабоце і які павінен быць у рабоце ленінскі стыль.

Іншая справа з творам М. Чарота „Непатрэбны чалавек", які даецца ў гэтым заданьні для практыкаваньня ў выразьлівым чытаньні. Загаловак гаворыць нам толькі аб тым, што ў апавяданьні будзе фігураваць якісь „непатрэбны" чалавек. А дзеля чаго, дзеля якое мэты аўтар трактуе нам аб гэтым „непатрэбным" чалавеку і іншых асобах апавяданьня,—загаловак нам нічога ня кажа: ён зусім не вы-

крывае замыслу апавяданьня—яго ідэі. Значыць, выкрыць аснаўную ідэю данага твору павінен сам чытач. Гэта-ж магчыма толькі тады, калі чытач здолее зразумець твор як у яго паасобных частках, так і ва ўсім яго абхваце. Зразумела, посьпех справы тут залежыць ня толькі ад уважлівага чытаньня твору, ад шчырае працы над ім, а і ад агульнага разьвіцьця, ад ступені агульнае падрыхтаванасьці самога чытача.

## ЗАДАЧА 45-я.

*Прачытаць апавяданьне М. Чарота „Непатрэбны чалавек" і даць пісьмова адказы на такія пытаньні:*

1. Пра якія асобы гаворыцца ў адпавяданьні?
2. Кім гэтыя асобы былі да Кастрычніцкае рэвалюцыі?
3. Якія ў іх тады былі грамадзкія погляды і асабістыя ўзаемаадносіны?
4. Якую ролю адыграла ў іх асабістым жыцьці вайна і Кастрычніцкая рэвалюцыя?
5. Як адбылося іх апошняе спатканьне і чым яно закончылася?
6. Якая асноўная ідэя твору?

УВАГА: Пытаньні ў агуле адпавядаюць асноўным палажэньням твору. Значыць, адказы павінны даць сьціслы зьмест яго.

---

**Выслаць для рэцэнзіі наступныя працы:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Па | § 7— | задачы | 15 і 16 (поўныя адказы на пытаньні). |
| „ | § 8— | „ | 18, 19. |
| „ | § 9— | „ | 23—п. п, 3 і 4; задача 24—п. п. 3 і 5 (поўныя адказы на пытаньні). |
| „ | § 10 | „ | 26—схэмы двух сказаў па ўласнаму выбару. |
| „ | § 11 | „ | 31. |
| „ | § 13 | „ | 36, 37. |
| „ | § 15 | „ | 39—п. 2; з зад. 40—п. 2; з зад. 42,—п. 3. |
| „ | § 17 | „ | 43, 44, і 45. |

Увага да § 13. На стр. 23 выправіць парадак задач: замест першае 36-е паставіць 35.

---

# МАТЭМАТЫКА

*Курс вядзе Г. Н. САГАЛОВІЧ*

## ЗАДАНЬНЕ № 3.

**(Разьлічана на 18 гадзін самастойнай працы).**

### Лінія і кут. Фігуры: уласьцівасьць іх элемэнтаў і плошчы; акружына і яе даўжыня; круг і яго плошча.

Заданьне № 3 мае сваей мэтай навучыць вас вылічваць плошчы розных геомэтрычных фігур, Дзеля гэтага вам прыдзецца спачатку пазнаёміцца з шэрагам геомэтрычных паняцьцяў. Для апрацоўкі гэтага заданьня вам прыдзецца набыць сабе наступныя прылады: лінейку, вугольнік, цыркуль, транспартыр і разграфленую паперу. Неабходныя малюнкі зрабеце не ад рукі, а пры дапамозе лінейкі, а там, дзе патрэбна—цыркулем.

§ 1.

Апрацуйце па Раб. кн. Бэркута і др. §§ 1, 2 і 3 і ўясьнеце сабе, што лініі бываюць простыя, крывыя, ломаныя.

§ 2.

Апрацуйце па раб. кн. §§ 4, 5, 6 і 7 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Што такое кут?
2. Які пункт завецца вяршыняй кута?
3. Якія простыя завуцца бакамі кута?
4. Ад чаго залежыць вялічыня кута?
5. Якія бываюць куты?
6. Якія куты называюцца сумежнымі і якая іх уласьцівасьць?
7. Якія куты называюцца вэртыкальнымі і якава іх уласьцівасьць?

## § 3.

Апрацуйце па Раб. кн.: §§ 8, 9 і 10 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Якая крывая лінія завецца акружыняй?
2. Што завецца радыусам акружыні?
3. Што завецца дыямэтрам акружыні?
4. Якімі літарамі звычайна абазначаюцца радыус і дыямэтр акружыні?
5. Што завецца дугой?

Асаблівую ўвагу зьвярнеце на тое, як пры дапамозе транспартыру вымерваюцца куты.

Разьвяжэце наступныя задачы:

1. Якія куты ствараюць стрэлкі гадзіньніку а 1-й, а 2-й, а 3-й, а 4-й, а 5-й гадзіне?
2. Вылічце сумежныя куты, калі адзін больш за другі на 30°.
3. Вылічце сумежныя куты, калі адзін больш за другі ў 4 разы.

## § 4.

Пазнаёміўшыся з першапачатковымі геомэтрычнымі паняцьцямі (лінія, кут і акружыня) мы пачнем знаёміцца з рознымі геомэтрычнымі формамі. Будзем вывучаць асablівасьць элемэнтаў гэтых форм і таксама будзем вучыцца вылічваць іх плошчы.

Апрацуйце па раб. кн. §§ 29, 30, 31, 32, 33 і 34 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Што называецца геомэтрычнай фігурай?
2. Якая фігура называецца простакутнікам?
3. Якая фігура называецца квадратам?
4. Што называецца пэрымэтрам фігуры?
5. Як вылічваюць плошчы простакутніка і квадрата?
6. Які ўплыў на пэрымэтр простакутніка і квадрата робіць павялічэньне іх бакоў у 2, 3 і г. д. разоў?
7. Які ўплыў на плошчы простакутніка і квадрата робіць павялічэньне іх бакоў у 2, 3 і г. д. разоў?

Зьвярнеце ўвагу на табліцу квадратовых мерак. Запішэце яе ў свой сшытак і не рабеце гэтакіх памылак, якія часта робяць, пачынаючыя вучыцца матэматыцы:

Напрыклад: 48564 см. = 485,64 м.

48564 кв. см. = 485,64 кв. м. (ня верна)

48564 кв. см. = 4,8564 кв. м. (верна)

Гэта атрымалася таму, што ў адным мэтры — 100 см., а ў адным кв. мэтры—10.000 кв. см.

УВАГА: Дыяганаль квадрату, бок якога 1 аршын, раўна, прыблізна, 1 мэтру, як відаць з наступнага малюнку.




З двух квадратовых аршын магчыма ўскласьці 1 кв. мэтр, як відаць з наступных малюнкаў:





а таму мы можам казаць, што 1 кв. мэтр прыблізна равен 2 кв. аршынам. Калі, напрыклад, ваш пакой мае разьмеры 16 аршын на 10 арш., дык яго плошча раўна:

$$\frac{16 \cdot 10}{2} = 80 \text{ кв. м.}$$

Карыстаючыся тым, што 1 кв. мэтр равен прыблізна 2 кв. арш., вылічце, што больш і на колькі 1 дзесяціна ці 1 гектар.

Заўважце, што гэтым можна карыстацца ў тым выпадку, калі разьлікі не патрабуюць вялікай дакладнасьці. Калі разьлікі патрабуюць большую дакладнасьць, дык патрэбна лічыць 1 кв. м=1,977 кв. арш.

§ 5.

Апрацуйце па Раб. кн. §§ 35, 36, 37 і 38 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Якая фігура называецца паралелаграмам?

2. Якая фігура называецца ромбам?

3. Як вылічваюць плошчы паралелаграма і ромба?

4. Які ўплыў робіць на плошчы паралелаграма і ромба павялічэньне іх бакоў у 2, 3, 4 і г. д. разоў?

5. Які ўплыў робіць на пэрымэтры паралелаграма і ромба павялічэньне іх бакоў у 2, 3, 4 і г. д, разоў.

§ 6.

Апрацуйце па Раб. кн. §§ 38 і 39 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Якая фігура называецца трыкутнікам?

2. Якія бываюць трыкутнікі?

3. Як называюцца бакі ў простакутным трыкутніку?

4. Чаму раўна сума кутоў трыкутніка?

5. Што завецца асновай і вышынёй трыкутніка?

6. Колькі асноў і колькі вышынь можа мець трыкутнік?

7. Як вылічваецца плошча трыкутніка?

8. Які ўплыў робіць на плошчу трыкутніка павялічэньне яго асновы і вышыні ў 2, 3, 4 і г. д. разоў?

9. Які ўплыў робіць на плошчу трыкутніка павялічэньне яго бакоў у 2, 3, 4 і г. д. разоў?

10. Які ўплыў робіць на пэрымэтр трыкутніка павялічэньне яго бакоў ў 2, 3, 4 і г. д. разоў?

Такім чынам, вы ўявілі сабе, што калі ў вышэйпералічаных фігурах павялічым усе бакі ў 2 разы, дык пэрымэтр іх павялічыцца таксама ў 2 разы, а плошча ў 4 разы, а калі павялічацца бакі фігуры ў 3 разы, пэрымэтр павялічыцца таксама ў 3 разы, а плошча ў 9 раз і г. д. Калі, напр., афарбоўка падлогі каштуе 50 руб., а плінтус—10 руб., то калі даўжыня і шырыня пакою павялічана ў 2 разы, дык афарбоўка будзе каштаваць 200 руб. (у 4 разы больш), а плінтус 20 руб. (у 2 разы больш).

§ 7.

Апрацуйце па Раб. кн.: §§ 44, 45. 46 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Якая фігура называецца трапэцыяй?

2. Якія бакі трапэцыі называюцца яе асновамі?

3.Што называецца вышынёй трапэцыі?

4. Як вылічваецца плошча трапэцыі?

5. Якая фігура называецца многакутнікам?

6. Як вылічваецца плошча многакутніка?

Раю вам выканаць усе задачы § 46, каб вы маглі сябе пракантраляваць, ці навучыліся вылічваць плошчы розных фігур; адначасова ў вас будзе практыка ў выкананьні розных дзеяньняў над звычайнымі і дзесятковымі дробамі.

§ 8.

Калі ў вас ёсьць вольны час рабеце наступныя практыкаваньні

1. Намалюйце квадрат і другі больш першага па плошчы ў 9 раз

2. Намалюйце простакутнік і другі больш першага па плошчы ў 4 разы.

3. Намалюйце паралелаграм і другі больш першага па плошчы ў 4 разы.

4. Намалюйце трыкутнік і другі больш першага па плошчы ў 2 разы.

5. Намалюйце трыкутнік і другі больш першага па плошчы ў 4 разы.

6. Намалюйце трыкутнік і разьбейце яго лініямі, якія выходзяць з яго вяршыні на 5 раўнавялікіх частак.

УВАГА. Падзялеце аснову на 5 роўных частак і пункты дзяленьня злучэце з вяршыняй трыкутніка.

7. Намалюйце трапэцыю і падзялеце яе на 8 раўнавялікіх частак.

УВАГА. Падзялеце абодзьве асновы трапэцыі на 8 раўных частак і пункты дзяленьня злучэце,

§ 9.

Апрацуйце па Раб. кн. §§ 68, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 75. 76 і зьвярнеце ўвагу на тое, як, ведаючы радыус ці дыямэтр акружыні, можна вылічыць яе даўжыню.

Зьвярнеце таксама увагу на тое, як вылічваецца даўжыня дугі, калі вядомы радыус акружыні і цэнтральны кут, адпаведны дужцы.

Дайце адказы на наступныя пытаньні:

1, Які ўплыў робіць на даўжыні акружыны павялічэньне яе радыуса ў 2, 3, 4 і г. д, разоў?

. 2. Які ўплыў робіць на плошчу круга павялічэньне яго радыуса ў 2, 3, 4 і г. д. разоў?

3. Які многакутнік называецца правільным і як вылічваецца яго плошча?

Калі ў вас ёсьць вольны час, дык папрактыкуйцеся ў ўпісваньні ў круг правільных фігур: квадрата, восьмікутніка, шасьцікутніка і трыкутніка.

Падумайце, як пры дапамозе цыркуля і транспартыру магчыма пабудаваць пяціканцовую зорку.

УВАГА, Задачы, якія прыведзены ў § 72, трэба абавязкова выканаць, каб вы сябе маглі пракантраляваць, наколькі навучыліся вылічваць даўжыню акружыні і плошчу круга.

## КАНТРОЛЬНАЯ ЧАСТКА.

*(Выканайце наступныя задачы і перашлеце ў Камвуз для кантроля)*

**Задача № 1.** Кватэра рабочага складаецца з трох пакояў, разьмерам 6,4 м $\times$ 3,5 м; 4,8 м $\times$ 5,2 м; 4,6 м $\times$ 4,3 м. Колькі ён плаціць у жакт за кватэру ў месяц, калі за 1 кв. м. ён плаціць 0,55 руб.; прычым другі пакой прахадны, а таму плата за гэты пакой зьменшана на палову?

**Задача № 2.** Колькі патрэбна плітак, каб выбрукаваць вуліцу даўжынёй у 414,5 м. і шырынёй у 14,5 м., калі кожная плітка мае форму квадрата з бокам у 35 см.?

**Задача № 3.** У простакутнага аркуша жалеза разьмерам 24 м.$\times$ $\times$ 12,5 м. выразалі трыкутнік з асновай у 12,5 м. і вышынёй 10,5 м. Колькі жалеза засталося?

**Задача № 4.** Колькі фарбы патрэбна для афарбоўкі чатырохспаднага даху, два бакі якога маюць форму трапэцыі з асновамі— 36,4 м, і 22,8 м, а два другія—трыкутнікі з асновамі 12,8 м,; вышыня кожнага спаду 2,1 м., калі на афарбоўку 1 куб. м. патрэбна 300 г. фарбы?

**Задача № 5.** З аркуша жалеза простакутнай формы 96 см$\times$24 см выразалі 4 кругі дыямэтрам у 24 см. Вылічыць $^0/_0{}^0/_0$ абрэзкаў з усяго аркуша?

**Задача № 6.** Жалезную паласу даўжынёю ў 2,95 м. сагнулі ў абруч для бочкі. Вылічыць дыямэтр бочкі, калі 5 см пайшло на шоў?

**Задача № 7.** Намалюйце простакутнік, квадрат, паралелограм, ромб, трыкутнік і трапэцыю, і побач з імі напішэце формулы, па якіх вылічваюцца іх плошчы.

**Задача № 8.** Намалюйце акружыню і побач з ёю напішэце формулы, па якіх вылічваюцца яе даўжыня і плошча круга.

---

## ЗАДАНЬНЕ № 4.

### Альгебраічная сімболіка. Адносныя лікі. Адначлен і многачлен.

Да гэтага часу вы займаліся, галоўным чынам, арытмэтыкай, Вы навучыліся рабіць розныя арытмэтычныя дзеяньні над лікамі цэлымі і дробнымі. Вы навучыліся разьвязваць задачы на прапорцыянальнасьць і рабіць процантныя вылічэньні. Вы азнаёміліся з шэрагам геомэтрычных фігур і навучыліся вылічваць з іх плошчы. Гэта-ж заданьне мае сваёй мэтай увесьці вас у альгебру.

§ 1.

Апрацуйце па Раб, кн. §§ 60, 51, 62 і зьвярнеце ўвагу на тое што такі альгебраічны выраз, што паказвае коэфіцыент і што такое ступень. Гэтыя пытаньні вельмі добра растлумачаны ў Раб. кн. Калі вы ўясьнілі сабе, што такое альгебраічны выраз і як вылічваецца яго лікавае значэньне, дык вам няцяжка будзе выканаць наступныя практыкаваньні:

1. Продукцыйнасьць с.-гасп. машын характарызуецца лікам выробленых гэктараў за 1 раб. дзень (10 раб. гадз.) і вылічваецца гэтак:

$$x = \frac{в \, . \, c \, . \, 60 \, . \, 60 \, . \, 10}{10000}$$

дзе $x$ . . . прадукцыйнасьць машыны за 10 гадз. працы.

$в$ . . . шырыня захопу ў мэтрах.

$c$ . . . хуткасьць руху ў мэтр. у 1 сэк.

Вылічыць $x$, калі $c = 0{,}2$ м.; $c = 1{,}1$ м.

2. Вага сутачнай нормы корму каровы вылічваецца гэтак:

$$x = \frac{a}{120} + \frac{в}{3},$$

дзе $x$ . . . вага сутачнай нормы корму

$a$ . . . вага каровы ў кг.

$в$ . . . вага малака ў кг., што карова дае ў суткі.

Вылічыць $x$, калі $a = 286$ кг.; $в = 15$ м.

3. Вага гною, які атрымліваецца ад жывёлы, вылічваецца гэтак:

$x = 2к + 4п$,

дзе $x$ . . . вага гною,

$к$ . . . вага сухого корму,

$п$ . . . вага падсьцілкі.

Вылічыць $x$, калі $к = 315$ кг.; $п = 82$ кг.

Вельмі пажадана, каб вы пазнаёміліся з асноўнымі ўласьцівасьцямі 4-х арытмэтычных дзеяк. Апрацуйце па Раб. кн. цалкам § 63 і ўясьнеце сябе наступнае:

1. У чым заключаецца перамяшчальны закон складаньня.

2. У чым заключаецца злучальны закон складаньня.

3. У чым заключаецца перамяшчальны закон множаньня.

4. У чым заключаецца злучальны закон множаньня.

5. У чым заключаецца разьмеркавальны закон множаньня.

6. Якая існуе залежнасьць паміж складнікамі і сумай, паміж зьменшавым, аднімнікам і розьніцай, паміж самножнікамі і здабыткам, паміж дзелевам, дзельнікам і дзельлю?

7. Як вызначаюцца невядомыя элемэнты розных дзеяньняў, калі вядомы астатнія два яго элемэнты, напрыклад, як вызначаецца невядомы складнік, калі вядомы сума і другі складнік, як вызначаецца невядомае зьменшава, калі вядомы аднімнік і розьніца і г. д.?

Карыстаючыся асноўнымі ўласьцівасьцямі арытмэтычных дзеяньняў, магчыма часам выконваць розныя арытмэтычныя дзеяньні, куды хутчэй, чым звычайна.

Напрыклад:

$4800 + 527 + 1200 = 4800 + 1200 + 527 = 6527$

$24^3/_7 + 5^1/_4 + 5^4/_7 = 24^3/_7 + 5^4/_7 + 5^1/_4 = 35^1/_4.$

$36{,}8 + 5{,}28 + 3{,}2 = 36{,}8 + 3{,}2 + 5{,}28 = 45{,}28.$

$125 \times 17 \times 8 = 125 \times 8 \times 17 = 17000.$

$12^3/_7 \times 2 = 12 \times 2 + {}^3/_7 \times 2 = 24 + {}^6/_7 = 24\ {}^6/_7.$

$36^4/_9 : 4 = 36 : 4 + {}^4/_9 : 4 = 9 + {}^1/_9 = 9^1/_9.$

§ 3.

Апрацуйце § 64 і ўявеце сабе розьніцу паміж тожсамасьцю і раўнаньнем і папрактыкуйцеся ў разьвязваньні задач пры дапамозе раўнаньня. З § 67 задачы 4, 5, 6 і 8 магчыма выпусьціць.

§ 4.

Наш курс альгебры, які мы павінны апрацаваць у гэтым годзе. мае сваёй мэтай навучыць нас разьвязваць задачы пры дапамозе раўнаньня, але дзеля гэтага патрэбна нейкая матэматычная грамата. Вось мы ёю цяперачы і займемся.

Апрацуйце па Раб. кн. §§ 98, 99, 100. 101, 102 і 103 і добра ўясьнеце сабе сутнасьць адносных лікаў і як над адноснымі лікамі робяцца дзеяньні: складаньне, адыманьне, множаньне і дзяленьне.

§ 5.

Навучыўшыся апэрыраваць з адноснымі лікамі, мы павінны цяперака вучыцца апэрыраваць з адначленамі і многачленамі.

Апрацуйце з Раб. кн. § 110 і ўясьнеце сабе, што называецца адначленам і што многачленам.

Апрацуйце § 111 і ўявеце сабе, якія адначлены называюцца падобнымі, як робіцца прывядзеньне падобных членаў і для чаго апошняе робіцца.

§ 6.

Апрацуйце §§ 112, 113, 114 і 115 і ўсвойце тэхніку складаньня і адыманьня адначленаў і многачленаў і таксама навучэцеся раскрываць дужкі.

Зьвярнеце асаблівую ўвагу на тэхніку раскрыцьця дужак, калі перад імі стаіць знак мінус. Неабходныя тлумачэньні даны ў Рабоч. кніжцы.

§ 7.

Апрацуйце па Раб. кн. §§ 117, 118, 119 і 120 і засвойце тэхніку множаньня адначленаў і многачленаў. Зьвярнеце ўвагу на тое, што робіцца з паказчыкамі ступеней аднэй асновы пры множаньні і на тое, як уваздзяць адначлен у ступень.

§ 8.

Таксама, як пры вывучэньні арытмэтыкі, нам неабходна на першых парах усвоіць табліцу множаньня, каб ня было асаблівых цяжкасьцяй пры выконваньні множаньня і дзяленьня лікаў, так і неабходна на першых парах вывучэньня альгебры пазнаёміцца з так званай альгебраічнай табліцай множаньня—формуламі скарочанага множаньня. У чым сутнасьць закранутага пытаньня вы даведаецеся, апрацаваўшы па Раб. кн. § 121 (IV і V разьдзелы паказанага параграфу можаце выпусьціць, калі ў вас ня будзе вольнага часу).

Дайце адказы на наступныя пытаньні:

1. Чаму равен здабытак сумы 2-х лікаў на іх розьніцы.
2. Чаму равен квадрат сумы 2-х лікаў.
3. Чаму равен квадрат розьніцы 2-х лікаў.
4. Чаму равен куб сумы 2-х лікаў.
5. Чаму равен куб розьніцы 2-х лікаў.

---

## КАНТРОЛЬНАЯ ЧАСТКА.

*Выканаць і пераслаць у Камвуз.*

**Задача № 1.** Сярэдні дзённы выдатак рабочага вылічваецца па формуле:

$$x = \frac{a + 12в + 36{,}5c + 365d}{365}$$

дзе $x$ . . . сярэдні дзённы выдатак;

$a$ . . . гадавы выдатак (напр. адзёжа)

$в$ . . . месячны выдатак (напр. камун, выдаткі):

$c$ . . . дэкадны выдатак (напр. культ. выдаткі);

$d$ . . . штодзённы выдатак (напр. харчы).

Вылічыць $x$, калі $a = 112$ р.; $в = 12{,}5$ р.; $c = 1{,}5$ р.; $d = 2$ р.

**Задача № 2.** Вылічыць сярэдні грамадзка-неабходны час, які траціцца на выраб пары ботаў, калі:

адна фабрыка вырабіла $a$ пар ботаў, робячы 1 пару ў $в$ гадз.
другая фабрыка вырабіла $c$ пар ботаў, робячы 1 пару ў $d$ гадз.
трэцяя фабрыка вырабіла $m$ пар ботаў, робячы 1 пару ў $n$ гадз.

пры $a = 2000$ пар.; $в = 6$ гадз.
$c = 8000$ „ $d = 5$ „
$m = 4000$ „ $n = 4$ „

$$x = \frac{aв + cd + mn}{a + c + m}$$

**Задача № 3.** Сьвятло праходзіць у сэкунду $3.10^5$ км. Ад сонца сьвятло ідзе да нас 8 хвілін. Вылічыць адлегласьць зямлі ад сонца.

**Задчача № 4.** Выканаць наступнае:

$$(+5)+(-4)+(-10)-(-12)-(-4)=$$
$$(-12{,}5)-(-20{,}5)+(+8{,}5)-(-4{,}5)=$$
$$[(+4)\,.\,(-7)+(-8)\,.\,(-4)]:(-1)\,.\,(-2)\,.$$

**Задача № 5.** Выканаць наступнае:

$$(a^2+2aв+в^2)+(a^2-2aв+в^2)=$$
$$(x^2+2xy+y^2)-(x^2-2xy+y^2)=$$
$$(a^3+3a^2в+3aв^2+в^3)+(a^3-3a^2в+3aв^2-в^3)=$$
$$(a^3+3a^2в+3aв^2+в^3)-(a^3-3a^2в+3aв^2-в^3)=$$
$$(a^2+aв+в^2)\,.\,(a-в)=$$
$$(a^2-aв+в^2)\,.\,(a+в)=$$
$$(a^2+aв+в^2)\,(a^2-aв+в^2)=$$
$$(4x^2+2xy^2+9y^3)\,(2x^2-3y^2)=$$

**Задача № 6.** $(x+y)\,.\,(x-y)\,.\,(x^2-y^2)=$

$(x+y)\,.\,(x-y)\,.\,(x^2+y^2)=$

Паказаць што: $(a-в)^2=(в-a)^2$

$(a-в)^2-(в-a)^2=0.$

$(a+в)^3=a^3+в^3+3aв\,(a+в)$

$(a-в)^3=a^3-в^3-3aв\,(a-в)$

**Задача № 7.** 1200 м, мануфактуры трэба разьмеркаваць паміж 3 майстэрнямі так, каб другой дасталося ў 2 разы больш, чым першай, а трэцяй у 2 разы больш, чым другой. Колькі мануфактуры трэба даць у кожную майстэрню?

## ЗАВОЧНА-КУРСАВЫ СЭКТАР

### АДДЗЯЛЕНЬНІ: ПАРТБУДАЎНІЦТВА - ПРАПАГАНДЫЦКАЕ




# ГІСТОРЫЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ.

## У ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ

*Курс вядзе Ў. А. ВАСЮЦІНСКІ.*

### ЗАДАНЬНЕ № 2.

**ТЭМА: Вялікая француская рэвалюцыя—эпоха панаваньня буйнай буржуазіі.**

### Папярэднія заўвагі.

Вялікая француская рэвалюцыя ўяўляе для нас вялікі інтарэс у сэнсе разуменьня дынамікі клясавага змаганьня, азнаямленьня з палітычнай стратэгіяй і тактыкай буржуазіі ў час яе маладосьці і рэвалюцыйнага змаганьня, нарэшце, тут мы можам пазнаёміцца і высьвятліць ролю, якую адыгрывалі ў буржуазнай рэвалюцыі сялянства і гарадзкая дробная буржуазія, іх удзельную вагу і значэньне.

У гісторыі рэвалюцыйнага руху Вялікая француская рэвалюцыя займае зусім асобнае месца: яна адрозьніваецца як ад папярэдніх рэвалюцый эпохі гандлёвага капіталу—ангельскай і нідэрляндзкай, дзе па словах Маркса: „буржуазія выступала ў саюзе з новым дваранствам супроць каралеўскай улады, фэодальнага дваранства і пануючай царквы", так і ад наступных рэвалюцый, напрыклад, францускай рэвалюцыі 1848 г., руху эпохі прамысловага капіталізму, дзе мы ўпяршыню наглядаем змаганьне паміж рабочай клясай і буржуазіяй. У пачатку-ж рэвалюцыі 1780 г. буржуазія выступала супроць фэодальных парадкаў у саюзе з народнымі масамі. Гэта быў рух пераходнага часу ад эпохі гандлёвага капіталу да прамысловага капіталізму.

Ня гледзячы на тое, што Вялікая француская рэвалюцыя зьяўлялася — па аб'ектыўных задачах, якія стаялі перад ей — буржуазнай, гэта ня значыць, што буржуазія магла яе давесьці да канца. „Ці ня

значыць паняцьце — буржуазная рэвалюцыя — таго, што зрабіць яе можа толькі буржуазія?"—заўважвае па гэтаму поваду т. У. І. Ленін.— „Гэты погляд ёсьць карыкатура на марксызм,—прадаўжае ён: буржуазны па свойму грамадзка-эканамічнаму зьместу вызваленчы рух не зьяўляецца гэтакім па яго рухаючым сілам (У. І. Ленін, збор твораў, том VIII). Такой рухаючай сілай, якая давяла да канца буржуазную рэвалюцыю 1789-94 году зьявілася дробна буржуазія.

Ужо першы этап рэвалюцыі—эпоха панаваньня буйнай буржуазіі, досыць яскрава пацьвярджае нам гэты факт. Рух 1789 г. пачаўся пры ўзбуджэньні нездавальненьня амаль усяго насельніцтва Францыі. Нават парлямэнцкая бюрократыя і частка дваранства, якія былі нездаволены дрэнным гаспадараньнем каралеўскай улады і жадалі толькі зьвярнуць парушаныя ёю свае прывілеі, запротэставалі, ўзьняўшы так званую „рэвалюцыю прывілегіраваных". Аднак, хутка рух гэты раскалоўся: ужо з 4 траўня 1789 г. зрабілася яскравым, што рух ідзе па лініі змаганьня буржуазіі супрьць дваранства. Гэты факт адбіўся яшчэ на паседжаньні Генэральных Штатаў, калі трэці стан" высунуў свае асобныя патрабаваньні, якія прывялі да ператварэньня Генэральных Штатаў ва Ўстаноўчы сойм.

Гэты акт, аднак, яшчэ ня мог стварыць рэвалюцыі, апошняя ў сапраўднасьці была распачата толькі шырокімі народнымі масамі; буржуазіі ўдалося дабіцца перамогі толькі, дзякуючы ўплыву сялянскіх узбурэньняў і рэвалюцыйных выступленьняў гарадзкіх працоўных слоеў, перамозе паўстаньня 14-га ліпеня і дзён 5-6 кастрычніка. Увесь гэты час буйная буржуазія, хоць і апіраецца на шырокія народныя масы, але баіцца іх рашучых выступленьняў і ўсялякім спосабамі імкнецца стрымліваць рэвалюцыйныя выступленьні мас. Узяцьце Бастыліі, якое паслужыла штуршком для разьвіцьця рэвалюцыі, было вытворана Парыскай дробнай буржуазіяй і рабочымі, буржуазія-ж пазірала на яго з жахам; пасьля гэтага нябачная дагэтуль шчыліна паміж буржуазіяй і дэмакратычнымі масамі з кожным новым рухам усё больш паглыбляецца,

У такой-жа ступені адбываецца разыходжаньне паміж буржуазіяй і сялянствам. Страціўшы надзею, што новы ўрад зьнішчыць фэодальныя павіннасьці, чаго доўга чакала сялянства, яно само ўзялося за іх ліквідацыю—па ўсёй сялянскай Францыі перакочваецца хваля аграрных паўстаньняў, сялянства сурова і рашуча пачало распраўляцца з фэодаламі-абшарнікамі.

Баючыся паўстаньня, буйная буржуазія абвяшчае скасаваньне малаважных павіннасьцяў, ашуквае сялянства хлусьлівымі падачкамі і жорстка падаўляе ўсякія пратэсты з яго боку. Аграрнае заканадаўства Ўстаноўчага сойму дала вялікія выгоды буржуазіі ў відзе капіталізацыі выкупных плацяжэй, і ў той самы час нічога не дала вёсцы.

Гэтым можна тлумачыць тое, што з гэтага моманту буйная буржуазія ідзе на згоду з каралеўскай уладай і дваранствам і пераходзіць на шлях расправы з народнымі масамі; такія дакуманты, як Констытуцыя 1791 г. і закон Ла-Шапельле павінны былі пазбавіць дэмократыю доступа да палітычнага жыцьця і выбіць з рук рабочых іх адзіны сродак супроць эксплёатацыі—забастоўку.

Палітыка буйнай буржуазіі выклікае далейшае абвастрэньне клясавага змаганьня; з паглыбленьнем рэвалюцыі ад яе адыходзяць усе новыя слаі буйнай, а затым і сярэдняй буржуазіі, а разам з тым адбываецца канчатковы разрыў паміж цэнзавай буржуазіяй і народнымі масамі. Рэвалюцыя ўступае ў новы этап свайго разьвіцьця.

Мы бачым пасьля гэтага, як узрастае рэвалюцыйны настрой дробнай буржуазіі, сярод якой усё больш пашыраюцца рэспубліканскія погляды і адносіны якой да буржуазнага ўраду становяцца рэзка-варожымі.

Апошняе адказвае рэпрэсіямі: растрэльвае народныя дэмонстрацыі, арыштоўвае народных правадыроў і заганяе іх у падпольле.

Вайна, якая выбухнула супроць коаліцыі, яскрава паказала ўсю вастрату становішча. Рэакцыя, з каралём на чале, спадзявалася шляхам інтэрвэнцыі задушыць рэвалюцыю; у чаканьні гэтага па ўсей краіне пачынаюцца контррэволюцыйныя загаворы. Па пытаньню аб вайне расколваецца і рэвалюцыйная партыя таго часу — якабінцы. Правае крыло іх — жырондыстыя мараць пры дапамозе вайны захапіць уладу, адцягнуць народныя масы ад далейшага руху рэвалюцыі і, адбываючы інтарэсы гандлёва-прамысловых колаў, спадзяюцца атрымаць новыя рынкі. Наадварот, левае крыло, на чале з Робэсьп'ерам, выступае супроць вайны, патрабуючы паперш за ўсё падаўленьня контррэвалюцыі ў краіне. Народныя масы арганізуюцца і ствараюць свае органы абароны; сялянства, нездаволенае вырашэньнем аграрнага пытаньня, зноў пачынае хвалявацца. Няўдачы на фронце, блізкае набліжэньне варожых армій, амаль відавочная здрада караля і, нарэшце, абвастрэньне манархічнай дзейнасьці, штурхае рэвалюцыйныя масы зрабіць рашучы шаг: яны арганізоўваюць рэвалюцыйную Парыскую Камуну і паднімаюць паўстаньне супроць каралеўскай улады (10 жніўня 1792 г.), якое канчаецца крушэньнем манархіі, а пасьля прывяло да ўтварэньня рэвалюцыйна дробна-буржуазнай дыктатуры.

### Мэты заданьня.

У гэтай працы мы павінны высьвятліць наступныя пытаньні: 1) асноўныя этапы клясавага змаганьня ў пэрыяд 1789-1792 г. г.; 2) характар і зьмест эканамічнага і палітычнага законадаўства буржуазіі; 3) прычыны падзеньня манархіі і перамогі рэвалюцыйнай дробнай буржуазіі.

### Парадак прапрацоўкі заданьня.

У першую чаргу трэба высьвятліць непасрэдныя прычыны рэволюцыі, а потым азнаёміцца з здарэньнямі і акалічнасьцямі першага пэрыяду рэвалюцыі. Для гэта прачытаць з Моносова, „История революционных движений", ст. 36-40 ад § „Финансовая катастрофа" і з дадаткаў дадзеных тут № 1, 2, акрамя таго, калі можаце дастаць кнігу Арк. А-на „История Зап. Европы и САСШ", вазьмеце адтуль ст. 60—85.

Па пытаньню аб узяцьці Бастыліі, яго прычынах і выніках, вазьмеце Моносова, паказаны твор, ст. 40-42, калі ёсьць Арк. А-н паказ. твор, ст. 65—69.

Аб аграрным законадаўстве, сялянскіх узбурэньнях і здарэньнях 5—8 кастрычніка 1789 г. вазьмеце таксама з Моносова, пак. твор, ст. 44—46, з дадаткаў у гэты нумары № 3, 4 і 5, калі знойдзеце Арк. А-н, пак. твор, ст. 88—69 і 75—77.

Па пытаньню аб змаганьні партый у эпоху Ўстаноўчага сойму, а потым палітычным і рабочым законадаўстве яго трэба прачытаць Моносова, пак. твор. ст. 46—48, з дадаткаў у гэтай часопісі № 6, і 7. Арк. Б-на, пак. твор. ст. 69—70, канчаючы словамі „будет дальше сказано“ і ст. 77—81 (калі ёсьць кніга).

Адносна народнага руху і змаганьня партый у эпоху Законадаўчага Сойму прачытайце з Моносова, пак. твор, ст. 47—50, з дадаткаў у гэтай часопісі № 8, 9, 10. Акрамя таго, калі знойдзеце Арк. А-на, пак. твор, ст. 81—85.

У сувязі з прычынамі вайны, адносінамі да яе партый і яе палітычным значэньні вазьмеце далей з Моносова, пак. тв., ст. 50—51, дадаткі ў гэтай часопісі № 11—12. Акрамя таго, па магчымасьці Арк. А-на, пак. тв. ст. 83—75.

Закончыце заданьне азнаямленьнем з прычынамі гібелі монархіі, рэвалюцыяй 10 жніўня 1792 г. і аграрным законадаўствам Законадаўчага Сойму, для чаго прачытайце з нашай часопісі дадаткі №13—17; па магчымасьці Арк. А-на, пак. тв. ст. 85—89.

*Для больш падрыхтаваных рэкомэндуецца* прачытаць па ўсіх паказаных пытаньнях кнігу Лукіна „Новейшая история Зап. Европы“ гл. IV, ці Матвеева „История Великой франц. револ.“, том I.

**Пытаньні для самакантролю.**

1. Чаму пачалася так званая „Рэвалюцыя прывілегіраваных?“
2. Што такое „трэці стан?“
8. Якое значэньне ўзяцьця Бастыліі?
4. У чым сэнс пастаноў ночы 4 жніўня 1789. г.?
5. У чым значэньне дзён 5—6 кастрычніка?
6. Што даў Устаноўчы Сойм сялянству?
7. Які зьмест закона Ла-Шапельe?
8. Якая характэрная рыса Дэкларацыі правоў?
9. Які зьмест Конституцыі 1791 г.?
10. Якая была палітыка якабінцаў ва Ўстаноўчы Сойм?
11. Як зьмянілася Францыя пасьля 1791 г.?
12. Які быў партыйны склад Законадаўчага Сойму?
13. Якая была палітыка Ўстаноўчага і Законадаўчага Соймаў у адносінах да караля і дваранства?
14. Якія былі прычыны рэвалюцыйных войнаў?
15. Як адносіліся да вайны партыі Законадаўчага Сойму?
16. Якія былі рэформы Законадаўчага Сойму?
17. Якія былі разнагалосьсі паміж Камунай і Законадаўчым Соймам?
18. Як аднесьліся жырондыстыя да рэвалюцыі 1792 г.?
19. У чым сэнс гэтай рэвалюцыі?

20. Якую ролю адыгралі якабінцы 10 жніўня 1792 г.?
21. Чым тлумачыліся верасьнёўскія забойствы?

**Тэмы для пісьмовай працы.**

*1. Сялянства і яго роля ў першы пэрыяд Рэвалюцыі* 1789-1792 г.

ПЛЯН РАБОТЫ.

1. Прычыны нездавальненьня сялянства старым ладам.
2. Сялянскія ўзбурэньні ўлетку 1789 г.
3. Што даў сялянству Ўстаноўчы Сойм?
4. Прычыны аграрных узбурэньняў 1792 г.
5. Характар аграрных мерапрыемстваў Законадаўчага Сойму.
6. Чаму буржуазія ня можа вырашыць зямельнага пытаньня.

*2. Буйная буржуазія і рэвалюцыя.*

ПЛЯН РАБОТЫ.

1. Прычыны нездавальненьня старым ладам.
2. Змаганьне з каралём і дваранствам да 14 чэрвеня 1789 г.
3. Адносіны да народных паўстаньняў.
4. Соцыяльная політыка буйнай буржуазіі ў Устаноўчым Сойме.
5. Адносіны яе да каралеўскай улады пасьля здарэньняў 5-6 кастрычніка.
6. Прычыны яе рэпрэсій у адносінах да дэмократыі.
7. Прычына падзеньня панаваньня буйнай буржуазіі.

*Увага*: Можна выбраць тую ці другую тэму.

---

# Вучэбна-дапаможны матар'ял.

## (Дадатак).

## I. Дзейнасьць генэральных штатаў у першыя часы іх існаваньня.

Генэральныя штаты адчыніліся 5 траўня 1789 г. Першыя шэсьць тыдняў іх існаваньня прашлі ў спрэчках паміж станамі, выкліканых патрабаваньнямі трэцяга стану аб сумесных паседжаньнях з дваранствам і духавенствам, пакуль, нарэшце, 17-га чэрвеня трэці стан, пасьля доўгіх спрэчак, ня прыняў наступных пастаноў:

**№ 1. Пастанова трэцяга стану ад 17 чэрвеня 1789 г. аб пераарганізацыі Генэральных Штатаў ва Ўстаноўчы Сойм.**

Сход, абмеркаваўшы вынікі праверкі поўнамоцтваў, лічыць, што ён ужо ў сучасны момант складаецца з прадстаўнікоў, непасрэдна пасланых, у меншай меры 96 процантамі ўсёй нацыі. Такая коль

касьць дэпутатаў ня можа бязьдзейнічаць з-за адсутнасьці прадстаўнікоў некалькіх бальяжэй ці якой-небудзь клясы грамадзян. Адсутнасьць дэпутатаў, *што не зьявіліся, ня гледзячы на дасланыя ім запрашэньні,* зусім ня можа перашкодзіць прысутным скарыстаць паўнату іх правоў, тым больш, што гэта зьяўляецца іх безадкладным і тэрміновым абавязкам. Больш таго, паколькі права прымаць удзел у выражэньні волі нацыі маюць толькі зацьверджаныя прадстаўнікі і з прычыны таго, што яны ўсе абавязаны прысутнічаць у гэтым сойме, неабходна зрабіць заключэньне, што сойму—і толькі яму аднаму—належыць права выяўляць і прадстаўляць агульную волю нацыі; паміж тронам і гэтым соймам ня можа існаваць ніякага вэто, ніякай улады, маючай сілу забараняць. З гэтай прычыны сойм абвяшчае, што агульная справа нацыянальнага адраджэньня можа і павінна быць пачата без праваломкі прысутнымі дэпутатамі, і што яны ня гледзячы на перашкоды, павінны прыступіць да гэтага безадкладна. Вызначэньне назвы „Нацыянальны сход“ ёсьць адзінае, прыдатнае для данага сходу пры сучасным становішчы, як у моц таго, што члены яго прадстаўляюць сабой адзіных законных, усімі прызнаных і зацьверджаных прадстаўнікоў, якіх паслала непасрэдна амаль уся нацыя, гэтак і таму, што пры непадзельнасьці і адзінстве прадстаўніцтва, ніхто з дэпутатаў, незалежна ад таго, якім станам ці клясай ён абраны, ня мае права выконваць свае функцыі паасобна ад гэтага Сойму, і Сойм ніколі ня страціць надзеі аб'яднаць у сваім асяродзьдзі ўсіх прысутных сёньня дэпутатаў. Ён ніколі не перастане заклікаць іх да выкананьня ўскладзенага на іх абавязку—прымаць удзел у пасяджэньнях Генэральных Штатаў. У які-б момант наступнай сэсіі не зьявіліся адсутныя цяпер дэпутаты, Сойм загадзя заяўляе сваю гатоўнасьць прыняць іх у сваё асяродзьдзе і падзяліць з імі, праверыўшы іх паўнамоцтвы, увесь цяжар вялікіх работ, маючых на мэце адраджэньне Францыі. Нацыянальны Сойм дэкрэтуе, што гэтая пастанова будзе безадкладна прарэдагавана дзеля прадстаўленьня яе каралю і нацыі.

(Захер. Документы по Великой французской революцыі).

### № 2. Пастанова Нацыянальнага Сойму ад 23 чэрвеня аб непарушнасьці яго дэпутатаў.

Гэта ператварэньне сходу трэцяга стану ў „Нацыянальны“ было ўжо рэвалюцыйным актам і выклікала пратэсты з боку дваранства і князёў царквы. Прывілейныя органы накіравалі спэцыяльныя дэпутацыі да караля з просьбай „выратаваць дзяржаву і рэлігію“. Выступ першых станаў супроць буржуазіі надаў сьмеласьці каралю. Было вырашана часова перарваць паседжаньні Сойму. 20 чэрвеня дэпутаты знайшлі залю паседжаньняў зачыненай, вароты ахоўваліся салдатамі. Дэпутаты сабраліся тады ў адным з вольных суседніх памяшканьняў (у зале для гульні ў мяч). Тут яны далі ўрачыстую прысягу „ні ў якім разе не разыходзіцца... і зьбірацца ўсюды... да тэй пары, пакуль будзе выпрацавана і ўстаноўлена на моцных падставах канстытуцыя каралеўства“. Праз два дні да Сойму далучылася большая частка духавенства: вясковыя кюрэ пайшлі супроць сваіх уладароў і далучыліся да рэвалюцыі. Пасьля „каралеўскага“ паседжаньня (2 з. VI), на якім Людовік XVI прачытаў урадавую дэкля-

рацыю, абвясьціўшую несапраўднымі рашэньні Сойму 17 чэрвеня, дэпутатам было прапанавана зноў падзяліцца паводле станаў. Але Мірабо ганарова заявіў паслу караля, што дэпутаты пакінуць свае месцы толькі пад напорам штыхоў, а на другі дзень да Сойму далучылася меншасьць духавенства (каля 60 чалавек). Урад не адважыўся пусьціць у ход сілу. Цяпер сам кароль загадаў усім тром станам злучыцца і такім чынам прызнаў перамогу трэцяга стану...

(Лукин. Новейшая история Зап. Европы).

---

Нацыянальны Сойм абвяшчае, што асоба кожнага дэпутата зьяўляецца недатыкальнай. Кожная асоба, корпарацыя, трыбунал, суд ці камісія, якія адважацца ў часе ці пасьля гэтай сэсіі ўзбуджаць ганеньне, вытвараць допыт, арыштоўваць ці даваць загад аб арышце, трымаць у заключэньні ці даваць загад аб гэтым у адносінах да дэпутата за прапанову, думку ці прамову, выказаную ім на паседжаньні Генэральных Штатаў, таксама як і ўсе асобы, якія дапамагаюць падобным замахам, ад каго-б гэта ня выходзіла,—абвяшчаюцца ганебнымі здраднікамі ў адносінах да нацыі і лічацца вінаватымі ў цяжкім дзяржаўным злачынстве. Нацыянальны сойм пастанаўляе, што ў выпадку ўчыненьня вышэйпамянёных дзеяньняў, ім будуць ужыты ўсе захады, неабходныя для адшуканьня і пакараньня пачынальнікаў, падбухторшчыкаў і выканаўцаў падобных злачынстваў.

(Захер, паказаная праца).

### № 3. Выкрыцьцё гістарычнай легенды аб 4 жніўня 1789 г,

У буржуазных і нават у шмат якіх дэмократычных гістарычных працах прапановы, вынесеныя ва Ўстаноўчым сойме ў ноч на 4 жніўня 1789 г., узьвялічваюцца як доказ гатоўнасьці дваранства на ахвяры—і ноч 4 жніўня ўслаўляецца як гістарычнае сьведчаньне найвялікшага энтузіязму і самаахвяраваньня. У сапраўднасьці, як ужо ўспаміналася, уся сцэна, якую разыграў Этльен, была загадзя падрыхтавана ў брэтонскім клюбе, і прымаўшыя ўдзел у гэтай справе, дваране, кіраваліся зусім ня добрымі мотывамі, а халодным разрахункам. Яны ўбачылі, што пасьля таго, як за апошнія два тыдні сотні панскіх маёнткаў былі зьвернуты ў кучы попелу і тысячы старых фэодальных дакумантаў зьнішчаны, стала немагчымым захаваньне старой фэодальнай сыстэмы. Хацеў гэтага Нацыянальны сойм ці не, але яму не заставалася нічога іншага, як зацьвердзіць адпаведнымі прававымі нормамі гвалтоўнае зьнішчэньне фэодальных правоў. Калі-б ператварэньне палацаў у попел пайшло далей, дык была-б сур'ёзная небясьпека, што шмат якія правы будуць зьнішчаны бяз выкупу, Таму было лепей адступіцца своечасова, добраахвотна ахвяраваць на алтар бацькаўшчыны фэодальныя правы, утрымаць якія ўсё роўна было немагчыма і абумовіць для сябе адпаведную грашовую ўзнагароду. А гэта трэба зрабіць так, каб абавязак выплаты лёг на грамаду, а не на паасобных грамадзян, якія лягчэй маглі-б ад яе ўхіліцца. Пры гэтым фэодальныя правы адыгрывалі толькі нязначную ролю для большай часьці служылага і прыдворнага два-

ранства. Таму такое выйсьце было зусім прыймальным для дваран, якія ў большасьці былі ацяжараны даўгамі,—толькі-б ня была сума выкупу занадта памяркоўнай. Да гэтага далучалася яшчэ адно меркаваньне: калі зьнішчаліся фэодальныя павіннасьці, немагчыма было захаваць і дзесяціны, якія даставаліся духавенству. Іх прыходзілася таксама адмяніць, ці, прынамсі, урэгуляваць і скараціць... дзесяціна складала каля 94 мільёнаў ліўраў у год, і дваранства таксама ўносіла сюды даволі значную суму, больш трэці. Значыцца, скасаваньне ці скарачэньне дзесяціны адчыняла перад дваранствам пэрспэктыву значнага выйгрышу.

Такім чынам, у якасьці сапраўднай ахвяры з боку дваранства заставалася толькі прапанованая адмена асабістых павіннасьцяй. Але, не гаворачы ўжо аб тым, што гэтыя павіннасьці для пераважнай колькасьці прыдворнага і служылага дваранства таксама не прадстаўляе ніякай асаблівай вартасьці, яны і бяз гэтага скасоўваліся першым артыкулам проэктаванай і часткова прынятай ужо канстытуцыі.

(Г. Кунов.—Борьба классов и партий в Великой французской революции).

Ніжэйпаданая прапанова Віконта дэ-Ноайля, унесеная ўначы 4 жніўня 1789 г. на паседжаньні Нацыянальнага сойму, яскрава пацьвярджае характарыстыку здарэньняў 4 жніўня, якую даў Г. Куноў.

## № 4. Прапанова аб адмене фэодальных павіннасьцяй, якую ўнёс 4 жніўня 1789 г. Віконт дэ-Ноайль.

Нацыянальны сойм, лічачы, што яго першы і найбольш сьвяты абавязак зьмяшчаецца ў тым, каб падпарадкаваць асабістыя і прыватныя інтарэсы агульнаму; што падаткі былі-б значна менш цяжкімі для народа, калі-б яны аднолькава былі ўскладзены на ўсіх грамадзян адпаведна іх маёмасьці; што патрабаваньне справядлівасьці зьмяшчаецца ў тым, каб падобная роўнамернасьць захоўвалася;

пастанаўляе, што ўсе корпорацыі, гарады, грамады і прыватныя асобы, якія дагэтуль карысталіся асобнымі прывілеямі ці асабовымі выключэньнямі, прыцягваюцца з гэтага часу да ўплаты ўсіх падаткаў і выконваньне грамадзкіх павіннасьцяй на агульных з усімі падставах у адносінах як разьмеру абкладаньня, так і формы спагнаньня. Акрамя таго, разглядаючы фэодальныя і сэньёрыяльныя правы, як свайго роду цяжкую даніну, якая перашкаджае земляробству і апусташае палі, але разам з тым, нямаючы магчымасьці замаўчаць таго, што правы гэтыя зьяўляюцца сапраўднаю ўласнасьцю і, як гэтакія, павінны быць непарушнымі,—Нацыянальны сойм пастанаўляе лічыць гэтыя павіннасьці падлягаючымі выкупу ў выпадку адпаведнага жаданьня з боку тых, хто абавязаны іх выконваць, выкуп гэты павінен вытварацца або ў памеры ў трыццаць разоў большым за гадавы прыбытак, які прыносілі гэтыя правы, або ў якім-небудзь іншым памеры, які ўстаноўлены і прызнаецца Нацыянальным соймам справядлівым на падставе дадзеных яму разрахункаў для кожнай провінцыі паасобку.

Разам з тым Нацыянальны сойм пастанаўляе, што паказаныя вышэй правы павінны строга ахоўвацца і дакладна выконвацца на-

перад да поўнага іх выкупу, падобна да таго, як гэта рабілася дагэтуль.

### № 5. Марат аб здарэньнях 4 жніўня.

Сэнс здарэньняў 4 жніўня, які быў пазьней так зацямнёны і ўпрыгожаны буржуазнымі гісторыкамі, яшчэ ў 1789 г. правільна ўразумеў адзін з правадыроў парыскай беднаты Марат, які проста назваў усе гэтыя гучныя фразы хлусьнёй. Такім чынам, рэвалюцыйныя масы ў той час добра ведалі цану ўсім абяцанкам кіруючых клясаў. Вось што пісаў адносна гэтага Марат у сваёй газэце „Друг народа“.

... Калі гэта ахвяра прадыктавана духам чыстай міласэрнасьці, дык, трэба прызнацца, доўга жа прышлося чакаць, пакуль ён ня выявіўся. Сапраўды, толькі убачыўшы полымя сваіх палаючых палацаў, яны знайшлі ў сабе неабходную вялікасьць духу для таго, каб адмовіцца ад сваёй прывілеі трымаць у аковах людзей, якія са зброяй у руках заваявалі сабе свабоду. Толькі ўбачыўшы абурэньне, якое спаткала вымагальнікаў, скурадзёраў і абаронцаў дэспотызму, яны, нарэшце, знайшлі ў сябе вялікадушша адмовіцца ад сваіх пазямельных дзесяцін і ўстрымацца ад прад'яўленьня далейшых патрабаваньняў да няшчасных, якія ледзь маглі цягнуць сваё існаваньне. Толькі пачуўшы імёны выгнаных, і даведаўшыся аб тым лёсе, які чакае іх, яны згадзіліся ўчыніць міласьць: дапусьціць скасаваньне іх выключнага праву на паляваньне і зрабіць ласку, каб далей нават жывёлы ўжо не пажыралі нас... Да і якія на самай справе памеры гэтых ахвяр? Ці я павінен яшчэ дагаварваць, што яны ў большай частцы ілюзійныя? Ці будзе сапраўдным, рэальным зьнішчэньне ўсіх прывілей, якія абвяшчаюцца надпісам на проэктаваных мэдалях, калі закон аб сэньёрыяльных, земляўласьніцкіх і фэодальных правох скажа нам толькі, што гэтыя правы могуць быць выкупленыя? Што-ж датычыцца скасаваньня праў мёртвай рукі і іншых фэодальных правоў, якія дагэтуль клаліся на асобу—гэтых жудасных злоўжываньняў, якія пакрываліся ганаровым імем права,—дык гэтыя правы ўсё роўна павінны пасьці, як толькі будзе ўхвалены асноўны конституцыйны закон, які абвяшчае асабістую свабоду кожнага грамадзяніна...

Г. Кунов.—Борьба классов и партий в Великой французской революции).

### № 6. Дэклярацыя правоў чалавека і грамадзяніна.

Ня гледзячы на ўсю адцягнёнасьць формы, „Дэклярацыя правоў“ была тыповым ідэолёгічным продуктам свайго часу (грамадзкіх суадносін 89 г.). Свае агульныя прынцыпы яна пачарпнула часткова з вучэньня Русо і Монтэск'е, часткова з тых дэклярацый правоў, якія былі напярэднікамі конституцый паасобных паўночна-амэрыканскіх калёній, складзеных пасьля абвяшчэньня іх незалежнасьці ад Англіі. Нягледзячы на свой рэспубліканскі дух, „Дэклярацыя“ мела на мэце свайго роду згоду ці дагавор з старой уладаю: у выпадку злоўжываньняў з боку апошняй, народу даецца „права на супраціўленьне прыгнечаньню“... За пышнымі і ўрачыстымі фразамі „Дэклярацыі“ ня цяжка разглядзець і яе клясавы—буржуазны характар: асаблівая ўвага ў ёй зьвернута на права прыватнай уласнасьці. Гэта будзе

зразумелым, калі прыпомніць, што „Дэклярацыя“ абмяркоўвалася ў канцы жніўня, пад уплывам навін аб масавых адмаўленьнях ва ўплаце павіннасьцяў, у выкупе якіх „па справядлівай ацэнцы“ былі зацікаўлены ня толькі дваране, але і многія буржуа. Наогул, у „Дэклярацыі“ адбіўся страх буржуазіі перад магчымымі новымі выступленьнямі народных мас... „Дэклярацыя“ гаварыла пра „чалавека“, „нацыю“, але пад гэтымі тэрмінамі буржуазная большасьць разумела не чалавека наогул і ня ўвесь народ, а буржуа і „нацыю заможных“... (Лукин.—Новейшая история Зап. Европы). Такім чынам „Дэклярацыя правоў“ робіць спробу фразамі, якія не вызначалі ніякіх абавязкаў, прыцягнуць па бок буржуазіі ўвесь народ, паколькі-ж галоўная ўвага зьвярталася на інтарэсы буржуазіі, то гэты дакумант зьяўляўся ашуканствам народных мас з мэтай адцягнуць іх ад рэвалюцыйнай барацьбы.

---

Прадстаўнікі францускага народу, якія складалі Нацыянальны сойм, прымаючы пад увагу, што няведаньне, забыцьцё або зьнявага правоў чалавека—гэта адзіныя прычыны грамадзкіх бед і псаваньня ўраду,—парашыла скласьці ва ўрачыстым абвяшчэньні адзіныя, неадчужальныя і сьвятыя правы чалавека, каб абвяшчэньне гэтае, будучы заўсёды на ўвазе ўсіх членаў грамадзкага цела бесьперапынна напамінала ім аб іх правох і абавязках; каб дзеяньні ўлады законадаўчай і выканаўчай, якія будуць заўжды параўноўвацца з мэтай усялякага палітычнага вызначэньня праз гэта больш паважаліся; каб патрабаваньні грамадзян, заснованыя з гэтага часу на падставах простых і бясспрэчных, накіраваліся-б заўсёды да падтрыманьня канстытуцыі і да агульнага шчасьця.

У моц гэтага Нацыянальны сойм прызнае і абвяшчае перад тварам і пад абаронай Вышэйшай істоты наступныя правы чалавека і грамадзяніна.

1. Людзі нараджаюцца і застаюцца вольнымі і роўнымі ў правох. Адрозьніваньні грамадзян могуць засноўвацца толькі на падставе агульных інтарэсаў. (Грамадзкая розьніца можа быць заснавана толькі на падставе агульнай карысьці).

2. Мэта ўсякага палітычнага саюзу ёсьць захаваньне натуральных і неадчужальных правоў чалавека. Правы гэтыя ёсьць: свабода, уласнасьць, бясьпека і супраціўленьне ўціску.

3. Прынцып усёй вышэйшай улады істотна належыць нацыі. Ніякая ўстанова, ніякая асоба ня могуць зьдзейсьняць улады, якая ня паходзіць проста ад нацыі.

4. Свабода складаецца з права рабіць усё, што ня шкодзіць другому; такім чынам, карыстаньне кожнага чалавека яго натуральнымі правамі ня мае межаў, акрамя тых, якія забясьпечваюць за іншымі членамі грамады карыстаньне тымі-ж правамі. Гэтыя межы могуць быць вызначаны толькі законам.

5. Закон можа забараніць толькі дзеяньні, шкодныя для грамады. Усё, што не забаронена законам, дазволена, і ніхто ня можа быць прымушаны да таго, чаго закон не загадвае.

6. Закон ёсьць выяўленьне агульнай волі. Усе грамадзяне маюць права асабіста ці праз прадстаўнікоў удзельнічаць у выданьні законаў. Закон павінен быць роўным для ўсіх,—ці мае ён на мэце абарону ці пакараньне. Дзеля таго, што ўсе грамадзяне перад зако-

нам роўныя, яны павінны аднолькава дапушчацца да ўсіх годнасьцяў, месц і грамадзкіх пасад паводле сваіх здольнасьцяй, і бяз іншых адзнак, акрамя ўласьцівай ім добрачыннасьці і талентам.

7. Ніхто ня можа быць абвінавачаны, затрыманы або зьняволен інакш, як у выпадках, вызначаных законам, паводле зацьверджанай формы. Тыя, хто выпрошвае, аддае, выконвае або прымушае выконваць адвольныя загады, належаць пакараньню, але кожны грамадзянін, выкліканы або затрыманы ў моц закона, павінен безадкладна пакарацца: ён робіцца вінаватым, учыняючы супраціўленьне.

8. Закон павінен устанаўліваць кары толькі строга і відавочна неабходныя, і ніхто ня можа быць пакараны інакш, як у моц закона, які ўстаноўлены і агалошаны раней злачынства і які ўжыты законна.

9. Дапушчаецца, што кожны чалавек нявінны, пакуль яго не абвясьціць (на судзе) вінаватым, дык у выпадку неабходнасьці яго арышту ўсякая строгасьць, якая не неабходна для забесьпячэньня (за судом) яго асобы, павінна сурова падаўляцца законам.

10. Вольны абмен думкамі і поглядамі ёсьць адно з самых каштоўных правоў чалавека: кожны грамадзянін можа, значыцца, вольна гаварыць, пісаць, друкаваць, пры ўмове адказнасьці за злоўжываньні гэтай свабодай у выпадках, вызначаных законам.

11. Для гарантыі правоў чалавека і грамадзяніна патрэбна публічная сіла: такім чынам, гэтая сіла ўстаноўлена для шчасьця ўсіх, а не для прыватнай выгады тых, каму яна даверана.

12. Для ўтрыманьня грамадзкай сілы і для выдаткаў адміністрацыі неабходна агульнае абкладаньне: падаткі павінны быць разьмяркованы роўнамерна паміж грамадзянамі адпаведна іх сродкам.

13. Усе грамадзяне маюць права асабіста ці праз сваіх прадстаўнікоў вызначыць неабходнасьць грамадзкіх падаткаў, свабодна згаджацца на іх, сачыць за іх ужываньнем, устанаўліваць іх памеры, падставы раскладкі, спосаб спагнаньня і тэрмін.

14. Грамадзтва мае права патрабаваць справаздачы ў кожнага публічнага агэнта сваёй адміністрацыі.

15. Кожная грамада, у якой не забясьпечана гарантыя правоў і не ўстаноўлена падзелу ўладу, ня мае конституцыі.

16. Уласнасьць ёсьць непарушнае і сьвятое права і таму ніхто ня можа быць пазбаўлены яе, акрамя тых выпадкаў, калі таго відавочна патрабуе грамадзкая неабходнасьць, законна пасьведчаная і пры умове справядлівай і папярэдняй узнагароды.

(Я. И. Каров.—История Западной Европы в новое время).

**№ 7. Закон адносна сходаў рабочых і рамесьнікаў аднаго стану і аднэй і тэй самай профэсіі.**

Арт. 1. З прычыны таго, што зьнішчэньне ўсякага роду корпорацый грамадзян аднаго і таго-ж стану ці аднэй і той самай профэсіі зьяўляецца асновай французскай конституцыі, забараняецца аднаўляць гэтакія з якой бы то ні было прычыны і ў якой бы то ні было форме.

Арт. 2. Грамадзяне аднаго і таго-ж стану ці аднэй і той самай профэсіі, прадпрыемцы, гандляры, рабочыя і падмайстры якой бы то ні было профэсіі ня маюць права, сыходзячыся разам, абіраць старшыню, сакратара, сындыка, а роўна і весьці пратаколы, прымаць рашэньні і пастановы, складаць рэгляманты датычныя іх так званых агульных інтарэсаў.

Арт. 3. Муніцыпальным і адміністрацыйным органам забараняецца прымаць якія-б то ні было адрасы ці пэтыцыі ад імя якой-небудзь профэсіі, а таксама адказваць на падобныя звароты; ім прадпісваецца абвяшчаць несапраўднымі пастановы, якія маглі быць вынесены такім спосабам, і пільна сачыць за тым, каб такія заявы ня мелі ніякіх вынікаў у сэнсе выкананьня.

Арт. 4. Калі, проці прынцыпаў свабоды і канстытуцыі, грамадзяне, зьвязаныя паміж сабой агульнай профэсыяй ці рамяством, прымуць рашэньне ці ўступяць у згоду, накіраваную да таго, каб разам адмовіцца ад працы, ці прымаць работу, якая патрабуе прыстасаваньня іх майстэрства, толькі па пэўнай цане,—дык падобныя пастановы і рашэньні, незалежна ад таго, была прысяга або не, абвяшчаюцца супярэчнымі констытуцыі, супраціўнымі свабодзе і дэкларацыі правоў чалавека і лічацца несапраўднымі. Адміністрацыйныя і муніцыпальныя органы павінны абвяшчаць аб іх несапраўднасьці.

Пачынальнікі, правадыры і падбухторшчыкі, якія выклікалі падобныя пастановы, а таксама займаўшыя месцы старшынь і рэдагаваўшыя тэксты пастаноў, перадаюцца, па заяве пракурора камуны, паліцэйскаму суду і прысуджаюцца да штрафу ў 500 ліўраў кожны з пазбаўленьнем на год правоў актыўных грамадзан і з забаронай права ўваходу на першаістыя сходы.

Арт. 5. Усім адміністрацыйным і муніцыпальным органам забараняецца пад страхам асабістай адказнасьці іх членаў наймаць ці згаджацца на ўдзел у грамадзкіх працах тых прадпрыемцаў, рабочых і падмайстроў, якія выклікалі ці падпісалі вышэйпамянёныя пастановы і згоды. Забарона гэта траціць моц толькі ў тым выпадку, калі вінаватыя па ўласнаму жаданьню зьявяцца ў канцэлярыю паліцэйскага суду для заяўленьня аб адмове ад сваёй формы дзеяньняў.

Арт. 6. Калі азначаныя вышэй пастановы ці згоды, агалошаныя шляхам расклейкі ці раздачы аб'яў, будуць зьмяшчаць пагрозы супроць прадпрыемцаў, рамесьнікаў, рабочых ці іншагародніх падзёньнікаў, якія прыходзяць працаваць у гэтую мясцовасьць, ці супроць тых, якія згадзіліся-б задавольвацца больш нізкай заработнай платай,—усе пачынальнікі, падбухторшчыкі, а таксама ўсе, падпісаўшыя падобныя акты і дакуманты, прысуджаюцца да штрафу ў 1.000 ліўраў і трохмесячнаму турэмнаму заключэньню.

Арт. 7. Тыя, хто шляхам пагроз і гвалту зробяць замах на рабочых, парушаючы тым самым устаноўленую констытуцыйнымі законамі свабоду промыслаў і працы, будуць прыцягвацца да адказнасьці крымінальным шляхам па ўсёй строгасьці законаў, як парушыцелі грамадзкага пакою.

Арт. 8. Усякага роду сходы рабочых, рамесьнікаў, падмайстроў і падзёньнікаў, накіраваныя супроць вольных заняткаў прамысловай

працай на падставе вольнай згоды, ці накіраваныя супроць дзеяньняў паліцыі ў сэнсе выкананьня судовых прысудаў, якія датычацца такога роду спраў, а таксама супроць публічных таргоў і здачы падрадаў на розныя прадпрыемствы, будуць лічыцца мяцежнымі сходамі і, як гэтакія, будуць разганяцца прадстаўнікамі дзяржаўнай улады пасьля атрыманьня імі адпаведных законных патрабаваньняў. Пачынальнікі, падбухторшчыкі і правадыры вышэйпаказаных сходаў, а таксама выкрытыя ў самаўпраўстве і гвалтоўных учынках, належаць пакараньню па ўсёй строгасьці законаў.

(Е. В. Тарле.—„Рабочий класс во Франции в эпоху революции“, т. I, ст, 183-184).

## 8. Пэтыцыя 17 ліпеня 1791 г.

Рашэньне Устаноўчага сойму, якое апраўдвала Людовіка XVI і ўсклала ўсю адказнасьць за яго ўцёкі на яго прыбліжаных, толькі ўзмацніла абурэньне ўсіх сапраўды дэмократычных элемэнтаў краіны. Прыкладам настрою гэтых апошніх можа служыць пэтыцыя, якая складзена клюбам кордэльераў і якую падпісвалі на Марсавым полі 17 ліпеня 1791 г.

Прадстаўнікі нацыі!

Вы канчалі свае работы; абраныя народам, вашы намесьнікі павінны былі неўзабаве пайсьці па вашаму шляху, не сустракаючы пры гэтым тых перашкод, якія ставілі перад вамі дэпутаты двух прывілейных станаў, гэтыя натуральныя ворагі ўсіх прынцыпаў сьвятой роўнасьці. Але вось адбываецца вялікае злачынства: Людовік XVI уцякае; ён ганебна пакідае свой пост; дзяржава на краі анархіі. Народ затрымлівае яго ў Варэньне; яго прывозяць у Парыж. Жыхары гэтай сталіцы настойліва просяць вас нічога не рашаць адносна лёсу вінаватага, ня выслухаўшы папярэдне жаданьня астатніх 83 дэпартамэнтаў. Вы марудзіце; сойм атрымлівае мноства адрасаў; усе сэкцыі дзяржавы адначасова патрабуюць суда над Людовікам. Але вы, паны, ужо, здаецца, парашылі, што ён нявінны і недатыкальны, абвясьціўшы вашым учарашнім дэкрэтам, што яму прапанована конституцыйная хартыя пасьля таго, як будзе закончана конституцыя. Законадаўцы! Ня гэтакія жаданьні народа, а мы думаем, што найвялікшая для вас слава, нават ваш доўг зьмяшчаецца ў тым, каб служыць арудзьдзем грамадзкай волі. Напэўна, вас, панове схілілі да прыняцьця гэтага рашэньня тыя шматлікія дэпутаты-здраднікі, якія раней абвясьцілі свой протэст супроць якога-б там ні было віду констытуцыі. Але вы, панове, зьяўляючыся прадстаўнікамі вялікадушнага і даверлівага народу, не забывайцеся пра тое, што гэтыя 230 протэстуючых *) ня маюць больш права голасу ў Нацыянальным сойме, у выніку чаго дэкрэт не сапраўдны ні па форме, ні па зьмесьту; несапраўдны па зьмесьту, таму што ён супярэчыць жаданьню сувэрэна; несапраўдны па форме, бо вынесены 290 індывідуумамі, якія ня мелі на гэта адпаведнага права. Выказаныя меркаваньні, інтарэсы агульнага добрабыту, настойлівае жаданьне ўнікнуць анархіі, якая

*) Дэпутаты правай, заявіўшыя пасьля арышту караля ў Варэньне, што яны ня будуць больш прымаць удзел у працы сойму.

можа ўзьнікнуць у выніку адсутнічаньня гармоніі паміж абранымі і выбіральнікамі,—усё гэта прадпісвае нам патрабаваць ад імя ўсёй Францыі зноў пераглядзець гэты дэкрэт, прыняўшы пры гэтым да ведама, што злачынствы Людовіка XVI давадзена, і што гэты кароль адмовіўся ад прастолу. Мы патрабуем прызнаньня яго выраканьня і скліканьня новага ўстаноўчага органу для таго, каб прыступіць са праўды нацыянальным чынам да суду над вінаватым і асабліва да арганізацыі новай выканаўчай улады.

(Я. Захер.—„Французская революцыя в документах", ст. 87-83).

### № 9. Дэкрэт Устаноўчага сойму 18 ліпеня 1791 г.

Падпісаньне пэтыцыі 17 ліпеня закончылася, як вядома, крывавай бойняй на Марсавым полі, наладжанай улюбёнымі гэроямі буйной буржуазіі—мэрам Парыжа Бальі і галоўнакамандуючым нацыянальнай гвардыяй Лафайэтам. Усьлед за гэтым пачаліся шалёныя ганеньні ўсіх сапраўдна-рэвалюцыйных дзеячаў і ўстанавілася страшэнная рэакцыя, якая паперш за ўсё выявілася ў дэкрэце Канстытуанты ад 18 ліпеня.

Арт. 1. Усе асобы, вінаватыя ў падбухторваньні к забойству. падпалу, рабаваньню ці непаслушэнству закону праз адозвы, афішы, надрукаваньне ці распаўсюджваньне друкаваных твораў, гэтак і праз прамовы ў грамадзкіх мясцох ці сходах. будуць разглядацца як мяцежнікі; паліцэйскія чыноўнікі абавязаны іх арыштоўваць на месцы і накіроўваць у суды, дзе яны панясуць законнае пакараньне.

Арт. 2. Кожны чалавек, які пры згрупаваньні народу ці ў часе мяцяжу ўзьніме крык, заклікаючы да забойства, будзе пакараны трыма гадамі катаргі, калі забойства ня мела месца. У выпадку-ж, калі злачынства адбылося, ён будзе разглядацца як супольнік. Усе, хто будзе пры гэтым здарэньні, абавязаны садзейнічаць і дапамагчы пры затрыманьні злачынца.

Арт. 3. Усякія заклікі, накіраваныя супроць нацыянальнай гвардыі ці ўрадавай асобы ў часе выкананьня іх службовых абавязкаў, якія маюць на мэце прымусіць іх паступіцца або скласьці зброю, будуць разглядацца як мяцеж і будуць карацца зьнявальненьнем на тэрмін да двух гадоў.

(Я. Захер.—„Французская революция в документах". Ст. 88).

### № 10. Змоўная дзейнасьць сьвяшчэньнікаў.

...Нацыянальны сойм, якому неабходна заняцца важнымі справамі, прыцягваючымі яго ўвагу, дзеля ўстанаўленьня фінансавай сыстэмы, на жаль, быў прымушаны, перш за ўсё, зьвярнуць увагу на непарадкі, якія вядуць да расстройства ўсіх грамадзкіх спраў, перашкаджаючы хуткай раскладцы падаткаў і іх мірнаму спагнаньню.

...Усходзячы да крыніцы гэтых непарадкаў, ён чуў ад усіх адукаваных грамадзян дзяржавы адзінагалоснае выражэньне той вялікай ісьціны, што рэлігія служыць для ворагаў канстытуцыі толькі повадам, якім яны злоўжываюць, і зброяй, якой яны адважваюцца карыстацца для таго, каб ствараць замяшаньні на зямлі ў імя неба.

...Іх таемныя злачынствы лёгка ўхіляюцца ад звычайных мер, якія не закранаюць тых патаемных цэрамоній, якімі прыкрываюцца іх змовы і дзякуючы якім яны нябачна пануюць над сумленьнем людзей.

...Ужо час, нарэшце, расьсеяць гэты змрок для таго, каб магчыма было адрозьніць мірнага і шчырага грамадзяніна ад буйнага сьвяшчэньніка і зламысьніка, які шкадуе аб папярэдніх злоўжываньнях і няздольнага даравäць рэвалюцыі іх зьнішчэньня.

...Гэтыя матывы настойліва патрабуюць, каб законадаўчы корпус прыняў важныя палітычныя меры для ўсьмірэньня мяцежнікаў, якія прыкрываюць сваю змову сьвяшчэнным пакрыцьцём.

(Жан Жорэс.—„Законодательное собрание“, ст. 74—77).

## № 11. Жырондыстыя аб вайне.

...На працягу апошніх шасьці месяцаў і нават спачатку рэвалюцыі я абдумваў погляд, якога і прытрымліваўся, але няўдалыя махінацыі нашых супраціўнікаў прымусяць мяне ад яго адмовіцца. Сілай меркаваньняў і фактаў я пераканаўся ў тым, што народу, які заваяваў пасьля адвечнай няволі свабоду, патрэбна вайна. Яна патрэбна для замацаваньня свабоды, для ачысткі яе ад загонаў дэспатызму, для вызваленьня яе людзей, якія могуць сказіць. Дзякуйце неба за яго клопаты аб ёй, за тое, што яно дало вам час выпрацаваць вашу констытуцыю! Вы павінны пакараць мяцежнікаў, у вас ёсьць для гэтага даволі сілы, прымеце-ж гэта рашэньне. Я шчыра паважаю прастыя і патрыотычныя намеры тых, хто падтрымлівае тут думку, процілеглую маёй, але я заклікаю іх абмеркаваць мае довады і абвергнуць іх. Калі я памыліўся—я буду абараняць іх погляд у Нацыянальным сойме; але калі памыляюцца яны, я абавязваюся разьбіць усе да адзінага іх супярэчаньні. Усе дэпутаты, якія тут прысутнічаюць, павінны адчуваць тое самае; якое было-б няшчасьце, калі-б нашы думкі разышліся па пытаньню, ад якога залежыць шчасьце Францыі! У працягу двух гадоў Францыя вычарпала ўсе сродкі для мірнага звароту мяцежнікаў; але ўсе спробы, усе просьбы былі бескарысныя; яны працягваюць свой мяцеж, а чужаземныя князі ўсё падтрымліваюць іх, Ці можна хістацца ў нападзе на іх? Наш гонар, вера, выказаная вам народам, неабходнасьць ушляхетніць і замацаваць нашу рэвалюцыю—усё загадвае нам гэта...

(Я. Захер.—„Французская революция в документах“, ст. 98).

## № 12. Якобінцы аб вайне.

...Ці можна з такой лёгкадумнасьцю разважаць аб справах дзяржаўнай важнасьці? Перш, чым ударацца ў палітыку эўропейскіх дзяржаў і манархаў, пачнеце з абгляду нашага ўнутранага становішча! Аднавеце парадак у сябе, перш чым несьці сьцяг свабоды ў іншыя краіны! Але вы запэўняеце, што гэтыя клопаты не павінны нават вас датыкацца, як быццам звычайныя правілы здаровага розуму ня створаны для вялікіх палітыкаў. Аднавіць парадак у фінансах, спыніць рабаваньне іх, узброіць народ і нацыянальную гвардыю ажыцьцявіць усё, забароненае дагэтуль урадам, каб не сьцерагчыся

ні нападу нашых ворагаў, ні міністэрскіх інтрыг, ажывіць добрымі законамі, якія падтрымліваюцца энэргіяй, павагаю, мудрасьцю, дух грамадзкасьці і агіднасьць да тыраніі, якія адзіна могуць зрабіць нас непераможнымі для нашых ворагаў—усё гэта недарэчныя ідэі! Вайна, вайна, толькі гэтага патрабуе двор; гэта рашэньне вызваляе ад усіх далейшых клопат, і для народу будзе зроблена ўсё, толькі мы абвясцім вайну. Вайна супроць тых, хто можа быць асуджаны судом нямецкіх князёў; вера, пашана ўнутраным ворагам! Але, аднак, што я кажу?

... У часе пазамежнай вайны, як я ўжо казаў, народ, адцягнены ваеннымі здарэньнямі ад політычных пытаньняў, якія датычацца істотных асноў яго свабоды, зьвяртае менш сур'ёзную ўвагу на цёмныя ўчынкі інтрыганаў, якія падточваюць гэту свабоду , а таксама на слабасьць ці сапсаванасаць не абараняючых народ прадстаўнікоў.

... Вайна выгадна для ваенных ганарліўцаў, ажыацэраў, якія спэкулююць на такога роду здарэньнях; яна пажадана для міністраў, дзеяньні якіх пакрываюцца дзякуючы ёй больш густым і амаль сьвятым пакрыцьцём: яна патрэбна для двара, для выканаўчай улады, аўтарытэт, папулярнасьць і ўплыў якой яна павялічвае; яна прыемна для коаліцыі дваран, інтрыганаў і кіруючых Францыяй памяркоўных. Гэта шайка можа паставіць сваіх герояў і сваіх сяброў на чале арміі; двор можа даверыць дзяржаўныя войскі людзям, якія паслужаць яму пры аказіі, з тым большым посьпехам, што ім будзе створана нешта накшталт рэпутацыі патрыотызму. Яны заваююць сэрцы і даверанасьць салдат для таго, каб мацней прывязаць іх да справы рэалізму і памяркоўнасьці—такі адзіны род спакусы, якога я баюся для салдат; бо не адносна-ж магчымасьці адкрытага і добравольнага дэзэртырства іх ад народнай справы трэба мяне супакойваць! Нават чалавек, якому была-б агідна здрада бацькаўшчыне, можа быць даведзены спрытнымі начальнікамі да пранізваньня мячом грудзей лепшых грамадзян; хлусьлівае прозьвішча рэспубліканца і мяцежніка, прыдуманае сэктай фальшывых ворагаў конституцыі, можа ўзброіць ашуканае нявуцтва супроць справы народу. Зьнішчэньне партыі патрыотаў ёсьць важнейшая мэта ўсіх іх змоў; а калі гэта *партыя зьнікне, дык што-ж застанецца, акрамя няволі?*

... Я зьбянтэжваю нацыю, кажаце вы; не, я адукоўваю яе; адукоўваць вольных людзей—гэта значыць будзіць і адвагу і перашкаджаць таму, каб яна ня стала каменем спатыканьня для свабоды; і калі-б я толькі выкрыў такую колькасьць сілкоў, абверг столькі хлусьлівых ідэй і дурных прынцыпаў, спыніў парываньні небяспечнага энтузыязму, я-б абудзіў дух грамадзкасьці, я паслужыў-бы бацькаўшчыне.

Вы сказалі яшчэ, што я зьняважыў французаў, сумняваючыся ў іх адважнасці і іх любві да свабоды. Зусім не, я не сумняваюся не ў храбрасьці французаў, а баюся вераломства іх ворагаў; няхай на іх адкрыта нападае тыранія— яны застануцца непераможнымі, але супроць інтрыгі—храбрасьць бяссільна..,

(Я. Захер.—„Французская революция в документах", став. 105, 106, 107, 108, 109).

## № 13. Аграрныя законы законадаўчага сойму.

Нацыянальны сойм, прызнаўшы сьпешнасьць, пастанаўляе наступнае:

Арт. 1. Усе вынікі, якія выцякаюць з правіла „Няма зямлі бяз сэньёра“, з церазпалосіцы ўладаньняў, з статутаў, звычаяў і правіл, як агульнага, так і прыватнага характару, што цесна зьвязана з фэодалізмам,—прызнаюцца як бы і ня існуючымі.

Арт. 2. Усякая пазямельная ўласнасьць лічыцца вольнай ад усіх правоў як фэодальных, так і чыншавых да тэй пары, пакуль асобы, якія прэтэндуюць на азначаныя правы, не давядуць адваротнага ў парадку, устаноўленым ніжэй.

Арт. 3. Усе акты аб вызваленьні ад пазямельнай і зьмешанай прыгоннай залежнасьці, і ўсе акты, роўналежныя ім—адмяняюцца і анулююцца. Усе ўстаноўленыя гэтымі актамі плацяжы, дзесяціны і іншыя абавязацельствы, а роўным чынам і прадстаўніцтва ў праве на прыгонны стан адмяняюцца без усялякай узнагароды. Усе спадчынныя маёмасьці, якія ўступаюцца як грамадамі, так і прыватнымі асобамі. пры ўмове вызваленьня ад прыгоннай залежнасьці, якія знаходзяцца дагэтуль у руках былых сэньёраў, належаць звароту тым, хто ім уступіў. Абяцаныя, але ўсё-ж ня выплачаныя былым сэньёрам па тых самых повадах сумы, ня могуць быць узысканы гэтымі апошнімі. . . . . . . . .

Арт. 5. . . . . . . . . Усе наогул сэньёрыяльныя правы як фэодальныя, так і чыншавыя, якія захаваліся папярэднімі законамі ў моцы, ці абвешчаныя імі падлягаючымі выкупу, якая-б ні была іх сутпасьць і найменьне, у тым ліку і тыя, якія маглі быць прапушчаны ў вышэйназваных законах або ў гэтым дэкрэце, а таксама і ўсе плацяжы, уплаты натурай і іншыя абавязацельствы, якія выцякаюць з гэтых правоў—адмяняюцца без усякай узнагароды, калі толькі ня будзе даведзена, што яны маюць сваёй крыніцай першапачатковую ўступку нярухомай маёмасьці. Гэта акалічнасьць можа быць устаноўлена толькі ў тым выпадку, калі пра яго будзе ясна успамінацца ў асноўным акце падарунка маёнтку, у арэндным кантракце або ў чыншавым дагаворы, які павінен быць прадстаўлены ў суд. . . . . . . . . . . . . . ,

Арт. 8. Правы, наяўнасьць якіх будзе ўстаноўлена ў парадку, прадпісаным артыкуламі 5 і 7 *) гэтага дэкрэту, належаць выкупу. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Арт. 10. Нядоімкі па адмененых без узнагароды правох, нават тыя, якія павінны быць унесены на падставе судовых рашэньняў, дагавароў ці згод, не належаць спагнаньню, але плацяжы, ужо вытвараныя, згодна з папярэднімі законамі, ня могуць быць запатрабаваны назад. . . . . . . . . . . . . . . . .

Арт. 17. Гэты дэкрэт не распаўсюджваецца на рэнты, натуральныя падаткі і ўсе іншыя павіннасьці, якія ня зьвязаны з фэодаль-

*) У арт. 7 гутарка ідзе пра пэажы, у адносінах выкупу якіх ўстанаўліваецца правіла, аналёгічнае патрабаваньням арт. 5.

ными правамі і належаць уплаце прыватнымі асобамі прыватным-жа асобам, якія не зьяўляюцца сэньёрамі ці ўласьнікамі ленаў . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .

(Я. Захер.—„Французская революция в документах“, ст, 165-166).

## № 14. Пэтыцыя сэкцыі Гравільө Законадаўчага сойму ад 4 жніўня 1792 г.

Мэр г. Парыжу выклажыў вам учора злачынствы Людовіка XVI. 30.000 грамадзян сэкцыі Гравільө галасавалі зусім сьвядома, тры разы, ва ўсіх выпадках адзінагалосна, за неабходнасьць скіданьня караля. Гэта вотум пацьверджаны ўжо 46 сэкцыямі сталіцы. Повады да скіданьня караля паказаны ў констытуцыі, але там не растлумачана, у якой форме гэта скіданьне павінна мець месца. Па сэнсу констытуцыі, ніякае пакараньне ня можа быць вызначана інакш, як толькі прысудам суду і абвінавачаньне ня можа быць прад'яўлена інакш, як абвінаваўчай камерай. Вы зьяўляецеся гэтым судом і мы просім вас абвясьціць безадкладна, што падставы для прад'яўленьня абвінавачаньняў Людовіку XVI маюцца.

Законадаўцы! Мы прадастаўляем вам яшчэ гонар выратаваць бацькаўшчыну, але калі вы адмовіцеся гэта зрабіць, дык нам прыдзецца самім узяцца за яе вызваленьне.

(Я. Захер.—Французская революция в документах“, ст. 156).

## № 15. Адносіны монтаньяраў да задач рэвалюцыі 19 жніўня 1792 г.

Калі ў канцы ліпеня 1792 году шалёна разьвіваючыся тэмп здарэньняў застаў монтаньярскіх правадыроў неспадзявана і прымусіў іх крыху адстаць ад руху, кіраўніцтва якім перайшло ў рукі сэкцый і рэвалюцыйнай камуны, стварыўшайся ў ноч на 10 жніўня, дык ужо к вечару гэтага дня яны цалкам прызнаюць і вітаюць адбыўшыйся пераварот. *Монтаньярскія правадыры ўваходзяць у склад камуны 10 жніўня, кіруюць яе працай і высоўваюць як асноўныя лёзунгі моманту, патрабаваньне энэргічнай арганізацыі абароны супроць наступаючага супраціўніка і прыняцьця ўсіх захадаў, якія вынікаюць з пераможнай рэвалюцыі 10-га жніўня.*

Генэральны савет камуны паслаў нас да вас па пытаньні, якое датычыцца грамадзкага вызваленьня. Пасьля вялікага акту, якім сувэрэнны народ толькі што заваяваў сабе волю, ня можа існаваць пасярэдніка паміж народам і вамі. Вы ведаеце, што свабода нараджаецца ў выніку распаўсюджваньня адукацыі. Такім чынам, заўсёды кіруйцеся пачуцьцем патрыотызму, якое ўзьняла народ Парыжу і ўсёй Францыі да тэй ступені вялікасьці, на якой ён знаходзіцца; вы можаце, вы нават павінны разумець мову праўды, якой ён будзе гаварыць з вамі вуснамі сваіх дэлегатаў. Мы толькі што гаварылі вам пра дэкрэт, які вы бачылі гэтай раніцай, пра дэкрэт, які датычыцца арганізацыі новай дырэкторыі дэпартаманта. Народ прымушаны сам стаяць на варце ўласнае справы, паклапаціцца аб сваёй бясьпецы праз сваіх ўпаўнаважаных. Народ прымушаны прымаць у вышэйшай ступені рашучыя захады, каб выратаваць дзяржаву; а таму

тыя, каго ён абраў сам у якасьці сваіх чыноўнікаў, павінны мець усю паўнату ўлады, якая ўласьціва сувэрэну; калі вы створаце другую ўладу, якая будзе панаваць ці ўраўнаважваць уладу непасрэдных абраньнікаў народу, дык народная ўлада ня будзе адзінай, і ў вашай адміністрацыйнай машыне будзе існаваць вечны зародак разьяднаньня, якое пародзіць у ворагах свабоды злачынныя надзеі. Народу трэба будзе яшчэ раз узброіцца помстай для вызваленьня ад гэтай разбураючай сілы; у гэтай новай арганізацыі народ бачыць паміж сабой і вамі вышэйшую ўладу, якая, як і раней, будзе толькі перашкаджаць працы камуны. Калі народ вызваліў бацькаўшчыну, калі вы загадалі склікаць Нацыянальны конвэнт, які павінен вас заняніць, што іншае вы павінны рабіць, як не здавальняць народныя жаданьні? Ці вы баецеся спадзявацца на мудрасьць народа, які стаіць на варце вызваленьня бацькаўшчыны, ратаваць якую можа толькі народ? Устанаўліваючы супярэчныя ўлады, вы згубіце бацькаўшчыну; толькі шляхам яднаньня, непасрэдных зносін прадстаўнікоў з народам вы можаце падтрымаць бацькаўшчыну. Калі ласка, супакойце нас адносна гэтай небясьпечнай меры, якая зьнішчыць тое, што зрабіў народ; зрабеце ласку, забясьпечце нам магчымасьць для адратаваньня свабоды. Толькі такім шляхам вы падзеліце славу герояў, якія прысьвяцілі сябе справе вызваленьня чалавецтва. Толькі такім шляхам' напярэдадні сканчэньня сваіх поўнамоцтваў, вы ўнясеце з сабой прыхільнасьць вольнага народу.

Мы заклікаем вас прыняць сур'ёзна пад увагу і зацьвердзіць пастанову, прынятую генэральным саветам парыскай камуны, каб не прыступілі да арганізацыі новай дырэкторыі дэпартаманта.

(Жан Жорэс.—„Конвэнт“, т. I.

### № 16. Адносіны жырондыстых да рэвалюцыі 10 жніўня 1792 году.

У процілегласьць монтаньярам жырондысты ўспрынялі пераварот 10 жніўня без усякай радасьці. Прызнаўшы яго, як адбыўшыйся факт, яны ня толькі ня імкнуліся да паглыбленьня рэвалюцыі, але насупроць, яны яе лічылі скончанай і рабілі ўсё магчымае, каб зьнішчыць практычныя вынікі 10 жніўня. Вельмі характэрна ў гэтых адносінах наступная вытрымка з газэт „Брысо“ і „Французскі Патрыот“ ад 29 жніўня:

...Улада, прызначаная для таго, каб прывясьці палітычную машыну ў рэвалюцыйны рух, павінна лічыць сваю справу закончанай з сканчэньнем гэтага руху, таму што існаваньне гэтай улады павяло-б да дыктатуры, а працяглая дыктатура была-б нічым іншым, як магілай свабоды. Пакуль часовыя камісары Парыскай камуны займаліся толькі тым, што накіроўвалі рэвалюцыю 10 жніўня, шукалі змоўшчыкаў і наглядалі за падазронымі, да тэй пары патрыоты маглі без усякай небясьпекі пакідаць у моцы гэту ўладу, якая, узьнікнуўшы з хваляваньнем, хваляваньнем і скончылася і павінна была ўступіць месца народапраўству. Але калі ўбачылі, як гэтыя камісары працягваюць карыстацца сваёй выканаўчай уладай, як яны ўзурпуюць правы магістратаў, як яны самі распушчаюць і зноў фармуюць установы, распушчаць і фармаваць якія маюць права толь-

кі магістраты, як яны разьмяркоўваюць паміж сабою пасады, якія толькі яны павінны былі замяшчаць, як яны зьмяшчаюць сяброў гарадзкога кіраваньня, якія народам абраны і народам улюбёны, як, нарэшце, яны ствараюць дзеяньні, якія не апраўдваюцца нават акалічнасьцямі,—тады ў добрых грамадзян адкрыліся вочы; яны сказалі сабе, што не для таго яны ў другі раз заваявалі свабоду, каб аддаць яе інтрыганам, і што яны не дапусьцяць, каб на разваліпах каралёўскага і дваранскага абсолютызму ўзьнік новы, яшчэ больш суровы і ненавісны...

(Г. Кунов.—„Борьба классов и партий в Великой французской революции“).

## № 17. Рэвалюцыя 10 жніўня 1792 г.

... Камуна выканала выдатную работу; я не магу паведаміць вам дэталяй. Ачысьціўшыся адным ударам ад сваёй арыстократычнай атруты, яна арганізавалася незалежна ад дэпартамантскай улады; яна разьмеркавала зброю і прыпасы і падтрымлівала выступленьні грамадзян, якіх да гэтага аб'яднала здрада, што кавалерыя, грэнадзёры, ахвотнікі, санкюлоты цяпер браты, якія служаць аднэй і тэй самай грамадзкай справе. Пікі і штыхі заключылі сёньня самы шчыры і самы магутны саюз. Сёньня ўвечары ўсе афіцэры будуць раскасаваны, і з поўдня Сантэрр зьяўляецца галоўнакамандуючым нацыянальнай гвардыяй. *Манюэль* і *Дантон* узялі ў свае рукі грамадзянскую ўладу.

Пэтыон непашкодны з галавы да пят, але слухайце і дрыжэце: кароль учора ў поўнач прызваў яго ў палац, у пяць гадзін раніцы ён яшчэ не зьвяртаўся. Камуна, поўная непакою, пасьпяшыла ў сэнат і дабілася распараджэньня аб выдачы вышэйшага чыноўніка народу. Ён выходзіць разам з маладцамі-брэтонцамі; яго вядуць у ратушу, дзе Манюэль асыпае яго рэзкімі папрокамі за тое, што ён даў утрымаць сябе далёка ад сваёй пасады, і па пастанове камуны ён накладвае на яго дамашні арышт, пад аховай тых жа адважных брэтонцаў (кажуць, што гэтая мера была ўжыта, каб выратаваць яго ад сьмерці і агарадзіць яго ад адказнасьці). Адным словам, яго ў той дзень зачынілі. Сьцьвярджаюць, што яго галава павінна была быць скінута ў народ пры першым залпе швэйцарцаў.

Народ зруйнаваў усё ў палацы. Ён растаптаў усю помпу каралей. Каштоўнейшыя скарбы ляцелі праз вокны, казармы швэйцарцаў былі запалены з усіх чатырох кутоў, чуваць былі крыкі з заклікам зраўнаць палац з зямлёю. Галавы адрубаліся і справа дашла да прыступаў народнай ярасьці, жорсткасьць якой павінна здавацца тым, якія ня могуць унікнуць у сутнасьць справы больш агіднай, чым патончаная цывілізаваная распуста прыдворнай клікі, якая для настрою мэтрэсы або сваволі інтрыгана, ператварае ў прах цэлыя пакаленьні.

Французскі народ перамог у Парыжы Аўстрыю і Прусію. Гэты дзень, які па словах двух ці трох арыстакратаў, якіх я наведала ў іх склепе, павінен быў быццам на крыльлях аднесьці іх у Цюільеры, аддаляе іх ад яго на 10.000 міль. Яны гаварылі таксама, што гэта

паслужыць сыгналам да грамадзянскай вайны, а я лічу, што мы патушылі сёньня сьвечку, якая павінна была запаліць яе.

Людовік XVI фактычна скінуты; ён дапусьціў, што яго прыбліжаныя ўзброіліся супроць яго народу, ён зрабіў больш: ён страляў у яго! Чытайце канстытуцыю..:

(Г. Ландауэр.—„Письма о французской революции“, т. I, выд. „Прометей“, Москва, 1925 г.).

---

ЗАВО ЧНА-КУРСАВЫ СЭКТАР
АДДЗЯЛЕНЬНЯ ДАКАМВУЗАЎСКАЙ ПАДРЫХТОЎКІ.



# ГЕОГРАФІЯ

*Курс вядуць: Т. А. ЕЗАВІТ і М. Т. ЛОЙКА*

## ЗАДАНЬНЕ 2-е.

**(З прадастаўленьнем пісьмовае працы на рэцэнзію).**

## Агульны агляд паверхні зямлі.

### УСТУП.

У першым заданьні па географіі было высьветлена пытаньне аб зямлі, як сусьветным целе, і дадзена першае разуменьне аб географічнай карце.

Мэтаю другога заданьня зьяўляецца азнаямленьне з тым, *як разьмешчаны на паверхні зямлі вада і сухазем'е.*

Даволі глянуць на глёбус ці на паўкулі, як адразу кідаецца ў вочы, што вада пакрывае большасьць паверхні зямлі, што толькі каля 30 проц. паверхні прыходзіцца на сухазем'е. Сухазем'е выступае з вады вялікімі *вostравамі* (востравам завецца сухазем'е абкружанае з усіх бакоў вадою), якія завуць *матэрыкамі.* Матэрыкі падзяляюць абшары вады на часткі—*акіяны,* На карце яскрава відаць што берагі (месца, дзе сухазем'е мяжуецца з вадою) сухазем'я няроўныя, што яны зрэзаны акіянамі. Акіяны ўтварылі каля берагоў сухазем'я *моры, затокі, пратокі,* Ад матэрыкоў і акіянаў высоўваюцца выступы ці *паўвастравы.* Каля берагоў матэрыкоў па вадзе раскідауы невялікія кавалкі сухазем'я—*востравы.* Востравы сустракаюцца і далёка ад берагу, сярод акіянаў.

У гэтым заданьні прыдзецца вывучыць і запамятаць назву і месцазнаходжаньня на карце *матэрыкоў, акіянаў, галоуных мораў, затокаў, пратокаў, паўвастравоў, вастравоў, перашэйкаў.*

Вывучэньне карты пры прахаджэньні географіі мае вялікае значэньне. Бяз веданьня карты нельга ведаць географію.

Наша парада, як вывучаць карту. Чытаючы наш дапаможны матар'ял, або падручнік, неабходна ўсе географічныя назвы, які сустракаюцца ў падручніку, абавязкова знаходзіць на карце. Добра географічныя назвы выпісваць у сшытак і праглядзець іх некалькі разоў на карце, каб чытаючы артыкул і сустракаючы гэтыя назвы, мець уяўленьне аб месцызнаходжаньні іх иа карце. Вельмы карысна мець контурныя карты для надпісу на іх географічных назваў пасьля азнаямленьня з гэтымі назвамі па друкаванай карце. Пры такім спосабе работы, калі ў працы прымаюць удзел, акрамя вачэй, слуху і рукі, вывучаемы матар'ял хутчэй і лепш запамінаюцца,

Заданьне раім распрацаваць па наступнаму пляну:

1. Суадносіны між вадою і сухазем'ем на паверхні зямлі.

2, Акіяны і іх часткі.

3. Часткі сухазем'я.

### Літаратура і дапаможнікі:

1. Вучэбна-дапаможны матар'ял у канцы заданьня

2. „Географический атлас в 16 таблицах под редакцией Шокальскаго"—карты на стар. 2, 3. 4, 5, 6, 9. 10, 11.

3. Контурная карта ўсіх частак сьвету ў мэркартарскай праэкцыі і паасобныя карты частак сьвету.

Пажаданая літаратура—кніга Я. І. Руднёва: „Начальные сведения по географии", стар. 73 да 94.

УВАГА. На атлясе Шокальскага просьба абазначыць старонкі. Усяго ў ім старонак 16. Старонкі неабходна абазначыць з тае прычыны, што яны не абазначаны, а ў заданьнях для працы прыходзіцца вызначаць карту на тэй ці іншай старонцы.

## Мэтодычныя парады да самастойнай распрацоўкі.

### Да разьдзелу І-га пляну—суадносіны між вадою і сухаземьем на паверхні зямлі.

Мэта першага разьдзелу вывучыць карту *матэрыкоў, частак сьвету і акіянаў.* Для гэтага перш за ўсё неабходна па вучэбна-дапаможнаму матарыялу прачытаць стацьцю: „Сухазем'е і мора". Разам з тым неабходна па атлясу Шокальскага раскрыць карту паўкульляў (стар. 3, 2). На паўкульлях знойдзеце матэрыкі, часткі сьвету і акіяны, аб якіх ідзе рэч у стацьці. На карце паўкульляў не падпісаны Суэцкі, Панамскі перашыйкі (перешейкі) і Магеланава пратока (пролів). Надпісы іх ёсьць у атлясу на стар. 8, 9, 10, дзе зьмешчаны паасобныя часткі сьвету. Пасьля распрацоўкі стацьці, назвы матэрыкоў, частак сьвету. акіянаў запішэце на контурнай карце ўсіх частак сьвету ў мэркартарскай праэкцыі.

#### Пытаньні для самаправеркі.

1. Паміж якімі часткамі сьвету ляжыць Вялікі акіян?

2. Паміж якімі часткамі сьвету ляжаць Атлянтычны і Індыйскі акіяны.

3. Праз які акіян трэба плыць, каб папасьці па самаму кароткаму шляху: а) з Эўропы ў Амэрыку, б) з Азіі ў Амэрыку, в) з Аўстраліі ў Афрыку.

4. На контурнай карце адзначце наш Саюз, для чаго сярод таго месца, дзе знаходзіцца наш Саюз, пастаўце назву СССР.

5. У якіх цёплавых паясох ляжыць кожная частка сьвету?

6. Яякімі акіянамі і з якіх краёў (усходу, захаду і г. д.) абмываецца Амэрыка, Азія?

5. Што завецца востравам, архіпэлягам?

**Да разьдзелу II—акіяны і іх часткі.**

У другім разьдзеле неабходна вывучыць карту *мораў, затокаў* (заливов), *пратокаў* (проливов) і распрацаваць такія пытаньні:

1. Якія бываюць берагі па свайму абрысу і якое гаспадарчае значэньне мае зрэзанасьць берагоў морам?

2. Глыбіня і дно акіянаў і мораў?

3. Якасьці морскае вады.

4. Рухі морскае вады і іх гаспадарчае значэньне.

5. Значэньне акіянаў і мораў.

У матэрыяле да I-га разьдзелу мы бачылі, што берагі сухазем'я няроўныя, што яны зрэзаны вадою акіянаў і мораў. Акіяны, урэзваючыся ў сухазем'е, утвараюць у берагоў выразы ці выемкі, якія завуцца *морамі, затокамі, бухтамі, губамі. Моры* гэта ёсьць часткі акіянаў, якія далёка высоўваюцца ў сухазем'е, напрыклад, Балтыцкае мора ў берагоў Эўропы (глядзі карту). У назвах паміж морамі і затокамі няма строгага вызначанай розьніцы. Вялікія акіянскія затокі завуць часта і затокамі і морамі (напрыклад, Біскайская затока і Біскайскае мора ў берагоў Эўропы). Затоку Чорнага мора — Азоўскае мора—завуць морам, а затоку Балтыцкага мора — Батніцкую завуць затокаю, хоць яна па велічыне будзе большаю за Азоўскае мора (глядзі карту). *Бухтамі* завуць невялікія затокі. *Губамі* звычайна завуць затокі палярных мораў, напрыклад, Вобская губа—затока Карскага мора і г. д. Вадзяныя абшары мораў, акіянаў часта злучаюцца палосамі вады ці *пратокамі*, якія бываюць рознае шырыні. Напрыклад, Міжземнае мора з Атлянтычным акіянам злучаны Гібралтарскаю пратокаю. Часта моры і акіяны злучаюцца канавамі, пракопанымі людзьмі, напрыклад, Суэцкая канава злуча Міжземнае (Средиземное) мора з Чырвоным (Красным) морам. Для вывучэньня карты галоўных мораў, затокаў, пратокаў раім прарабіць наступную працу:

1) Вызначаныя ў табліцы, якая зьмешчана ў вучэбна дапаможным матэрыяле, назвы мораў, затокаў, пратокаў знайдзеце на фізычных картах атлясу Шакальскага—Эўропа, Азія, Амэрыка—Паўночная і паўднёвая, Афрыка, Аўстралія (стар. 4, 6, 8, 9, 10, 11).

2) Пасьля—гэтыя-ж моры, затокі, пратокі знайдзеце на карце паўкуляў—стар. 2, 3 і падпішэце на контурных картак спачатку кожныя часткі сьвету паасобку, а потым па контурнай карце ўсіх частак сьвету.

Зрэзанасьць берагоў морам мае вялікае гаспадарчае значэньне. Возьмем, напрыклад, Эўропу. Берагі яе зрэзаны морам. Яны даступны для караблёў, бо ў берагоў Эўропы многа бухтаў—невялічкіх затокаў, дзе лёгка будаваць гавані, прыстані (месцы для стаянкі караблёў). Ні адна частка Эўропы не ляжыць далёка ад мора, а гэта стварае добрыя ўмовы для зносін народаў, якія жывуць у Эўропе, бо вадзяныя зносіны самыя танныя. Ня тое мы бачым, паглядзеўшы на берагі, напрыклад, Афрыкі. Бераг гэтае часткі сьвету роўны, мала прыступны, бо мора ня зрэзала яго. Паасобныя часткі Афрыкі далёка ляжаць ад мора. Усё гэта разам узятае складае тое, што Афрыка доўга зьяўлялася недасьледванай часткай сьвету. Адносна морскіх берагоў раім прачытаць стацьцю ў дадатковым матар'яле: „Морскія берагі“.

Зразумець пытаньне адносна глыбіні акіянаў, мораў, а таксама адносна выгляду іх дна і якасьці морскае вады лсгка, прачытаўшы ў дадатковым матар'яле стацьці: 1) глыбіні і дно акіянаў і мораў, 2) „Морская вада“.

Цяжэйшым зьяўляецца пытаньне адносна рухаў морскае вады. Акрамя прапрацоўкі стацьці ў дадатковым матар'яле: „Рухі морскае вады“, неабходна на стар. 2 атлясу разглядзець схэму прыліваў і адліваў. На схэме паказана, у якім палажэньні знаходзіцца зямля, месяц, сонца ў часе найбольшых і найменшых прыліваў. У дадатак к таму, што сказана аб морскіх плынях у дапаможным матар'яле, неабходна запамятаць, што галоўнейшай прычынай морскіх плыняў зьяўляецца вецер і неаднолькавае награваньне вады ў акіянах. Халодная вада заўсёды імкнецца выціснуць і заняць месца цёплае вады. Дзякуючы пануючым паміж тропікамі пасатным вятром, па абапал экватара ўтвараецца магутная цёплая *экваторыяльная плынь,* якая цячэ з усходу на захад і, сустрэўшы на сваім шляху частку сьвету Азію, Амэрыку, адхіляецца на поўнач і поўдня. Адна з ветак экваторыяльнае плыні Г*ольфштром* ад берагоў Амэрыкі адхіляецца і ідзе к берагом Эўропы (глядзі паўкульлі ці глёбус). Гольфшторм, як печ абагравае Зах. Эўропу, робіць яе клімат цяплейшым, мякчэйшым. Дзякуючы Гольфштрому, наш паўночны порт на Паўночным палярным моры—Мурманск ніколі не замярзае, хоць ляжыць ён за палярным колам, у халодным поясе. Наогул морскія плыні робяць вялікі ўплыў на клімат і прыроду тых частак сухазем'я, ля якіх яны праходзяць. З цёплых плыняў карысна запамятаць *Куросіва,* якое цячэ каля берагоў Японскіх востравоў. Вельмі карысна ў падручніку Руднёва разглядзець на 91 стар. карту морскіх плыняў.

Пра значэньне акіянаў і мораў прачытайце стацьцю ў дапаможным матар'яле: „Значэньне акіянаў і мораў“.

**Пытаньні для самаправеркі.**

1. Што завецца морам, затокай, пратокай?

2. Па якіх морах, пратоках ідзе шлях з Нямецкага мора ў Азоўскае? з Азоўскага мора і Індыйскі акіян?

3. Як выехаць з Балтыцкага мора ў Атлянтычны акіян?

4. Пакажэце самыя кароткія морскія шляхі з Ленінграду (бераг Фінскае затокі), у Адэсу (горад на беразе Чорнага мора); з Ленінграду ў Уладывасток (горад на беразе Японскага мора); з Нью-Ёрку (горад у Паўночнай Амэрыцы на беразе Атлянтычнага акіяну), у Архангельск (горад на беразе Белага мора).

5. Што завецца фіёрдамі, шхерамі, рыфамі, дзюнамі?

7. Чаму салёнасьць морскае вады ў розных морах неаднолькава?

8. Ад чаго бывае сьвячэньне мора?

9. Да якое глыбіні ад паверхні мора прыкметны сўтачныя і гадавыя зьмены тэмпэратуры?

10. Якую работу вытвараюць (производят) морскія хвалі (волны) у высокіх і нізкіх берагоў?

11. Чым тлумачацца прылівы і адлівы?

12. Каля берагоў якіх частак сьвету цякуць цёплыя плыні—Гольфштром і Куросіва?

13. Якое значэньне маюць для гаспадаркі прылівы, адлівы і морскія плыні?

4. Якое гаспадарчае значэньне маюць акіяны і моры?

### Да разьдзелу III—часткі сухазем‘я.

Мэта разьдзелу—вывучыць *карту* галоўных *паўвостравоў*, *вастравоў*.

З прычыны таго, што берагі зьяўляюцца агульнай мяжою вады і сухазем‘я, дык выемкам і выступам вады заўсёды адпаведаюць (соответствуют) выемкі і выступы сухазем‘я. Калі бераг сухазем‘я складаецца з аднастайна цьвёрдых горных парод, дык ён будзе мець мала выемак і выступаў, інакш кажучы, такі бераг будзе мала зьвілістым (извилистым). Ён звычайна цягнецца доўгаю сьцяною, аб якую разьбіваюцца морскія хвалі (бераг Афрыкі, Паўднёвае Амэрыкі). Калі цьвёрдыя і мяккія горныя пароды на беразе чаргуюцца, дык такі бераг будзе мець многа выемак і выступаў, бо мяккія пароды хутчэй размываюцца морам, чым цьвёрдыя (вышэй упамінаемыя намі берагі Эўропы, Паўночнае Амэрыкі і Азіі). Выступы сухазем‘я ў мора завуцца *паўвастравамі*. Здараецца, што паўвастравы злучаюцца з матэрыкамі вузкаю палоскаю сухазем‘я. Такая палоска сухазем‘я завецца *перашэйкам*. Напрыклад, Крымскі паўвостраў злучаецца з матэрыком Эўропы *Перакопскім перашыйкам*. Перашыйкі часта злучаюць вялікія абшары сухазем‘я і цэлыя часткі сьвету. Напрыклад, Панамскі перашыек злучае Паўночную і Паўднёвую Амэрыку; Суэцкі перашыек злучае Азію з Афрыкай. Цераз гэтыя перашыйкі ўжо пра-

копаны канавы, каб не аб'яжджаць наўкола Паўднёвай Амэрыкі і Афрыкі, едучы з Антлантычнага акіяну ў Вялікі і Індыйскі акіяны. Што такое вастравы і якія бываюць вастравы гаварылася, калі ішла гутарка пра матэрыкі і часткі сьвету.

Парадак вывучаньня карты паўвастравоў, вастравоў, перашыйкаў мы раім такі, які паказаны намі ў II разьдзеле адноста вывучэньня карты мораў, затокаў, пратокаў.

Літаратура і дапаможнікі да разьдзелу:

1. Табліца паўвастравоў, вастравоў, перашыйкаў у дапаможным матэрыяле.

2. Атляс Шокальскага.—Фізычныя карты на старонках 4, 6, 8, 9, 10, 11, 2, 3.

3. Контурныя карты кожнае часткі сьвету паасобку і карта ўсіх частак сьвету ў мэркартарскай проэкцыі.

4. Пажадана праглядзець географічныя назвы на глёбусе.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

1. Якія паўвастравы знаходзяцца на паўдні Эропы, Азіі; на ўсходзе Амэрыкі; на паўночы і захадзе Эўропы; на ўсходзе Азіі.

2. У берагоў якіх частак сьвету ляжаць вастравы: Сахалін, Японскія, Цэйлон, Сыцылія, Велікабрытанія, Новая Зямля, Нью-Фаўндлэнд Мадагаскар?

3. Якія часткі сухазем'я злучае Панамскі і Суэцкі перашыйкі?

## ЗАДАНЬНЕ ДЛЯ ПІСЬМОВАЙ ПРАЦЫ.

Даць адказ на пытаньні:

1. Па якіх морах, пратоках ідзе шлях з Белага мора ў Азоўскае?

2. Якое гаспадарчае значэньне маюць акіяны і моры?

# Вучэбна-дапаможны матэрыял.

## Да І-га разьдзелу заданьня.

### Сухазем'е і мора.

Разглядаючы глёбус ці карту паўкульляў мы бачым, што сухазем'е складаецца з чатырох вялікіх і значнай колькасьці малых кавалкаў, абкружаных вадою мораў і акіянаў. Малыя кавалкі сухазем'я завуцца *вастравамі*, а вялікія—*матэрыкамі*. Ва ўсходнім паўкульлі знаходзіцца самы вялікі матэрык—*Усходні ці Стары Сьвет*, які завецца так затым, што ён быў вядомы абразованым народам раней іншых матэрыкоў. Усходні матэрык падзяляецца на тры часткі сьвету („Частку сьвету“ ня трэба зьмешваць з „краямі сьвету“ ці краямі

гарызонту) —*Эўропу, Азію і Афрыку.* Мяжа між Эўропай і Азіяй праводзіцца па Уральскіх горах, рацэ Уралу і наўсьцяж (вадоль) паўночнай падэшвы Каўказа ад Касьпійскага мора да Чорнага. Эўропа так шчыльна зьвязана з Азіяй, што зьяўляецца як бы яе паўвостранам. З гэтае прычыны зараз абедзьве гэтыя часткі, бывае, разглядаюць як адно суцэльнае пад назваю *Эўразіі.*

Афрыка злучаецца з Азіяй Суэцкім перашэйкам, цераз які пракопана канава.

*Заходні матэрык складаецца з Паўночнай Амэрыкі і Паўднёвай Амэрыкі,* злучаных *Панамскім перашыйкам,* цераз які ў 1913 г. пракопана канава. Амэрыка—чацьвертая частка сьвету, завецца часта *Новым сьветам,* з прычыны таго, што яна была вынайдзена толькі ў 1492 г. Хрыстафорам Калюмбам.

*Паўднёвы матэрык* ляжыць к поўдню ад экватара і складае пятую частку сьвету—*Аўстралію.* К ёй прылічваюцца пад назваю *Акіяніі* суседнія з Аўстраліяй вялікія вастравы і шмат дробных, расківаных па акіяну на Ўсходзе і на паўднёвым усходзе ад яе. Аўстралія была вынайдзена пазьней Амэрыкі і толькі з канца XVIII стагодзьдзя стала лічыцца асобным матэрыком: пятаю часткаю сьвету.

Да пачатку бягучага стагодзьдзя былі вядомы толькі тры матэрыкі і 5 частак сьвету. Каля паўднёвага полюсу вынайдзены вялікі гарысты матэрык, які зьяўляецца большым ня толькі за Аўстралію, але і за Эўропу. Гэты матэрык лічыцца зараз чацьвертым матэрыком, шостай часткаю сьвету. Завецца ён Антрактыдай ці Паўднёва-Палярнай зямлёю. Антрактыда—бязьлюдна і заўсёды пакрыта сьнягамі і лёдам.

Вастравы прылічваюцца к тым часткам сьвету, к якім яны бліжэй ляжаць.

Наш Саюз ССР знаходзіцца ў Старым Сьвеце і займае ўсходнюю палову Эўропы і паўночную частку Азіі.

Велічыня частак сьвету (з вастравамі): Азія—44 мільёны кв. кілёмэтраў, Амэрыка—каля 43 мільёнаў кв. клм., Афрыка — каля 30 мільёнаў кв. кілёмэтраў, Эўропа—каля 10 мільенаў кв, клм., Антрактыда—14 мільёнаў кв. клм. Велічыня плошчы ўсяго сухазем'я 149 мільёнаў кв. клм.

Усе матэрыкі і вастравы, разам узятыя, складаюць крыху болей аднэй чвэрці часткі ўсяе паверхні зямное кулі, якая займае каля 510 мільёнаў кв. клм.

Амаль тры чвэрці паверхні зямное кулі пакрыта вадою акіянаў і мораў. Усе воды мораў і акіянаў злучаны між сабою і складаюць адзін сусьветны акіян, але па свайму палажэньню яны падзяляюцца на тры акіяны: *Вялікі альбо Ціхі, Атлянтычны і Індэйскі.* Паўночна-Ледавіты акіян зараз завецца Паўночным Палярным морам і лічыцца часткаю Атлянтычнага акіяну. Мяжою між акіянамі Атлянтычным, Індэйскім і Ціхім лічацца мэрыдыяны паўднёвых ускрайкаў Аўстраліі і Паўднёвае Амэрыкі. Самы вялікі акіян—Ціхі, які займае трэцюю частку ўсяе паверхні зямлі, г. зн. больш, чым усё сухазем'е.

Дасканала вызначыць суадносіны плошчы сухазем‘я і мора ўдалося толькі ў бягучым стагодзьдзі, калі была вынайдзена Антрактыда. Ад старажытных часоў да другое паловы XVIII стагодзьдзя людзі былі пераконаны, што сухазем‘я на зямлі шмат больш, чым вады. У часы Калюмба думалі, што акіян займае толькі $^1/_7$ паверхні зямлі. Першае кругасьветнае падарожжа Магелана (1519-1522) ня зьнішчыла гэтае думкі, бо лічылася, што ўся паўднёвая частка Ціхага акіяну занята вялікім матэрыком. Толькі ў XVIII стагодзьдзі пасьля кругасьветнага падарожжа Кука, які вынайшоў усходні бераг Аўстраліі і дасьледаваў паўднёвую частку Ціхага акіяну, людзі ўпэўніліся, што вялікага матэрыка там няма, што моры і акіяны займаюць шмат больш месца, чым сухазем‘е.

Сухазем‘е і вада разьмеркаваны на зямлі вельмі нераўнамерна, у чым лёгка ўпэўніцца, робячы параўнаньне картаў усходняга і заходняга, паўночнага і паўднёвага паўкульляў. У паўночным паўкульлі матэрыкі пашыраюцца, моцна паміж сабою зьбліжаюцца і амаль замыкаюць Паўночнае Ледавітае мора. К поўдню матэрыкі разыходзяцца, звужваюцца і канцы іх падзяляюцца вялікімі абшарамі вады акіянаў. У паўднёвым паўкульлі сухазем‘я разоў у тры менш, чым у паўночным.

У паўночным паўкульлі берагі матэрыкоў больш зрэзаны вадою, чым у паўднёвым паўкульлі. Там больш мораў, затокаў, паўвастравоў і вастравоў. Зрэзанасьць берагоў і блізкасьць матэрыкоў спрыялі разьвіцьцю зносін і гандлю між народамі, якія засялялі паўночнае паўкульле. Вялікіх вастравоў на зямлі мала, а малых сотні тысяч. Усе выспы разам займаюць плошчу (7 проц. сухазем‘я) менш Эўропы. Большая частка плошчы вастравоў прыходзіцца на вастравы, якія ляжаць на поўнач ад Амэрыкі (тут знаходзіцца самы вялікі востраў на зямлі—Грэнляндыя) і паміж Азіяй і Аўстраліяй. Вастравы звычайна цягнуцца ланцугамі, ці ўтвараюць згуртаваньні, якія завуць *архіпэлягамі,* пры чым буйныя вастравы часта бываюць абкружаны дробнымі.

Вастравы, якія аддзяліліся ад суседняга сухазём‘я з прычыны размыва сухазем‘я хвалямі, ці з прычыны апусканьня зямлі, завуцца матэрыковымі. Такога паходжаньня будзе самы вялікі востраў Эўропы—Велікабрытанія, на якім знаходзіцца каралеўства Англія з сталіцаю Лёндан.

Вастравы, якія знаходзяцца далёка ад матэрыкоў, і якія ўтварыліся з прычыны падняцьця морскога дна, *) завуцца акіянічнымі.

(Кніга Я. И. Руднев.—„Начальные сведения по географии“. Издательство Ком. У-та им. Свердлова, Москва, 1930 г.).

*) Аб прычынах падняцьця морскога дна будзе сказана ў далейшых заданьнях.

## Да II-га разьдзелу заданьня.

### Табліца акіянаў, мораў, затокаў, пратокаў.

| Акіяны. | Атлянтычны. | Ц і х і. | Індыйскі. | Паўночна-Палярнае мора. |
|---|---|---|---|---|
| У берагоў якое часткі сьвету і якія ўтварае моры, затокі, пратокі. | ЭЎРОПЫ: Паўночнае ці Нямецкае мора, пратокі—Скагерак, Катэгат, Зунд, Балтыцкае мора з трыма затокамі—Батніцкаю, Фінскаю, Рыскаю. Пратокі—Па-дэ-Кале, Ляманш, Біскайскую затоку, пратоку—Гібралтарскую, моры—Міжземнае, Адрыятычнае, Эгейскае, Дарданэльскую пратоку, Мрамарнае мора, Басфорскую пратоку, Чорнае мора, Керчанскую пратоку, Азоўскае мора. АМЭРЫКІ: Гудзонава затока, Мэксыканская затока, Караібскае мора, Магеланава пратока. | АЗІІ: Бэрынгава пратока, Бэрынгава мора, Ахоцкае, Японскае, Жоўтае, Усходня-Кітайскае моры, Паўднёва-Кітайскае мора, Малакская пратока. АМЭРЫКІ: Каліфорнская затока. | АЗІІ: Бэнгальская затока, Арабійскае мора, Пэрсыдзкая затока, Чырвонае (Красное) мора | АЗІІ: Барэнцава мора, Белае мора, Карскае мора. |

*Уվага:* Моры Касьпійскае і Аральскае хоць і завуцца морамі, але з акіянам ня злучаны і па сутнасьці зьяўляюцца ня морамі, а вялікімі салонымі вазёрамі. Ровень вады Касьпійскага мора ляжыць на 13 мэтраў ніжэй роўня вады акіяну. Малакская пратока злучае Паўднёва-Кітайскае мора з Бэнгальскаю затокаю (на карце не падпісана).

## Да II-га разьдзелу заданьня·

### Марскія берагі.

Граніца паміж сухазем'ем і вадою называецца берагам. Берагавая лінія вельмі зьвілістыя, бо мора акаляючы сухам'е, стварае мноства вялікіх і малых затокаў. Але ступень зьвілістасьці, або зрэзанасьці берагвой лініі ў розных мясцох мораў і акіянаў неаднолькавая: даволі параўняць берагі ўпаўночнай і паўднёвай частках Атлянтычнага акіяну ці ўсходнія і заходнія берагі Ціхага акіяну.

На карце берагі адзначаюцца простымі хвалістымі ці зьвілістымі лініямі, але ў сапраўднасьці кожны бераг зьяўляецца ня лініяй, а больш-менш шырокай паласой, якая належыць і да мора і да сухазем'я і ў розных мясцох неаднолькавая па характару сваёй прыроды. На берагох мы бачым то нізіны, якія часамі заліваюцца вадою, то спадзістыя кручы, якія паступова разбураюцца морскімі хвалямі, а таксама пескавыя бугры, утокі рэк, узьбярэжныя вазёры, мелі, берагавыя вастравы, мысы, бухты і нарэшце, значную колькасьць (за выключэньнем берагоў палярных краін) людзкіх паселішч.

Абрыс і выгляд берагавой паласы няпрыкметна, але нясупынна зьмяняюцца, бо хвалі мора ў адных мясцох разбураюць берагі і ўрываюцца ў сухазем'е, ствараючы бухты, а ў другіх—прыносяць да берагу пясок, нарасьліваюць берагі і ператвараюць берагавыя выймы ў сухазем'е. Акрамя таго, некаторыя часткі берагу павольна апускаюцца, другія падымаюцца.

Галоўныя віды берагоў: берагі высокія і берагі нізкія.

Высокімі берагамі звычайна канчаюцца ў мора горныя вобласьці. Высокі бераг падае ў ваду прыступкамі, спадзістымі схіламі ці стромкімі кручамі, якія іншы раз цягнуцца на вялікую адлегласьць у выглядзе суцэльнай сьцяны. У некаторых мясцох скалістае ўзьбярэжжа бывае зрэзана шматлікімі вузкімі разгалінаванымі затокамі з вельмі высокімі, часта простападнымі берагамі. Такія затокі называюцца фіёрдамі. Перад уваходам у фіёрды расьсеяна мноства скалістых вастравоў і падводных скал, ці рыфаў. Фіёрдамі зрэзаны заходні бераг Скандынаўскага паўвостраву. Да фіёрдаў падобны шхеры ў берагоў Батніцкай і Фінскай затокаў у Фінляндыі.

Мора ў высокіх берагоў звычайна глыбокае. Яго хвалі, удараючыся аб стромкі бераг, паступова яго разбураюць і, зьмяняюць абрыс берагавой лініі. Высокія берагі звычайна больш зьвілістыя і ў іх больш выгодных для стаянкі судоў, абароненых ад ветру бухтаў, чым у нізкіх берагоў.

Берагі Ціхага акіяну ў большай часьці высокія, гарыстыя.

Нізкія ці роўныя берагі звычайна зьяўляюцца краем нізін, якія спушчаюцца да мора. Такія берагі на вялікіх адлегласьцях ёсьць у акіянаў Атлянтычнага, Паўночнага Ледавітага мора і Індыйскага акіяну. Абрысы роўных берагоў просталінейныя ці зьлёгку хвалістыя маюць мала выгодных гаваней; мора тут няглыбокае і багата на мелі.

Дзейнасьць мора ў роўных берагоў пераважна творчая, а не разбураючая. Роўныя берагі складаюцца з прыбітых хвалямі наносаў гліны, пяску, каменчыкаў, чарапашынак і г. д. З гэтых наносаў часамі ствараюцца перад бухтамі даўгія, нізкія косы, у выніку чаго бухты амаль зусім аддзяляюцца ад мора і ператвараюцца ў лягуны.

З цягам часу лягуны перасыхаюць і ператвараюцца ў цьвёрдую зямлю. Лягуны ў берагоў Чорнага мора называюцца ліманамі; гэтым словам таксама называюцца пашыраныя уцокі рэк (Дняпроўскі ліман).

Дзякуючы рабоце хваляў і ветра, на нізінных берагох часта сустракаюцца пескавыя бугры ці ўзгоркі, якія называюцца выдмамі. Сьвежы вецер з мора падхоплівае прыбіты хвалямі да берагу падсохшы пясок і нясе ўнутр краіны. Калі спаткаецца на шляху якаянебудзь перашкода, напрыклад, дрова, куст, камень і г. д., дык пясок каля яе асядае і дае пачатак выдме. З тэй прычыны, што вецер бязупынна здувае пясок з пакатага схілу выдмы, які знаходзіцца з боку мора, на процілеглы, стромкі схіл, дык выдма павольна (ад 1 да 20 мэтраў у год адступае ўнутр краіны, а на яе месцы вырастае другая, трэцяя і г. д., якія рухаюцца за першай. Такім чынам, на беразе зьяўляецца некалькі радоў выдмаў, якія паступова засыпаюць сады, палі, пабудовы, затрымліваюць сток вады ў мора, у выніку чаго зьяўляюцца балоты. Каб затрымаць пяскі выдмаў, на іх разводзяць сасну і іншыя расьліны з даўгімі карэньнямі. Часамі выдмы прыносяць і карысьць, абараняючы нізінныя берагі ад затапленьня морскімі хвалямі.

### Глыбіні і дно акіянаў і мораў.

Правільнае разуменьне аб глыбіні і паверхні морскага дна і прыродзе мора зьявілася толькі з другой паловы мінулага стагодзьдзя, калі была вынайдзена прылада для вымярэньня морскіх глыбінь (глыбокаводны лот) і прылады для дасьледваньня тэмпэратуры, шчыльнасьці, складу морскай вады на рознай глыбіні і для здабычы адкладаньняў, расьлін і жывёл з дна мора,

Дзякуючы шматлікім вымярэньням і дасьледваньням, якія вытвараліся вучонымі і пры пракладцы падводнага тэлеграфу, цяпер маюцца карты морскага дна. На гэтых картах глыбіня адзначаецца афарбоўкай і лічбамі, пры чым месцы з аднальковай глыбінёй часта злучаюцца лініямі. [1])

Матэрыкі абкружаны паласой так званага мора да 200 мэтраў ці матэрыковай мялінай, якая мае розную шырыню. Матэрыковая мяліна канчаецца даволі стромкімі схіламі, а далей ідзе дно глыбокага мора. Па глыбіні першае месца займае Ціхі акіян, дзе знойдзена самая глыбокая западзіна (10 км. к усходу ад Піліпінскіх выстравоў), другое—Індыйскі, трэцяе—Атлянтычны з Паўночным Палярным морам.

---

[1]) Гэтыя лініі называюцца ізобатамі (грэцкае ізос—роўны, батос—глыбіня.

Сярэдняя глыбіня ўсіх акіянаў вызначаецца прыблізна ў 3,5 км, Сярэдняя вышыня сухазем'я—700 м. Самае глыбокае месца ў акіяне перавышае самую высокую гару на зямлі (Эвэрэст—9 км.); але нават гэтая глыбіня не вялікая ў параўнаньні з папярэчнікам зямной кулі. Аб'ём вады ў акіянах вызначаецца ў 1300 мільёнаў куб. км., а аб'ём усяго сухазем'я, якое выступае над узроўнем акіяна, у дзесяць разоў менш. Калі-бу скапалі ўсё сухазем'е і разьмеркавалі-б зямлю па акіянах, дык уся зямная куля пакрылася-б скрозь акіянам глыбінёю каля 2,6 км. Аднак, тоўшча вады ў акіянах мізэрна ў параўнаньні з дыямэтрам зямное кулі: у параўнаньні з зямлёй яна будзе больш тонкай, чым яечная лушпавіна і амаль такая самая, як плёўка вады, якая застанецца на глёбусе пасьля таго, як мы яго апусьцім у ваду.

Моры значна больш мелкія, чым акіяны, але і там сустракаюцца глыбокія месцы, напрыклад, у Чорным моры (да 2,5 км.). Найбольш мелкаводнымі зьяўляюцца: Азоўскае: (самае мелкае), Балтыцкіе і Паўночнае, ці Нямецкае моры. Няглыбокія часьці акіянаў і мелі зьяўляюцца галоўнымі месцамі рыбнай лоўлі.

Паверхня дна акіянаў падобна да паверхні сухазем'я: на морскім дне ёсьць і нізіны і лагчыны, горы і прасторныя роўныя ўзвышшы. На гэтых узвышшах над паверхняй мора ўзьнімаюцца вастравы. Але наогул паверхня морскага дна значна больш аднастойная, чым паверхня сухазем'я, Тлумачыцца гэта тым, што хвалі не разбураюць морскага дна; на глыбіні некалькіх дзесяткаў мэтраў хваляваньне ўжо не адчуваецца,і на дне глыбокага мора воды амаль зусім нярухомыя. Але галоўным чынам няроўнасьці морскага дна нішчацца рэшткамі морскіх жывёл, расьлін і мінэральнымі часьцінкамі, якія бязупынна сыплюцца на дно, пакрываючы яго роўным пластам, яны прасуюцца ціскам вады.

Раней памылкова думалі, што на дне акіянаў знаходзяцца паклады солі, якія робяць морскую ваду салёнай. Дно мелкага мора пакрыта абломкамі разбурэньня берагавой паласы і рачнымі наносамі; раней каменьнямі і галачкай, потым буйным пяском і, нарэшце глеем. Дно глыбокага мора (да 5 т. мэтраў) пакрыта белаватым ці жоўта-шэрым глеем, які стварыўся з шкілетаў водарostaў і дробных вапенных чарапашынак. З прычыны таго, што ў вялізарным ціску чарапашынкі распускаюцца ў морскай вадзе, на самых вялікіх глыбінях дно складаецца з глiністага чырвонага глею, які стварыўся з атмасфэрнага пылу.

Для падводных расьлін, як і для надземных, неабходны сьвет, таму на глыбіні 200 мэтраў падводная расьлінасьць зьнікае, бо на такую глыбіню сонечны сьвет ужо не даходзіць,

## Морская вада.

Морская вада мае горка-салёны смак і ня прыгодна для піцьця, бо ў ёй маецца павараная і горкія солі (магнэзія), у адкрытым акіяне на 109 кг. вады прыходзіцца ў сярэднім $3^1/_2$ кг. солі (3,5 проц.). Але салёнасьць морскай вады на паверхні акіянаў і ў розных морах неаднальковая, у гарачым поясе, дзе бывае значнае выпарэньне вады,

салёнасьць вышэйшая, чым у халодных паясох, У морах, якія атрымліваюць шмат прэснай вады ад рэк і сьнягоў, што растаюць, напрыклад, Балтыцкім, салёнасьць вады вельмі нязначная (0,8 проц.), а ў морах, дзе выпарэньне моцнае, а прэснай вады атрымоўваецца мала, напрыклад, у Чырвоным і Міжземным, салёнасьць вышэйшая, чым у акіяне. Ад не аднальковай салёнасьці вады залежыць разьмеркаваньне і ўлоў некаторых рыб, напрыклад, селядцоў, якія патрабуюць пэўнай салёнасьці вады. На берагох цёплых і сухіх краін з морскай вады, шляхам выпарваньня яе на сонцы ў няглыбокіх саджалках, здабываецца соль.

Акрамя соляй ў морскай вадзе расчынена шмат іншых рэчаў (напрыклад, іод, бром, і інш.), а таксама зьмяшчаецца паветра, у якім менш азота і больш тлёну, чым у паветры над зямлёй.

Морская вада, якая мае росчыну солі і інш. рэчаў, шчыльней за прэсную, таму караблі ў ёй апушчаюцца менш, чым у рэках і вазёрах.

Морская вада, дзякуючы глыбіні мораў, значна больш празрыстая, чым прэсная. Толькі ў берагоў і ў мелкіх морах (Азоўскае, Паўночнае) вада мала празрыстая.

Морская вада бескаляровая, але ў масе, накшталт тоўстага шкла яна мае зеленавата-сіні колер з роўнымі адценьнямі. Колер мора залежыць ад яснага ці пахмурнага надвор'я, ступені салёнасьці вады, глыбіні, прымешкі да вады зямлістых частак, якія прыносяцца рэкамі (Жоўтае мора), ад дробных вадарастоў і жывёл (Чырвонае мора). Салёная вада глыбокіх цёплых мораў (Міжземнае) адзначаецца густой сінявой. [1]) У няглыбокіх і маласалёных морах (Балтыцкае) наглядаецца пераважна мутны жаўтавата-зялёны колер у выніку наяўнасьці глеістых частак.

Сьвячэньне морскай вады ўначы, якое наглядаецца амаль усюды і асабліва моцнае ў трапічных морах, адбываецца ад розных дробненькіх жывёлін, якія самі сьвецяцца, а таксама ад гніеньня арганічных рэштак ў верхніх пластох вады.

Тэмпэратура морскай вады залежыць ад географічнай шырыні і глыбіні. У гарачым поясе вада мораў і акіянаў заўсёды нагрэта звыш 20°ц. Суткавыя і гадавыя ваганьні тэмпэратуры распаўсюджваюцца ня глыбей 100 м. ад паверхні вады. Цёплая вада больш лёгкая і зьмяшчаецца зьверху, а з глыбінёй тэмпэратура вады падае і на дне акіяну нават у гарачым поясе ня звыш +2°ц. На дно палярных мораў тэмпэратура вады ад 0° да —2°. Гэта халодная вада, як больш цяжкая, павольна перасоўваецца па дну ў трапічныя часткі акіянаў і ахаладжвае глыбокія воды гэтых частак.

Вада награваецца і астывае павольняй за паветра, таму паверхня мора заўсёды бывае нагрэта слабей за паветра. Больш паловы морскай паверхні зямное кулі (52 проц.) заўсёды нагрэта звыш

---

[1]) Прычына—паглынаньне салёнай вадою чырвоных праменьняў сонечнага сьвятла. У выніку гэтага, калі апусьціць чырвоны прадмет у морскую ваду, дык на пэўнай глыбіні ён будзе здавацца чорным.

+20°ц і толькі каля $^1/_8$ (13 проц.) мае тэмпэратуру ніжэй +4°ц. Такім чынам,акіян зьяўляецца вялізарнай крыніцы цяплыні для нашай плянэты.

Замярзае вада не пры 0°, а калі яе тэмпэратура паніжаецца да —2—3°ц., пры чым над вадой павінна быць значна халадней. З гэтай прычыны лёд на моры зьяўляецца пазьней, чым на рэках, якія ў яго ўліваюцца, і на суседніх вазёрах.

Палярныя часткі акіяну не замярзаюць суцэльна, але пры вялікіх марозах зімой у іх берагоў і сярод мора ўтвараецца так званы морскі лёд, таўшчынёю звычайна ня больш 2 мэтраў. Ледзяныя палі якія плаваюць па акіяну, займаюць вялізарныя прасторы, часамі ў сотні і нават тысячы кв. кілёмэтраў.

У часе бур ледзяныя палі ломяцца, разьбіваюцца на часткі, якія стыкаюцца і награмаджаюцца адна на другую, ўтвараючы ледзяныя бугры, ці торосы.

Акрамя салёнага морскага лёду ў моры сустракаецца і зусім прэсны лёд. Ён выносіцца ў мора рэкамі ці спаўзае ў ваду з узьбярэжных гор вялізарнымі глыбамі, якія завуцца ледзянымі горамі, ці па нямецку, айзбэргамі. Некаторыя айзбэргі ўзьнімаюцца над вадою мэтраў на 100, а іх падводная частка бывае разоў у пяць большая. Пры тумане айзбэргі зьяўляюцца вельмі небясьпечнымі для караблёў і часта бываюць прычынай іх гібелі. Палярныя морскія льды не пасьпяваюць растапіцца летам і досыць далёка (да 30—40 паралелей) заплываюць у межы мерных паясоў.

## Рух морскай вады.

Мора амаль ніколі ня бывае спакойным, яно нават у зусім ціхае надвор'е зьлегку плешчацца аб берагі і толькі дзе-ні-дзе ў невялічкіх, абкружаных гарамі, бухтах сьцелецца люстэрнаю гладзьдзю.

Рух морскай вады выяўляецца ў хваляваньнях, прылівах, адлівах і морскіх цячэньнях.

### А) Хвалі.

Прычына хваляў—вецер, які націскае на паверхню вады і прымушае суседнюю з месцам ціску ваду паднімацца. Хоць і кажуць, што хвалі бягуць і коцяцца, але на самай справе, у хвалі поўнамерна ўзьнімаюцца і апушчаюцца паасобныя часьцінкі вады, апісваючы пры гэтым акружыню і надаючы такі самы рух суседнім часьцінкам вады. У гэтым лёгка ўпэўніцца, наглядаючы шчэпку, якая плавае ў саджалцы на кругавых хвалях, зьявіўшыхся пасьля паданьня каменя ў ваду.

Пры хваляваньні паверхня вады ўяўляе сабою пукатыя часткі і западзіны ці павышэньні і паніжэньні ў яе сярэднім узроўні. Хвалі адзначаюцца сваёй вышынёй, даўжынёй і хуткасьцю свайго распаўсюджваньня. Вышынёй хвалі называецца адлегласьць ад аснаваньня хвалі да яе грэбня ці вярхавінак; даўжынёй—адлегласьць паміж вярхавінамі двух суседніх хваляй. Пры моцным ветры на вярхавінах хваляў зьяўляюцца і з шумам перавальваюцца пеністыя грэбні, у якіх вада зьмешваецца з паветрам. Велічыня хваляў г. зн. іх вышыня

і даўжыня залежыць ад моцы і пастаянства ветра, велічыні і глыбіні мора.. У невялікіх і няглыбокіх морах хвалі ня бываюць такія высокія, як у акіяне, але за тое больш крутыя, не такія правільныя і таму больш небясьпечныя для караблёў. У Балтыцкім моры ў часы бур вышыня хваляў бывае каля 4 мэтраў, а ў акіяне да 10, іншы раз да 15 мэтраў і ў выключных выпадках даходзіць нават да 20 мэтраў. Даўжыня самых высокіх хваляў дасягае 200 мэтраў. Хуткасьцю хвалі называецца адлегласьць, якую хваля праходзіць у 1 сэкунду часу. Сярэдняя хуткасьць каля 10 мэтраў, найбольшая—да 35 мэтраў. У хвалях, якія зьяўляюцца ў часы землятрасеньняў, хуткасьць дасягае 200 мэтраў. Такія хвалі неспадзявана набягаюць на бераг, утвараючы страшэнныя спусташэньні.

Самыя высокія хвалі наглядаюцца на поўдні Атлянтычнага акіяну, у паўднёвых ускраінах Амэрыкі і Афрыкі.

Заўважым, што з карабля хвалі заўсёды здаюцца вышэйшымі, чым у сапраўднасьці.

На нізкім беразе хвалі перакульваюцца і хутка заліваюць бераг, а потым яны павольна адступаюць, пакуль не надыдуць наступныя хвалі. Аб стромкія берагі хвалі ўдараюцца з страшэннай сілай, ускідваючыся на вышыню да 40 і нават 60 м., ссоўваючы і падрываючы каменныя глыбы ў сотні тон вагою і разьбіваючы дошчанту караблі, прыгнаныя да такога берагу. Моцнае хваляваньне ў берагоў называецца прыбоем. Асаблівай сілай адзначаецца прыбой у заходніх берагох Афрыкі. Прыбой, які разьбіваецца над палоскаю ўзьбярэжных мелей і скал, завецца бурунам.

Хваляваньне ў адчыненым моры менш небясьпечна для караблёў чым у берага. Для абароны ад хваляў, для пагрузкі і выгрузкі карыстаюцца зачыненымі ад ветру бухтамі, а калі іх няма, робяць штучныя гавані, для чаго будуюць каменныя насыпы ці сьцены, якія ўзьнімаюцца з дна мора каля берагу. Калі такая абаронная сьцяна далучаецца да берагу, яна завецца молам, калі не далучаецца і ставіцца перад уваходам у порт,—хваляломам.

У адчыненым моры, калі прыходзіцца спушчаць шлюпку, пры моцным хваляваньні, на ваду льлюць масла, тады хваляваньне каля судна на некаторы час паслабляецца.

У высокіх берагоў хвалі вытворваюць вялізарную руйнуючую работу: адрываюць ад берагу кавалак за кавалкам, пераціраюць каменьні ў жвір, пясок, гліну і такім чынам паступова зьмяншаюць паверхню сухазем‘я. На нізкіх берагох хвалі вытворваюць пераважна творчую работу (гл. вышэй), але яна слабей, чым руйнуючая.

Магчыма, што з цягам часу навука і тэхніка здолеюць скарыстаць у якасьці рухавіка вялізарную дармовую невычарпальную моц морскіх хваляў для розных мэт.

### Прылівы і адлівы.

На берагох акіянаў і мораў, незалежна ад ветру, кожныя суткі адбываюцца прылівы і адлівы вады. На працягу 6 гадзін і 12 хвілін вада паступова прыбывае, заліваючы нізкія берагі і ствараючы ў стромкіх берагоў моцны прыбой. Пасьля гэтага вада столькі-ж часу ўбывае.

Прыліў зараджаецца ў адчыненым акіяне, вышыня яго каля акіянічных выстравоў нязначная, ня больш 1 м., але па меры набліжэньня да сухазем'я яна наростае. На берагох акіяну і адчыненых мораў звычайная вышыня прыліву каля 4 м., але ў вузкіх затоках пад'ём значна вышэйшы і ў некаторых мясцох даходзіць да 12 і нават 30 м. Тлумачыцца гэта тым, што ў доўгай вузкай затоцы першыя хвалі не пасьпяваюць апусьціцца ў той час, калі на іх налётваюць наступныя павялічваючы тоўшчу вады. Ва ўнутраных марах, напрыклад, Чорным і Балтыцкім, прыліў амаль зусім няпрыкметны (у Фінскай затоцы каля 5 см.), бо прыліўная хваля, якая ідзе з акіяну, затрымліваецца ў вузкіх пратоках і раздрабляецца паміж выстравамі.

Прыліў бывае на двух процілеглых бакох зямное кулі, а ў прамежных мясцох, г. зн. на двух другіх процілеглых бакох зямлі, адбываецца адліў. Вышыня прыліву-адліву заўсёды зьмяняецца ў залежнасьці ад напрамку ветра і палажэньня месяца. Самыя вялікія прылівы і адлівы адбываюцца ў часы маладзіка і поўніка, а ў першай і апошняй чвэрці яны слабейшыя. Прыморскія жыхары даўно заўважылі, што прыліў бывае, калі месяц усходзіць і заходзіць, а адліў— калі ён высока ўзьнімаецца на небе.

Прыліў адбываецца ў выніку прыцяганьня вадзяное абалонкі зямлі месяцам і сонцам. Гэтым тлумачыцца, чаму ў часе маладзіка і поўніка прылівы і адлівы бываюць больш моцныя. Прыцягальная дзейнасьць сонца слабейшая, бо сонца знаходзіцца значна далей ад зямлі, чым месяц[1]). Дзякуючы таму, што зямля не пакрыта роўным пластом вады і прасторы акіянаў чаргуюцца з матэрыкамі, дык зьявы прыліву і адліву адзначаюцца складанасьцю і пакуль што нельга дакладна вылічыць вышыню і час наступленьня прыліву ў дадзеным месцы і ў дадзены дзень. Тым ня менш для ўсіх значных гаваняй час наступленьня прыліву вылічваецца на падставе назіраньняў на некалькі гадоў уперад і друкуецца для патрэб суднаходзтва ў морскіх даведальніках.

Прылівы, уваходзячы па дну мора ў вусьці рэк, ачышчаюць іх ад наносаў, паднімаюць на працягу сотен кілёмэтраў узровень рэк і робяць іх даступнымі для вялікіх морскіх суднаў з глыбокай пасадкай. Прылівы былі прычынай росквіту партоў сусьветнага значэньня, як Лёндан, Гамбург і інш. Пасьля адліваў на нізкім беразе застаюцца водаросты, ракі, рыбы і г. д., якія зьяўляюцца здабычай узьбярэжнай беднаты. Прылівамі і адлівамі ўжо дзе-ні-дзе (напрыклад, у Англіі) пачынаюць карыстацца, як дармовай рухавою сілаю для пабудовы млыноў і атрыманьня электрычнай энэргіі. Ужываньне гэтай сілы (сіні вугаль) і ператварэньне яе ў электрычнасьць у прыморскіх краінах можа дасягнуць буйных памераў.

---

[1]) Тлумачэньне прыліваў і адліваў і іх тэорыю даў славуты ангельскі фізык матэматык Ньютон (пам. у 1727 г.) на падставе вынайдзенага ім закона сусьветнага цяжэньня. Па гэтаму закону прыцягваньне цел проста прапорцыянальна іх масам (вазе) адваротна-прапорцыянальна квадрату адлегласьцяў. Калі вага павялічваецца ў два разы, дык і прыцягваньне павялічваецца ў два разы, а калі адлегласьць павялічваецца ў два разы, дык прыцягваньне ў чатыры разы слабее.

### в) Морскія плыні.

У розных мясцох акіяна павольна рухаюцца шырокія (у сотні і тысячы кілёмэтраў) патокі вады, падобныя да рэк, якія завуцца морскімі плынямі. Ад рэк яны адрозьніваюцца тым, што ня маюць нярухомых берагоў, бо галоўны паток з краёў паступова слабее і пераходзіць у спакойныя прасторы. З карабля заўважыць плынь ў акіяне нельга. Мараходы зьвярнулі ўвагу на морскія плыні толькі к канцу XV стагодзьдзя і пачалі вытвараць сыстэматычныя назіраньні (у мора выкідваюцца, а потым вылоўліваюцца бутэлькі з запіскамі з адзначэньнем часу і месца, дзе бутэлька была выкінута) і такім чынам да нашага часу зьявілася карта морскіх плыняў.

Морскія плыні, у залежнасьці ад таго, адкуль яны ідуць, бываюць цёплыя і халодныя. Тэмпэратура першых вышэй тэмпэратуры акружаючай вады, а другіх—ніжэй.

## Значэньне акіянаў і мораў.

Акіяны і моры, якія займаюць 71 проц. зямной паверхні, маюць вялізарнае значэньне ў прыродзе, у жыцьці і дзейнасьці чалавецтва.

Па-першае, акіяны зьяўляюцца першакрініцай усёй вільгаці, якая маецца на сухазем'і і ў паветры. Пад уплывам сонечнай цяплыні вада акіянаў і мораў ператвараецца ў вадзяную пару, якая пераносіцца ветрам на матэрыкі, падае ў выглядзе дажджу, сьнегу і іншых атмосфэрных ападкаў, якія абвадняюць зямлю і папаўняюць крыніцы, рэкі і вазёры, і такім чынам дае магчымасьць існаваць расьлінам, жывёлам і чалавеку. Па-другое, воды акіянаў паглынаюць вялізарную колькасьць сонечнай цяплыні і потым павольна аддаюць яе паветру. Такім чынам, вялікая колькасьць зьяў мёртвай і жывой прыроды на паверхні зямное кулі ў значнай ступені залежыць ад уласьцівасьцяй і разьмяшчэньня мораў і акіянаў. Адны краіны больш залежаць ад акіянаў, другія менш, і гэта стварае паміж краінамі, якія маюць аднолькавую географічную шырыню, больш ці менш значную розьніцу ў клімаце, расьліннасьці, жывёлінным сьвеце, форме жыцьця і дзейнасьці чалавека.

Морскія ўзьбярэжжы ў большасьці выпадкаў больш густа заселены, чым унутраныя часьці матэрыкоў, бо мора дае чалавеку цэлы шэраг крыніц існаваньня і зьяўляецца шляхам для зносін і гандлю.

(Я. И. Руднев, „Начальные сведения по географии", ст. 79—90).

